ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ



# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Кастрычнік
№ 10
(24)
1932

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

**Проф. П. Панкевіч** — Навука ў БССР за 15 год . . . . 3

**Г. Бондар і С. Маргелаў** — Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі БССР у першай пяцігодцы . . . . 13

**М. Ганчарык** — Дасягненьні батанічнай навукі БССР к пятнаццацігодзьдзю Кастрычнікаўскай рэволюцыі . . . . . . 29

**Я. Кукелка** — Польскія працоўныя масы ў соцыялістычным будаўніцтве БССР . . . . . . . . . 39

**В. Скардзіс**—Нацыянальна-культурнае будаўніцтва і літоўскі друк у БССР 48

**Сымон Рак-Міхайлоўскі**—Аб музэях БССР да XV гадавіны Кастрычніка 59

**В. К. Шчарбакоў**—Савецкае Палесьсе . . . . . 65

**П. Н. Кузьмянкоў** — Як і над чым працуе краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім Дзяржаўным Пэдтэхнікуме . . . . . 81

**Г. Кернажыцкі** — Культура цукровых буракоў на Тураўшчыне . . 99

Перадавікі на краязнаўчым фронце . . . . . . . 103

Краязнаўчая бібліографія . . . . . . . . . 105

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ



КАСТРЫЧНІК

№ 10 (24)

МЕНСК — 1932

Проф. П. Панкевіч

# Навука ў БССР за 15 год

Да Кастрычнікаўскай рэволюцыі на тэрыторыі Беларусі ня было ніякіх вышэйшых навучальных і навукова-дасьледчых установаў. Гэта краіна ў той час была аднэй з найбольш адсталых, прыгнечаных частак царскай Расіі. Тут налічвалася няпісьменных ня менш 70%. Толькі пасьля вызваленьня Савецкай Беларусі ад нямецкай і белапольскай окупацыі, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту пачынаецца бурнае разьвіцьцё беларускай пролетарскай культуры. На 3-й сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР у 1921 г. было пастаноўлена адчыніць у Менску Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт у складзе факультэтаў: рабочага, грамадзкіх навук, мэдычнага, сельска-гаспадарчага і фізыка-матэматычнага. 11 ліпеня 1921 г. на ўрачыстым паседжаньні савецкіх устаноў, партыйных і профэсыянальных організацый быў агалошаны дэкрэт ураду БССР аб адчыненьні ўнівэрсытэту. Заняткі ва ўнівэрсытэце фактычна пачаліся 1 лістапада 1921 г. У гэты час на Беларусі налічвалася 78 навуковых працаўнікоў. Унівэрсытэт за час свайго існаваньня організаваў цэлы рад урачыстых паседжаньняў, прысьвечаных тым або іншым важнейшым гістарычным здарэньням. На гэтых паседжаньнях былі заслуханы да 1924 году такія даклады: проф. М. В. Кроля: „Мышленьне і мова“, проф. І. М. Салаўёва: „Школа і задача навуковай пэдагогікі“, проф. Бэркенгейма: „Сучаснае становішча вучэньня аб хэмічным элемэнце“, даклады аб беларускіх пісьменьніках: Якубе Коласе і Янку Купале, даклады аб Дастаеўскім і Некрасаве, проф. Нікольскага: „Рэлігія, як прадмет навукі“ даклады аб Люі Пастэры, Фур'е, аб Каперніку, даклад С. Мелкіх на тэму: „Аб ролі клінік і мэдычнай адукацыі“ і С. Кацэнбогена „Аб спрэчных пытаньнях генэономіі“, даклад проф. М. Піотуховіча аб Франц. Багушэвічы і проф. С. Вольфсона на тэму: „Да пытаньня аб поглядах марксызму на дзяржаву“. Гэты кароткі сьпіс навуковых дакладаў паказвае, што ва ўнівэрсытэце з самага пачатку яго існаваньня пачынала разгортвацца ўсебаковая навуковая работа. Ня гледзячы на тое, што беларускія нацыянал-дэмократы імкнуліся сарваць наша культурнае будаўніцтва. Савецкая Беларусь з самага пачатку дабілася значных посьпехаў на культурным фронце пад кіраўніцтвам КП(б)Б.

У 1924 г. мелася на Беларусі ўжо 4 вышэйшыя навучальныя ўстановы: апроч унівэрсытэту—Сельска-гаспадарчы інстытут ім. Кастрычнікаўскай рэволюцыі, Віцебскі пэдагогічны інстытут, Горацкі

Сельска-гаспадарчы інстытут. У гэты час таксама існаваў Інстытут беларускай культуры, які быў організаваны ў лютым месяцы 1922 г. замест Тэрміналёгічнай комісіі, якая існавала да таго часу ад 1 лютага 1921 г. Статут гэтага Інсытуту быў зацьверджаны 25 ліпня 1924 г. ЦВК БССР.

Згодна паказанага Статуту, Інстытут беларускай культуры ўваходзіць у склад Наркамасьветы і меў „сваім заданьнем пляна-вае дасьледваньне Беларусі з боку яе мовы, літаратуры, этнографіі, гісторыі, прыроды, экономікі, соцыяльна-грамадзкага руху і інш., а таксама аб'яднаньне ў гэтых галінах усёй работы, якая вядзецца як навуковымі і мастацкімі ўстановамі, так і паасобнымі працаўнікамі". Інстытут беларускай культуры быў першай навукова-дасьледчай установай ў БССР.

Ад Навукова-тэрміналёгічнай камісіі Ін. бел. культ. атрымаў вялікую няскончаную працу. Гэта Камісія прыняла 3.500 беларускіх слоў і проектавала 4.184 тэрміны. Задача Інст. Бел. Культуры заключалася ў тым, каб закончыць гэтую працу. У сьнежні 1923 г. пры Інстытуце організавалася Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Да вясны 1924 году ўзьніклі сэкцыі: агронамічная, пэдагогічная, прыродазнаўчая, літаратурна-мастацкая, культурна-гістарычная, мэдычная, а таксама былі створаны і камісія па ўкладаньню слоўніка жывой белар. мовы, дыялектолёгічная камісія, бібліографічная, гісторыографічная, глебава-геолёгічная і інш. Таксама Інбелкульт приступіў да шырокага разгортваньня работы па вывучэньню яўрэйскай культуры на Беларусі, дзеля чаго пры ім быў організаваны адпаведны аддзел замест яўрэйскай гістарычнай камісіі. Яўрэйскі аддзел складаўся з трох камісій—гістарычнай, лінгвістычнай і пэдагогічнай. У 1923 г. Інбелкультам былі організаваны этнографічныя досьледы Беларусі і археолёгічныя раскопкі. Этнографічная экспэдыцыя сабрала вельмі каштоўны матар'ял, які дэманстраваўся на Ўсесаюзнай Сельска-Гаспадарчай Выстаўцы і заслужыў вышэйшую прэмію. Археолёгічная экспэдыцыя знайшла на паверхні зямлі ў курганох розныя прадметы нэолітычнай эпохі.

17—20 красавіка 1924 г. ў Менску адбылася першая Ўсебеларуская конфэрэнцыя навуковых працаўнікоў, якая прадстаўляла 300 нав. працаўнікоў пашыранай Беларусі. Конфэрэнцыя прыняла адозву да навуковых працаўнікоў Заходняй Беларусі, у якой адзначалася, што „нашы вышэйшыя вучэбныя ўстановы ў працягу кароткага часу дасягнулі значных вынікаў, раскінуўшы па ўсёй Беларусі сець дапамагальных навукова-вучэбных устаноў,—клінік, кніжніц, лябораторый і г. д." „Ва ўсіх гэтых установах—кажа адозва—вядзецца вялікая навукова-дасьледчая работа ў галіне тэорытычных досьледаў і практычнага вывучэньня краю: У мурох нашае вышэйшае школы сабрана звыш 8.000 студэнтаў—моладзі, якая ў большасьці сваёй вышла з работніцка-сялянскай масы. Адарваная да гэтага часу ад культуры і ведаў, гэтая студэнцкая маса з вартым зьдзіўленьня захапленьнем заваёўвае раней недасяжныя для яе навуковыя каштоўнасьці.

Нашы вучэбныя ўстановы цесна зьвязаны з працоўнымі масамі Беларусі: з іх выйдуць грамадзкія працаўнікі, лекары, пэдагогі, агрономы, якія ведаюць навакольную рачаістасьць і быт, якія цалкам адданы рабочай клясе і сялянству нашае краіны".

Па дакладу проф. Кроля конфэрэнцыя вынесла рэзолюцыю ў сувязі са сьмерцю Леніна, даючы „абяцаньне бязупынна працаваць па падняцьцю культурнага роўню Савецкага Саюзу на грунце наказаў і ідэй У. І. Леніна".

З 1927-28 году Савецкая Беларусь у асноўным закончыла аднаўленьне сваёй гаспадаркі, якая была разбурана ў выніку імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, і прыступіла да яе рэконструкцыі. Паўсталі новыя задачы ў галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Неабходна было разгортваць шпаркімі тэмпамі культурную рэволюцыю. Абвостраная клясавая барацьба ў нашай краіне адбівалася і на навуковым фронце.

З аднаго боку, праяўлялі значную актыўнасьць вялікадзяржаўныя шовіністы, а з другога—беларускія нацыянал-дэмократы, яўрэйскія, польскія і іншыя нацыяналісты.

У 1926 годзе. БССР мела наступныя навуковыя ўстановы: Інстытут белар. культуры, Белар. дзярж. бібліотэка з аддзяленьнямі ў Віцебску і Магілеве, Бел. кніжная палата, Дзяржаўнэы музэй з аддзяленьнямі ў Віцебску і Магілеве, краязнаўчыя музэі, рэспубліканскія навуковыя таварыствы. Апрача таго, быў оргаізаваны Белар. навукова-дасьледчы інстытут сельскай і лясн й гаспадаркі імя Леніна, куды ўвайшлі навукова-дасьледчыя ўстановы Наркамзему і беларускае аддзяленьне Ін-ту прыкладной ботанікі. Ін-тут белар. культуры ў гэты час меў 77 сапраўдных членаў, 69 членаў-супрацоўнікаў і 60 членаў-корэспондэнтаў. Пры Інбелкульце працавалі аддзелы—яўрэйскі, польскі і літоўскі, якія распрацоўвалі пытаньні культуры адпаведнай нацыянальнасьці. Цэнтральнае бюро краязнаўства аб'яднала 6.185 членаў, раскінутых па ўсёй Беларусі. У гэты час выходзіў часопіс: „Наш край". За 1925/26 год Інбелкульт выдаў навуковыя працы ў колькасьці 160 друкаваных аркушаў і падрыхтаваў да друку 400 аркушаў. Дзяржаўная бібліотэка мела 300.000 тамоў. Яна набыла рад спэцыльных навуковых прац: проф. Случэўскага ў галіне права, проф. Ісаева па біолёгіі, Барысава—па матэматыцы, бібліотэку акад. Грота і г. д.

Бел. кніжная палата з 1925 г. пачала выдаваць: „Летапіс белар. друку", Бел. дзяржаўны музэй абагаціўся каштоўнымі экспонатамі, асабліва па этнографіі. У ім налічвалася каля 2.000 экспонатаў. Былі організаваны навуковыя т-ствы пры Бел. дзярж. унівэрсытэце і Сельска-гаспадарчай акадэміі ў Горках. У 1927 годзе ўзьнікла т-ва гісторыкаў-марксыстаў. Пазьней узьніклі іншыя марксысцкія т-вы—філёзофаў, пэдагогаў, эканомістаў, савецкага будаўніцтва і права, прыродазнаўцаў. Т-ва марксыстаў адыграла вялікую ролю ў барацьбе за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію ў навуцы супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, беларускага нацыянал-дэмократызму, супроць контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, правага опортунізму і г. д.

З вышэйшых навучальных установ у БССР існавалі наступныя: Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт, Сельска-гаспадарчая акадэмія ў Горках, Вэтэрынарны інстытут і Комуністычны ўнівэрсытэт імя Леніна, які ўзьнік у 1925 г. Ня гледзячы на тое, што партыя і ўрад, ажыцьцяўляючы ленінскую нацыянальную політыку, праводзілі рашучую лінію на беларусізацыю і карэнізацыю савецкага апарату, вышэйшыя навучальныя ўстановы на працягу 1925/27 гг. былі беларусізаваны недастаткова. У БДУ ў 1925/26 г. было переведзена выкладаньне на беларускую мову толькі на 14%, у Сельска-гаспадарчай акадэміі—на 10%, у Вэтэрынарным інстытуце—на 2% і толькі ў Комуністычным унівэрсытэце беларусізацыя дасягнула 26%. Слабы процант беларусізацыі тлумачыцца тым, што Савецкая Беларусь, з прычыны адсутнасьці здавальняючай колькасьці сваіх нацыянальных кваліфікаваных кадраў, прымушана была скарыстоўваць у значнай ступені выкладчыкаў-спэцыялістаў, якія прыехалі з іншых рэспублік Саюзу. Падрыхтоўка асьпірантуры за гэты час праходзіла нездавальняюча і мела значныя недахопы з боку социяльнага і нацыянальнага складу і ідэолёгічнага кірунку выкладаньня, дзякуючы нацыянал-опортуністычнаму кіраўніцтву наркамасьветы Баліцкага, які пазьней, у 1929 г., быў зьняты з работы за сваю антыленінскую лінію ў культурным будаўніцтве.

Беларускія нацыянал-дэмократы выявілі найбольш вялікую актыўнасьць якраз у той час, калі Баліцкі стаяў на чале НКА. Яны імкнуліся аўладаць апаратам Наркамасьветы дзеля таго, каб трымаць у сваіх руках уплыў на культурным фронце. Доцэнт Г. Гарэцкі ў сваім артыкуле: „Аб беларусізацыі вышэйшых навучальных установ БССР“ [1], будучы адным з актыўных дзеячоў беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, патрабаваў, каб вярнуць на Беларусь усіх „выдатных“ вучоных, якія выехалі з Беларусі. Спасылаючыся на справачнік Усесаюзнай Акадэміі Навук „Наука в России“, ён даводзіў, што толькі па аднаму Ленінграду лічыцца вучоных-беларусоў наступная колькасьць: „профэсароў—55, доцэнтаў і выкладчыкаў—51, асыстэнтаў—9, лябарантаў—6, навуковых супрацоўнікаў 6 і інш. 49, а разам 176 чалавек. Сярод іх ён называў цэлы рад рэакцыйных імён, напр., філёзофа Лоскага, рэкомэндуючы іх запрашаць на вольныя катэдры БССР. Адначасна беларускія нацыянал-дэмократы імкнуліся падрыхтаваць сваю „беларусізаваную“ зьмену з буржуазных элемэнтаў мясцовага насельніцтва праз сыстэму асьпірантуры. Дзякуючы нацыянал-дэмократычнай політыцы Баліцкага, у складзе асьпірантаў па БССР на 1929 г. вызначалася рабочая праслойка толькі ў 5,5%, затое мелася 15% духоўнікаў і 10% кулакоў і абшарнікаў. Асабліва дрэнны склад асьпірантуры быў па Акадэміі навук і Навукова-дасьледчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі. Апошні меў у 1929 г. каля 20% кулакоў. Дзеля таго, каб найлепш скарыстаць навуковы фронт у мэтах контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму Баліцкі перадае Галоўнавуку пры НКА, у рукі заядлага нацдэма Некрашэвіча,

[1] „Асьвета“, № 6, за 1926 г., стар. 184.

назначыўшы яго старшынёй гэтай установы. У 1926 годзе склікаецца Усебеларуская конфэрэнцыя па рэформе правапісу. Пры садзейнічаньні Ігнатоўскага і Баліцкага гэтая конфэрэнцыя ператвараецца па-сутнасьці ў замаскаваны зьезд нацдэмаў. Прамовы і даклады, прывітаньні (напр., Ластоўскага) і нават зьнешні фон конфэрэнцыі—усё гэта было організавана такім чынам, што адпавядала „стылю“ беларускага нацыянал-дэмократызму. Задачы пролетарскай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва на конфэрэнцыі адышлі на апошні плян, а ў некаторых выпадках нават былі „забыты“. У Інбелкульце ў 1926 г. пачынаюць узмоцнена вывучаць творчасьць Фр. Скарыны ў сувязі з 400-годзьдзем беларускага друку; пры гэтым, нацыянал-дэмократы старанна пішуць і чытаюць навуковыя рэфэраты, даклады і лекцыі аб Скарыне у тым кірунку, каб прадставіць яго асновапаложнікам сучаснай беларускай культуры. Гэтага буржуазнага гуманіста сярэдневяковых часоў яны ператвараюць у свайго адзінага правадыра. Тое-ж самае яны робяць з буржуазным дэмократам сярэдзіны XIX ст. Кастусём Каліноўскім, якога разглядаюць у якасьці нацыянальнага героя. Працаўнікі Інбелкульту многа аддаюць сіл і часу, каб апраўдаць тэорыю самабытнасьці гістарычнага процэсу Беларусі і тэорыю адзінства беларускага народу.

Мовазнаўства, літаратура, гісторыя, этнографія, экономіка, антраполёгія і іншыя галіны навукі распрацоўваюцца нацыянал-дэмократамі ў кірунку апраўданьня рэакцыйнай ідэі беларускага „адраджэнчаства“ і контррэволюцыйных спроб рэстаўрацыі буржуазнай дзяржавы. Усё, што так або інакш зьвязана з пролетарскай культурай і з савецкім ладам, рэклямуецца імі, як маскальскае. Абвяшчаецца рашучая барацьба супроць культуры чырвонай Масквы і бярэцца адкрытая орыентацыя на буржуазны Захад і ў першую чаргу ў бок засваеньня польскай буржуазнай культуры.

Беларускія нацыянал-дэмократы вядуць ідэолёгічную і організацыйную падрыхтоўку да інтэрвэнцыі з боку сусьветнага капіталу супроць краіны саветаў.

Адначасна на навуковым фронце назіраюцца праявы вялікадзяржаўнага шовінізму. У паасобных артыкулах і працах, а таксама і выступленьнях на розных сходах і конфэрэнцыях выказваюцца думкі аб тым, нібы-та беларуская мова не зьяўляецца мовай беларускага народу, нібы-та яна недастатковa распрацавана для таго, каб на ёй выкладаць навуковыя дысцыпліны. Некаторыя навуковыя працаўнікі адкрыта выступаюць супроць беларусізацыі.

Комуністычная партыя, ажыцьцяўляючы ленінскую нацыянальную політыку, пасьлядоўна праводзіла барацьбу на два фронты: і супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на пераживаемым этапе, і супроць беларускага нацыянал-дэмократызму і нацыяналізму іншых кірункаў і колераў. На пленумах ЦБ сэкцыі навуковых працаўнікоў заслухоўваліся даклады аб клясавай барацьбе на навуковым фронце БССР. У вышэйшых навучальных і навукова-дасьледчых установах праводзіліся сходы, конфэ-

рэнцыі і дыскусіі, прысьвечаныя барацьбе за ленінскую нацыянальную політыку партыі супроць розных нацыяналістычных праяў сярод навуковых працаўнікоў і студэнцтва.

З 1928 году Савецкая Беларусь, як і ўвесь Савецкі Саюз, прыступіла да соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і да разьвіцьця індустрыялізацыі на падставе ажыцьцяўленьня першай пяцігодкі. Вялася барацьба за лёзунг партыі: „пяцігодка—у чатыры гады“ і за ліквідацыю кулака, як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі. Капіталістычныя элемэнты нашай краіны аказвалі страшэннае супраціўленьне соцыялістычнаму наступу. Сярод навуковых працаўнікоў узьнікаюць групы шкоднікаў, якія накіроўваюць свае намаганьні на тое, каб сарваць ажыцьцяўленьне бальшавіцкай пяцігодкі і падрыхтаваць зноў глебу для інтэрвэнцыі ўнутры краіны. У гэтых умовах абвостранай клясавай барацьбы нараджаецца Беларуская Акадэмія Навук, якая організуецца ў студзені 1929 г. Разам з тым ў Савецкай Беларусі ствараецца цэлы рад Інстытутаў і навукова-дасьледчых станцый: Ін-т прамысловасьці, Ін-т Комвыхаваньня, Бульбяная станцыя, Ін-т мэханізацыі сельскай гаспадаркі, Балотны інстытут, Станцыя ільну і канапель, Вэтэрынарны інстытут і г. д. Таксама адчыняюцца і новыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, галоўным чынам, тэхнічныя і сельска-гаспадарчыя: хэміка-тэхнолёгічны ін-тут, будаўнічы інстытут і інш. Да гэтага часу тэхнічных вышэйшых навучальных установ на Беларусі зусім ня было.

Беларускія нацыянал-дэмократы за гэты час імкнуцца аўладаць галоўным чынам, дзьвюма ўстановамі: Беларускай Акадэміяй Навук і Навукова-дасьледчым інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі. Пад нацыянал-опортуністычным кіраўніцтвам Ігнатоўскага Беларуская Акадэмія Навук займаецца больш за ўсё распрацоўкай проблем старажытнай і сярэднявяковай гісторыі, удзяляючы многа ўвагі царкоўнаму мастацтву. Проблемы соцыялістычнага будаўніцтва яе амаль зусім ня цікавяць. Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі пад кіраўніцтвам нацыянал-дэмократа Гарэцкага ўзмоцнена распрацоўвае проблемы хутарызацыі сельскай гаспадаркі Беларусі, зьяўляючыся надзейным праваднікам нацдэмаўскай політыкі тагочаснага наркамзема Прышчэпава. Вакол гэтага Інстытуту групуюцца сяляне-дасьледчыкі, якія вярбуюцца з асяродзьдзя кулакоў.

Пролетарская грамадзкасьць пад кіраўніцтвам партыі дала рашучы бой беларускай контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыне. У 1929 г. зьнімаюцца з работы наркамасьветы Баліцкі і наркамзем Прышчэпаў, а ў 1930 г. выкрываецца ДПУ контррэволюцыйная організацыя беларускіх нацыянал-дэмократаў. Нацыянал-дэмократычная тэорыя руйнуецца пад агнём бальшавіцкай крытыкі. Але, зразумела, нацдэмаўшчына яшчэ і дагэтуль канчаткова ня зьнішчана, паколькі ў нашай краіне пакуль што застаюцца клясы і клясавая барацьба. Навуковы фронт, аслабанёны ад найбольш актыўных нацыянал-дэмократычных элемэнтаў, пачынае хутка перабудоўвацца ў кірунку набліжэньня навукова-дасьледчай работы да актуальных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Беларуская Акадэмія Навук карэнным чынам рэорганізуецца і ўмацоўваецца пролетарскімі кадрамі. Згодна пастановы Саўнаркому ад 13 мая 1931 году яна ператвараецца ў мэтодолёгічны цэнтар навукова-дасьледчай работы БССР. У канцы 1931 году і пачатку 1932 году вялікую ролю для навуковага фронту адыграў ліст тав. Сталіна на імя рэдакцыі часопісу „Пролетарская рэволюцыя“. На падставе гэтага ліста была разгорнута ў шырокім маштабе бальшавіцкая самакрытыка сярод навуковых працаўнікоў, ахапіўшы сабой асабліва марксысцкія таварыствы. У рэзультаце абгаварэньня ліста тав. Сталіна былі выкрыты розныя опортуністычныя тэндэнцыі, праявы і плыні ў навуковай продукцыі БССР. Асабліва пасьпяхоўна праводзілася барацьба супроць трацкісцкай контрабанды ў навуковай літаратуры, супроць гнілога лібэралізму, а таксама супроць праяў вялікадзяржаўнага шовінізму і нацыянал-дэмократызму. На падставе ліста тав. Сталіна тэорытычная думка была ўзьнята на значную вышыню. Цяпер навуковы фронт БССР прыходзіць да 15-годзьдзя Кастрычнікаўскай рэволюцыі з пэўнымі посьпехамі і дасягненьнямі. Гэтыя посьпехі аказаліся мажлівымі толькі ў нас, ва ўмозах дыктатуры пролетарыяту, дзякуючы правільнаму ажыцьцяўленьню генэральнай лініі нашае слаўнае ленінскае партыі бальшавікоў, пад кіраўніцтвам тав. Сталіна.

На III квартал 1932 году ў БССР налічваецца 54 навукова-дасьледчыя ўстановы. У іх маецца на 1 ліпня г. году 1142 навуковых працаўніка, з якіх 355 чал. кіруючага складу (31%) і 787 іншых катэгорый (69%). Па нацыянальнасьці гэтыя навуковыя працаўнікі разьмяркоўваюцца такім чынам: беларусаў—46,6%. яўрэяў—31,9%, расійцаў—15,8%, палякаў—1,8%, літоўцаў—0,8%, іншых—3,1%. У навукова-дасьледчых установах БССР сярод навуковых працаўнікоў ёсьць 6,6%. рабочых, 18,4% партыйцаў і 4% комсамольцаў. Па лініі нацыянальнага складу трэба прызнаць недастатковым процант беларусаў і палякаў.

У складзе Беларускай Акадэміі Навук маецца 12 інстытутаў: гісторыі, мовы, літаратуры і мастацтва, філёзофіі, экономікі, савецкага будаўніцтва і права, геолёгіі, хэміі, агроглебавы, фізыка-тэхнічны, псыхонэўролёгічны, біолёгічны, а таксама 4 нацыянальных сэктары: яўрэйскі, польскі, літоўскі і латыскі, камісія па вывучэньню Заходняй Беларусі, сэктар масавай работы і краязнаўства і інстытут асьпірантуры. На 1 студзеня 1932 году ў Беларускай Акадэміі Навук налічвалася 138 навуковых працаўнікоў, а зараз 168. З іх—22 акадэміка, 60 вучоных спэцыялістаў і 56 навуковых працаўнікоў. У складзе навуковых працаўнікоў БАН ёсьць 58 партыйцаў (42%). Па соцыяльнаму паходжаньню: з рабочых—13%, з сялян—37%, з служачых—27%, з саматужнікаў—9% і іншых—9%. Па нацыянальнасьці: беларусаў—53%, яўрэяў—26%, палякаў—4%, расійцаў—11%, латышоў—2%, літоўцаў—2%, немцаў—2%. Такім чынам па БАН мы маем большы процант партыйцаў, рабочых і беларусоў, чым на ўсім іншым навукова-дасьледчым установам БССР. Асабліва нездавальняючы склад навуковых працаўнікоў па нацыянальнасьці і партыйнасьці назіраецца ў Інстытуце прамысловасьці. Тут налічваецца беларусаў—22,9%, яўрэяў—46,8%,

расійцаў—21,8%, палякаў—4,8%, іншых—3,7%. Партыйцаў тут мы маем 5,7% і комсамольцаў—9,5%. Рабочых у Інстытуце прамысловасьці ў процантных адносных амаль столькі-ж, колькі і ў БАН, а менавіта—12,4%.

Для таго, каб паказаць рост навуковых працаўнікоў па вышэйшым і навукова-дасьледчым установам ў БССР, дастаткова напомніць наступныя лічбы: у 1921 г. было 78 навуковых працаўнікоў, у 1924 г.—300, у 1928—512, у 1931—1500, а зараз каля 2.000 чал.

На 1 студзеня 1932 г. ў БССР мелася 38 вышэйшых навучальных ўстаноў, з якіх 6 індустрыяльных, 8 сельска-гаспадарчых 4 социяльна-экономічных, 6 пэдагогічных і г. д.

Значныя дасягненьні мы маем у справе падрыхтоўкі асьпірантаў. Усяго па БССР на 1 студзеня 1932 г. мелася 397 асьпірантаў. З іх: рабочых—28%, партыйцаў—61%, беларусаў—55%. Больш за ўсё асьпірантура сконцэнтравана ў Беларускай Акадэміі Навук, дзе налічвалася 273 чалавек. З іх рабочых—28,5%, сялян—40,6%, служачых—13,5%, іншых7%; партыйцаў—66,3%, комсамольцаў—15%. Склад асьпірантуры з кожны разам паляпшаецца. Ужо на III квартал 1932 г. мы маем па навукова-дасьледчым установам БССР 412 асьпірантаў, хаця яшчэ новы набор не закончаны. З гэтай колькасьці налічваецца беларусаў—57% яўрэяў—30%, расійцаў—3,9%, палякаў—1,5% і г. д. Колькасьць беларусаў узрасла на 2% у параўнаньні з пачаткам году. Недастаткова яшчэ і дагэтуль праслойка палякаў. Рабочых цяпер мы маем 30,8,%, партыйцаў—64,8%, комсамольцаў—16,6%. Такім чынам, паступова паляпшаецца социяльны склад асьпірантуры.

Навукова-дасьледчая работа ў БССР на працягу 1932 году ў асноўным падпарадкавана актуальным задачам социялістычнага будаўніцтва. Выключнае значэньне для разгортваньня навуковадасьледчай работы мае пастанова ЦК КП(б)Б аб Бел. Ак. Навук і пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб культурным будаўніцтве ў БССР у красавіку 1932 г. Дзеля таго, каб даць уяўленьне аб характары і кірунку нав.-дасьлед. работы, падамо некаторыя лічбовыя даныя за II і III квартал 1932 г. За II квартал па 36 навукова-дасьледчым ўстановам намечана па плянам для распрацоўкі 546 навуковых тэм, з іх па прамысловасьці—30,3%, па сельскай гаспадарцы—42,1%. Тэмы, якія зьвязаны з барацьбой на два фронты ў навуцы, складаюць—5,1%. Намечана выдаць кніг 281. На працягу III кварталу 1932 году распрацоўваецца 470 тэм і намечана выпусьціць 231 брошуру. Наогул, па ўсім навукода-дасьледчым ўстановам БССР пляны 1932 г. маюць 1.055 навуковых тэм, з якіх ідуць па прамысловасьці—25,6% і па сельскай гаспадарцы—34%. Мэтодолёгічныя проблемы займаюць 16,7%. Калі ўлічыць, што навукова-дасьледчыя ўстановы, як адзначана вышэй, маюць зараз 1.142 навуковых працаўніка, дык атрымліваецца, што на аднаго працаўніка ў сярэднім прыходзіцца 1 навуковая тэма. Беларуская акадэмія навук па пляну 1932 г. мае 273 навуковыя тэмы, з іх па социяльным навукам—168 і па прыродазнаўчым—105. З практычнымі пытаньнямі социялістычнага будаўніцтва зьвязаны 149 тэм, з нацыянальным пытаньнем—98, з барацьбой на два фронты—44. Зьмест

навукова-дасьледчай работы ў асноўным наступны: вывучэньне дыханьня зімуючага зерня, умовы культуры сої ў БССР, хваробы бульбы і барацьба з імі, шкоднікі рагатай жывёлы, фаўна Заходняй Беларусі, уплыў зімы на гібель азімых, разьмеркаваньне каранёвай сыстэмы вядучых культур БССР, дынаміка форм кіслотнасьці па розным глебавым тыпам у розных севазваротах, хэмічны склад мэханічных фракцый па генэтычным горызонтам глебавых тыпаў БССР, фізыка-хэмічныя ўласьцівасьці балотных глеб, аб нормальных тэрмінах сельска-гаспадарчых палявых прац, аб захаваньні сельска-гаспадарчых культур ад замаразкаў, паляпшэньне коэфіцыентаў моцнасьці электраўстановак БССР. Аналіз пабудовы шкла і алюмінія, проблема конструкцыі ветранога рухавіка ва ўмовах БССР, навуковае абгрунтаваньне гарбаваньня торфам, узбагачэньне фосфарытаў, здабываньне тлушчавых алеяў з расьлін, экономічнае разьвіцьцё Беларусі ў XX ст., сыр'явыя і энэргетычныя рэсурсы БССР, проблема „Большого Днепра“, соцыялістычная рэконструкцыя гарадоў, крытыка нацдэмаўскіх і вялікадзяржаўных концэпцый у гістарычных працах, нацыянальнае пытаньне ў другой пяцігодцы, філёзофія і політыка ў працах Леніна і Сталіна, ленінскі этап у філёзофіі, соцыял-фашызм і рэлігія ў Аўстрыі і Германіі, проблема беларускага правапісу, складаньне слоўніка розных нацыянальнасьцяў і г. д. Тут мы ня можам пералічыць усе проблемы, над якімі цяпер працуе Акадэмія. Але і гэтых проблем даволі, каб прадставіць сабе характар і кірунак навукова-дасьледчай работы паказанай установы. У гэтым годзе праведзена вялікая комплексная экспэдыцыя па вывучэньні культуры, быту і прыроды Палесься. Геолёгічныя экспэдыцыі ахапілі плошчу для вывучэньня ў 600 тыс. га ў раёнах—Мазырскім, Жлобінскім, Буда-Кашалёўскім, Хойніцкім, Брагінскім і г. д. У рэзультаце гэтай экспэдыцыі адкрыты новыя запасы бурых жалезьнякоў з окісьсю жалеза—30—50%, розныя гліны, крэйда, маргель, гравій і г. д. Экспэдыцыя аграглебавага інстытуту БАН ахапіла плошчу ў 300 тыс. га і дала вялікі матар'ял для складаньня 3-вёрснай глебавай зьёмкі ўсёй БССР, на падставе чаго распрацавана адпаведная карта глебавых раёнаў. Экспэдыцыі Біолёгічнага інстытуту БАН далі значны рэзультат па вывучэньню сої ў БССР, якасьці сенажаці, шкоднікаў малочнай жывёлы на Палесьсі, шкоднікаў люпіна, хваробы бульбы, па выяўленьні заражонасьці скатa трыхінай і інш. Беларуская Акадэмія Навук выдала навуковую продукцыю ў мінулым годзе ў колькасьці 500 друкаваных аркушоў, а сёлета намечана 1295, рост больш чым ў два разы. Таксама значныя дасягненьні маюцца і па іншым навукова-дасьледчым ўстановам. Напрыклад, ін-т прамысловасьці за кароткі час свайго існаваньня даў цэлы рад вынаходзтваў—выраб паперы з льнянай кастры, сконструявана печка для спальваньня торфу і г. д. Інстытут аздараўленьня і організацыі працы распрацаваў проблемы: „Аб ажыцьцяўленьні 6 ўмоў тав. Сталіна ў лясной прамысловасьці БССР“, „Аб брыгадным гаспадарчым разьліку ў швэйнай прамысловасьці“, „Коэфіцыент карыснага дзеяньня, як паказчык эфэктыўнасьці „вэнтыляцыі“, „Профэсыяграфія строголя“ і інш.

Балотны інстытут займаецца проблемай асушэньня балотных зямель, рэгуляваньнем палескіх рэк, спэцыялізацыяй сельскай гаспадаркі на асушаных балотах і г. д. Горацкая станцыя малочнай жывёлы распрацавала нормы і формы мінэральных угнаеньняў пад кармовыя палявыя культуры, проблему продукцыйнасьці сілосных культур, пытаньне аб уплыве скармліваньня розных відаў сілосу на якасьць малака, масла і сыра, стандарты разьвіцьця маладняка швіцкага ската і інш. Інстытут комвыхаваньня вывучае політэхнічную школу, проблемы выкладаньня паасобных дысцыплін, політасьветную работу, піонэр-рух і г. д. Гэтыя прыклады паказваюць, што навукова-дасьледчая работа ў БССР разгортваецца шпаркімі тэмпамі і абслугоўвае непасрэдныя патрэбы социялістычнага будаўніцтва. Рэзультат працы навукова-дасьледчых установ цяпер адбіваецца на ўздыме соцыялістычнай вытворчасьці, на організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, на далейшым разьвіцьці барацьбы за пабудову культуры—нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу. На працягу другой пяцігодкі намячаецца адчыненьне новых навукова-дасьледчых і вышэйшых навучальных установ, а таксама значна павялічваецца аб'ём і якасьць навукова-дасьледчай работы. У той час як Савецкая Беларусь мае вялікія посьпехі ў сваім гаспадарчым і культурным будаўніцтве, заканчваючы пяцігодку ў чатыры гады і прыступаючы да ажыцьцяўленьня другой пяцігодкі, Заходня Беларусь, якая знаходзіцца пад гнётам польскага фашызму, перажывае глыбокі экономічны і культурны заняпад: там няма беларускіх вышэйшых і навукова-дасьледчых установ і там зачыняюцца нават апошнія беларускія школы. Толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту можна будаваць нацыянальную пролетарскую культуру.

Г. Бондар і С. Маргелаў

# Социялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі БССР у першай пяцігодцы[1])

На ўрачыстым паседжаньні, прысьвечаным XIV-годзьдзю Кастрычнікаўскай рэволюцыі, у 1931 годзе т. Молатаў гаварыў, што „значэньне славутых перамог пролетарыяту ў Кастрычнікаўскую рэволюцыю характарызуецца больш за ўсё тым, што мы ўжо маем абсолютную перавагу социялістычных форм гаспадаркі ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Ня толькі ў прамысловасьці капіталістычныя элемэнты біты, але і ў сельскай гаспадарцы, г. зн. у найбольш адсталай галіне народнае гаспадаркі, посьпехі сучаснае колектывізацыі і будаўніцтва савгасаў забясьпечылі пануючае становішча социялістычных форм над капіталістычнымі, ды і над дробнаўласьніцкаю сялянскаю гаспадаркаю.

Такім чынам, у барацьбе социялістычных і капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне социялізм перамог. На ленінскае пытаньне—„хто каго?"—ці пераможа социялізм капіталістычныя элемэнты, або, наадварот, капіталістычныя элемэнты зломяць рост социялізму, мы маем ужо вычэрпваючы адказ. Рабочая кляса, абапіраючыся на пераважную масу сялянства, аб'яднанага ў колгасы, перамагла капіталістычныя элемэнты. Тым самым справа социялізму ў нашай краіне поўнасьцю і канчаткова забясьпечана."

З часу гэтых слоў т. Молатава прайшоў год. За гэты час справа социялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі яшчэ больш узмацнілася.

XVII партыйная конфэрэнцыя ў сваіх пастановах таксама зазначыла, што важнейшым вынікам социялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы, які прадвырашае поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне кляс.

Практычна ажыццяўляючы ленінскую нацыянальную політыку, *працоўныя БССР, пад кіраўніцтвам* КП(б)Б і яе ЦК, падыходзяць да другой пяцігодкі з вялізарнымі дасягненьнямі на ўсіх франтох социялістычнага будаўніцтва. Асноваю гэтых дасягненьняў зьяўляецца „політыка індустрыялізацыі, уздым цяжкой індустрыі, разгортваньне вырабу сродкаў вытворчасьці" як у СССР наогул, так і ў БССР.

---

[1] Больш разгорнуты артыкул на гэтую тэму даецца аўтарамі ў Кастрычнікаўскім № часопісу „Социялістычнае будаўніцтва".

Індустрыялізацыя БССР, як аснова падцягваньня да перадавых раёнаў СССР, зьяўляецца адным з яскравых прыкладаў правільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Дзякуючы дапамозе пролетарыяту ўсяго СССР, мы разьвівалі нашу прамысловасьць форсаванымі тэмпамі, якія зьяўляюцца вышэйшымі за сярэднія тэмпы па СССР.

Ператвараючыся хуткімі тэмпамі з аграрнай краіны ў краіну індустрыяльна-аграрную, БССР на гэтай аснове мела магчымасьць дасягнуць вялікіх посьпехаў у социялістычнай рэконструкцыі ва ўсіх галінах гаспадаркі і ў прыватнасьці ў сельскай гаспадарцы.

У выніку пасьпяховага ходу вырашэньня найскладнейшай проблемы социялістычнага будаўніцтва—ператварэньня дробнай селькаай гаспадаркі ў буйную социялістычную гаспадарку—працоўнымі Савецкае Беларусі, разам з працоўнымі ўсяго СССР, пытаньне „хто каго" вырашана і ў сельскай гаспадарцы на карысьць социялізму.

Нашы дасягненьні на шляху социялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадакі асабліва грандыёзны, калі прыняць пад увагу, што ў спадчыну ад царскага ладу ў галіне сельскае гаспадаркі нам дасталіся літаральна руіны.

Цяпер, калі мы падыходзім да другой пяцігодкі,—пяцігодкі пабудовы бясклясавага социялістычнага грамадзтва—капіталістычны сьвет курчыцца ў сударгах экономічнага крызісу. Руйнуецца разьвіцьцё вытворчых сіл наогул, разбураюцца вытворчыя сілы ў галіне сельскае гаспадаркі.

Заходняя Беларусь, якая знаходзіцца пад капіталістычным ботам фашысцкае Польшчы, можа зьяўляцца характэрным прыкладам па разбурэньню вытворчых сіл у галіне сельскае гаспадаркі ў выніку крызісаў, у выніку колёніяльнае політыкі фашысцкае Польшчы.

Контррэволюцыйныя нацдэмы і іншыя шкоднікі, якія ўсякімі сродкамі з ўсіх сіл працавалі над зрывам социялістычнага будаўніцтва на БССР., рыхтавалі для нашае сельскае гаспадркі той лёс, які цяпер перажывае сельская гаспадарка Заходняй Беларусі. Там, сучасныя зямельныя адносіны цалкам падобны да зямельных адносін часоў царызму. Захоўваюцца прынцыпы царызму ў колёніяльнай аграрызацыі краю. Па-капіталістычнаму ідзе дыфэрэнцыяцыя вёскі, з „расьсяляньваньнем" сярэдніх груп сялянства, зграмаджэньнем на адным баку вёскі галечы эксплёатаваных, а на другім—багацьця кучкі эксплёататараў. Пад цяжкім ярмом социяльнага і нацыянальнага ўціску задыхаецца ад нязьлічоных падаткаў працоўнае насельніцтва вёскі. Голад, беспрацоўе, поўнае социяльнае і нацыянальнае бясправе—вось што пануе ў Польшчы і Заходняй Беларусі.

Вялізарны ўзрост вытворчых сіл краіны, на аснове яе індустрыялізацыі, социялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі, уздым усяе народнае гаспадаркі, рост продукцыйнасьці працы, усё ўзрастаючы ровень матар'яльнага і культурнага дабрабыту працоўных—вось тыя вынікі, якія мае БССР.

З першых-жа дзён замацаваньня Кастрычніка на Беларусі, працоўнае сялянства атрымала ў сваё карыстаньне зямельны фонд, роўны 1.135.000 га. Гэты зямельны фонд у карыстаньні

працоўнага сялянства з кожным годам павялічваўся за кошт абрэзкі кулацкіх зямель і мэліорацыі. Паводле даных за 1926 год на сялянскае зямлекарыстаньне прыпадала 71,2% усяе зямлі.

Карэнным чынам зьмяніліся соцыяльна-эканомічныя процэсы ў вёсцы. Гэтыя зьмены заключаюцца ў тым, што „ў супроцьлегласьць капіталістычнаму тыпу разьвіцьця, які выражаецца ў аслабленьні і ў „вымываньні“ сярэдняга сялянства пры росьце крайніх груп—беднаты і кулацтва—у нас, наадварот, адбываўся процэс узмацненьня групы серадзякоў пры некаторым росьце кулацкай групы за кошт заможнай часткі серадзякоў і пры скарачэньні груп беднаты, з якіх некаторая частка пролетарызавалася, а другая, больш значная частка, паступова перасоўвалася ў групу серадзякоў“.

Вялікая дапамога з боку савецкае ўлады бядняцка-серадняцкаму сялянству праз розныя ільготы, крэдыт, забесьпячэньне інвэнтаром, угнаеньнямі, насеньнем, вызваленьнем бядняцкіх гаспадарак ад падатку і г. д.—усё гэта дало магчымасьць досыць хутка ня толькі аднавіць даваенны ровень, але і перавысіць яго ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі.

Так, засеўная плошча ўжо ў 1927-28 годзе, у параўнаньні з 1913 годам, узрасла на 11,4%. У параўнаньні з 1916 годам колькасьць коняй узрасла на 22,2%, кароў на 41,3%, авечак—на 85,7%, сьвіней—на 27,2%.

Новая экономічная палітыка ўзмацніла позыцыі пролетарыяту на ўсіх франтох соцыялістычняга будаўніцтва, у тым ліку і ў сельскай гаспадарцы.

Але, калі ў аднаўленчы пэрыод хуткі ўздым індывідуальнага землярobства быў дасягнуты ў першую чаргу за кошт асваеньня былых панскіх, казённых і кулацкіх зямель, то пры завяршэньні ў асноўным аднаўленчага пэрыоду выявілася „абмежаваная магчымасьць разьвіцьця дробнае гаспадаркі і ў асаблівасьці росту яе таварнасьці пры даных яе разьмерах і спосабах вытворчасьці“ (з пастаноў XVI партконфэрэнцыі). Гэта зьявілася тормазам соцыялістычнага будаўніцтва ў частцы задавальненьня сыравінай нашай індустрыі і сродкамі харчаваньня насельніцтва.

Але, „калі пры завяршэньні ў асноўным аднаўленчага пэрыоду выявіліся абмежаваныя магчымасьці далейшага хуткага росту дробных гаспадарак, то адначасна вырасьлі якасна і колькасна рэсурсы пролетарскае дзяржавы, даючы магчымасьць выкарыстаць перавагі савецкае сыстэмы для паскарэньня тэмпу пад‘ёму сельскай гаспадаркі на базе новай машыннай тэхнікі і аб‘яднаньня дробных гаспадарак на аснове колектыўнае працы“. Усё гэта цалкам сьцьвердзіла правільнасьць коопэрацыйнага пляну Леніна і дала падставу партыі ўжо на XV конфэрэнцыі ЎсеКП(б) даць лёзунг аб тым, што „ў сучасны пэрыод задача аб‘яднаньня іператварэньня дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак у буйныя колектывы павінна быць пастаўлена ў якасьці асноўнай задачы партыі на вёсцы“.

Паварот сялянства ў бок колектывізацыі, як гаварыў т. Сталін на XVI партзьезьдзе, пачаўся не адразу. Для гэтага павароту мала абвяшчэньня адпаведнага лёзунгу. „Для павароту патра-

буецца, прынамсі, яшчэ адна абставіна, а менавіта, каб самі сялянскія масы ўнэўніліся ў правільнасьці абвешчанага лёзунгу і прынялі яго, як свой уласны лёзунг.

Пагэтаму паварот гэты падрыхтоўваўся паволі. Падрыхтоўваўся ён усім ходам нашага разьвіцьця, усім ходам разьвіцьця нашай індустрыі і, перш за ўсё, разьвіцьцём індустрыі, якая дае машыны і трактары для сельскае гаспадаркі. Падрыхтоўваўся ён палітыкай рашучай барацьбы з кулацтвам і ходам нашых хлебазагатовак у яго новых формах за 1928-29 г.г., ставячых кулацкую гаспадарку пад контроль бядняцка-серадняцкіх мас. Падрыхтоўваўся ён разьвіцьцём сельска-гаспадарчай коопэрацыі, прывучаючы індывіуальнае сялянства да колектыўнага вядзеньня справы. Падрыхтоўваўся ён сеткаю колгасаў, дзе селянін правяраў пераваґу колектыўных форм гаспадаркі перад індывідуальнай гаспадаркай. Падрыхтоўваўся ён, нарэшце, сеткаю раскіданых па ўсяму СССР і ўзброеных новай тэхнікай савгасаў, дзе селянін атрымліваў магчымасьць упэўніцца ў сіле і перавагах новай тэхнікі. Было-б памылкова бачыць у нашых савгасах толькі крыніцу хлебных рэсурсаў. На самай справе савгасы з іх новай тэхнікай, з іх дапамогаю навакольнаму сялянству, з іх нявіданым гаспадарчым размахам зьявіліся той вядучай сілай, якая палегчыла паварот сялянскіх мас і рушыла іх на шлях колектывізацыі.

Вось на якой аснове ўзьнік той масавы колгасны рух мільёнаў беднякоў і серадлякоў, які пачаўся ў другой палове 1929 году і які адчыніў сабою пэрыод вялікага пералому ў жыцьці нашай краіны“.

Рашучы паварот серадняка да колгасу і посьпехі ў сельскай гаспадарцы на аснове яе соцыялістычнай рэконструкцыі далі магчымасьць партыі перайсьці ад палітыкі абмежаваньня эксплёататарскіх імкненьняў кулака да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. XVI партзьезд констатаваў, што соцыялістычныя адносіны ў СССР, якія абапіраліся дагэтуль амаль выключна на соцыялістычную прамысловасьць, пачалі „абапірацца таксама“ і на хутка растучы соцыялістычны сэктар (буйную вытворчасьць, у выглядзе колгасаў і савгасаў) у сельскай гаспадарцы“. Адпаведна гэтаму, па-новаму было пастаўлена пытаньне аб апоры савецкае ўлады на вёсцы. „Ад гэтага часу ў важнейшых зярнёвых раёнах СССР вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: на колгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, і на неколгасьнікаў з беднаты і серадлякоў, пакуль яшчэ не жадаючых увайсьці у колгасы, але якіх масавая практыка колгасаў бязумоўна перакапае ў параўнаўча-кароткі тэрмін у патрэбе ўступіць на шлях колектывізацыі“.

Згодна даных кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту („Матар'ялы па выкананьню пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва БССР“, выпуск першы, Менск 1932 г.) і Дзяржпляну БССР, мы мелі ў першай пяцігодцы наступны рост савгасаў:

| | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік савгасаў. . . . . . . . . . | 210 | 218 | — | 358 | 365 |
| Пасяўная плошча ў тыс. га . . . . . | 41,6 | 42,4 | 58,6 | 115,5 | 240,0 |

Гэтыя лічбы сьведчаць аб банкруцтве шкодніцкіх „тэорый“ пра адсутнасьць пэрспэктыў росту савгасаў. Гэтыя пасьлядоўна соцыялістычнага тыпу гаспадаркі зьяўляюцца, разам з МТС, магутнымі вагарамі соцыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі. Па засеўнай плошчы ў 1931 годзе савгасы займалі ў агульнай засеўнай плошчы рэспублікі — па зернавых 3,1%, па тэхнічных — 1,3%, а ўсяго—3,2%. Па жывёлагадоўлі адносная вага савгасаў была роўна — па конях 2,3%, па буйной раг. жывёле 4,1%, па сьвіньнях—5,5%.

Калі ў 1928 годзе агульная тэрыторыя пад савгасамі складала 125.000 га, дык у 1931 гаду яна даведзена да 600.000 га і паводле пляну на 1932 год намечана давесьці агульную тэрыторыю пад савгасамі да 800.000 га.

Расьце з году ў год матар'яльная база савгасаў. Дзяржава асыгноўваюцца вялізныя сродкі для іх разгортваньня. Капітальныя ўкладаньні ва ўсе савгасы БССР па гадох характарызуюцца наступнымі лічбамі.

| | | |
|---|---|---|
| 1928 год | . . . . . 4.647 | тыс. р. |
| 1929 „ | . . . . . 4.813 | „ „ |
| 1930 „ | . . . . . 16.365 | „ „ |
| 1931 „ | . . . . . 35.357 | „ „ |
| 1932 „ | . . . . . 45.000 | „ „ |

Як бачым, асабліва шырокі размах савгаснае будаўніцтва набыло, пачынаючы з 1930 году. На працягу апошняга пэрыоду праведзена вялізарнейшая работа па спэцыялізацыі савгасаў. Існаваўшы ў пачатку першага пяцігодзьдзя адзіны савгасны трэст быў рэорганізаваны ў паасобныя спэцыялізаваныя трэсты па асноўным, вядучым галінам сельскае гаспаркі. Гэта прывяло да павышэньня продукцыйнасьці працы ў савгасах, да росту якасных паказальнікаў, ураджайнасьці, удояў, выхаду мяса і шэрсьці,

СССР зрабіўся краінай самага буйнога земляробства ў сьвеце. Вызваленыя ад ланцугоў капіталізму продукцыйныя сілы з кожным годам даюць гіганцкія рэзультаты. Беларуская вёска, як і вёска ўсяго неабсяжнага Савецкага Саюзу, з паваротам бядняцка-серадняцкіх мас у бок соцыялізму, вышла на шырокі шлях. Пературарэньнем сельскай гаспадаркі на соцыялістычных асновах вырашана самая цяжкая, самая складаная і самам важная задача пролетарскай рэволюцыі.

Пад кіраўніцтвам авангарду пролетарыяту—партыі, пры актыўным удзеле пролетарскіх мас у непасрэдным процэсе сельскагаспадачай вытворчасьці адбываецца колектывізацыя бядняцка-серадняцкага сялянства і на аснове суцэльнай колектывізацыі

ліквідуецца апошняя апора капіталізму ў сельскай гаспадарцы—кулацтва. Колгаснае сялянства стала цэнтральнай фігурай нашага земляробства.

Дынаміку колектыўнага руху БССР відаць з наступнай табліцы:

| Д а т а | Колькасьць колгасаў | Імі ахоплена гаспадарак | Процант колектывізацыі | Абагуленая пасеўная плошча |
|---|---|---|---|---|
| На 1/XI-1928 г. | 611 | 5.616 | 0,7 | 25.627 |
| „ 1/VI 1929 | 1.027 | 16.746 | 1,4 | 40.469 |
| „ 1/VI 1930 | 3.021 | 87.260 | 11,1 | 378.584 |
| „ 1/VII 1931 | 8.614 | 310.700 | 40,2 | 1.202.803 |
| „ 1/VII 1932 | 9.062 | 332.550 | 43,7 | 1.592.400 |

У агульнай засеўнай плошчы 1932 году колгасы мелі наступную адносную вагу: па зернавых—47,2%, па тэхнічных 59,9%, а ўсяго 49,4%. Па жывёлагадоўлі адносная вага колгасаў наступная: па конях 45,7%, па буйной рагатай жывёле 49,7%, па сьвіньнях—42,8%, па авечках—41,8%. Гэтыя лічбы зьяўляюцца яскравымі сьведкамі таго палажэньня, што колгасы разам з саўгасамі пачалі адыгрываць рашаючую ролю ў сельскай гаспадарцы і што колгасьнік стаў апораю савецкае ўлады на вёсцы.

Апошнія гады характарызуюцца колёсальным зрухам у энэргаўзброенасьці сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Соцыялістычная індустрыялізацыя дала магчымасьць рушыць у вёску вялізную масу сельска-гаспадарчых машын.

Колгасныя і бядняцка-серадняцкія масы вёскі відавочна пераканаліся ў тым, што толькі на аснове індустрыялізацыі ўсёй краіны, на аснове стварэньня новай тэхнічнай базы, пры непасрэднай дапамозе і пад кіраўніцтвам пролетарыяту можа ісьці бальшавіцкімі тэмпамі соцыялістычная перабудова вёскі.

Зрух у энэрга-ўзброенасьці сельскай гаспадаркі БССР можна характарызаваць адным зводным паказальнікам: так, калі ў 1928 г. сельска-гаспадарчых машын і інвэнтару прыпадала на 1 га засеўнай плошчы на 5,6 р., дык у 1929 годзе гэтая лічба паднялася да 9 р., у 1930 г,—да 10,3 р., у 1931 г. да 13,4 р., а ў 1932 г. гэта лічба пры поўнай рэалізацыі намечанага пляну забясьпечаньня сельскай гаспадаркі машынамі, дойдзе да 24 р. на га засеўнай плошчы.

Паступленьне машын у сельскую гаспадарку за апошні пэрыод характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | |
|---|---|
| 1929 г. . . . . . . | на 5.400 тыс. р. |
| 1930 г. . . . . . . | 7.726 „ |
| 1931 г. . . . . . . | 17.072 „ |
| 1932 г. . . . . . . | 27.500 „ |

Асабліва вялізныя посьпехі дасягнуты ў адносінах трактарызацыі сельскае гаспадаркі. Так, калі ў 1930 годзе ўвесь трактарны парк складаў 8.000 HP, дык у 1931 годзе лічба паднялася ад 26.000 HP, плянам на 1932 год намечана гэту лічбу па 70.000 HP,

замест 26 машыннатрактарных станцый у 1930 годзе і ў 1931 г. працавала 33, у 1932 годзе ў вясновую засеўную кампанію працавала 57 МТС, а да канца году агульная колькасьць МТС будзе даведзена да 100.

У 1932 годзе МТС апрацавалі звыш 20% агульнай пасеўнай плошчы БССР. Паводле ўсіх вытворчых паказальнікаў раёны дзейнасьці МТС ідуць наперадзе. Яны даюць больш высокі рост ураджайнасьці. Значна лепш выконваюць свае абавязкі перад пролетарскай дзяржавай, выхоўваюць новыя кадры організатараў і будаўнікоў буйных соцыялістычных гаспадарак.

„Важнейшым элемэнтам тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі зьяўляецца стварэньне энэргетычнай базы, аснаванай на шырачэйшай электрыфікацыі прамысловасьці і транспорту і паступовае ўкараненьне электраэнэргіі ў сельскую гаспадарку“ (з пастаноў XVII партконфэрэнцыі).

Становішча электрыфікацыі сельскае гаспадаркі БССР ў першую пяцігодку характарызуецца наступным: да 1931 году сельская гаспадарка БССР мела ўсяго 17 дробных разрозьненых электрычных установак, працаваўшых на сталым току, у пераважнай сваёй частцы ў саўгасах Белсельтрэсту, сумарнай магутнасьці каля 170 квт. Назначэньне іх было выключна асьвятляючае.

У 1931-32 г. робіцца значны зрух наперад. Пачынае праводзіцца электрыфікацыя саўгасаў і колгасаў на базе першай БелДРЭС імя Сталіна, МТС і глыбінных жывёлагадоўчых саўгасаў ад самастойных невялікіх электрычных станцый. Апрача таго, прыступлена да пабудовы ў Рагачэве першай у СССР сельска-гаспадарчай цяпла-электроцэнтралі.

У выніку гэтага магутнасьць электра-мотораў у сельскай гаспадарцы даведзена да 1.500 квт. (на 1/VI-1932 г.). Асьвяшчальная—каля 500 квт. А да канца 1932 году энэргаўзброенасьць сельскай гаспадаркі электра-энэргіяй дасягне да 3.500 квт.

БССР у галіне электрыфікацыі сельскай гаспадаркі вышла на першае месца ў СССР. Аднак, усе гэтыя дасягненьні зьяўляюцца толькі першым крокам на шляху ўкараненьня электра-энэргіі ў сельскую гаспадарку.

На аснове соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і пераўзброеньня яе новай тэхнікай, БССР дасягнула значных посьпехаў як па ўзросту пасеўных плошчаў, так і па росту ураджайнасьці. Так, пасеўная плошча 1932 году ў параўнаньні з 1928 годам узрасла з 3.450,8 да 3.800 тыс. га. Рост засеўнае плошчы ішоў як за кошт уцягненьня ў сельска-гаспадарчы зварот раней няўжыткоўных зямель, так і за кошт мэліорацыі.

Да 1932 году асушана плошча ў разьмеры 200 тыс. га. Агульныя капіталаўкладаньні ў мэліорацыю да 1932 году складаюць суму каля 18.000.000 р. Асушаная плошча ішла пераважна для організацыі на ёй буйных соцыялістычных гаспадарак. Значна ўзмацнілася спэцыялізацыя нашага паляводзтва ў кірунку павялічэньня адноснай вагі тэхнічных культур, бульбы і сеяных траў разам з нязначным зьніжэньнем адноснай вагі зярнёвых культур.

Такая перагрупоўка ў складзе культур зьяўляецца вельмі дадатным зьявішчам, яна сьведчыць аб узросьце спэцыялізацыі

нашага земляробства ў кірунку павялічэньня адноснай вагі тэхнічных культур і абслугоўваньня жывёлагадоўлі праз павялічэньне пасеву траў.

У галіне ўздыму ўраджайнасьці палёў, а таксама продукцыйнасьці жывёлагадоўлі наша сельская гаспадарка яшчэ ня выкарыстала ўсіх пераваг буйнога соцыялістычнага земляробства. Наяўныя станоўчыя зрухі ў гэтай галіне зьяўляюцца далёка недастатковымі. На аснове організацыйна-вытворчага замацаваньня саўгасаў і колгасаў, укараненьня агро-зоотэхнікі, мы зможам дасягнуць належнага ўздыму якасных паказчыкаў нашага соцыялістычнага земляробства.

Жывёлагадоўля ў БССР зьяўляецца аднэй з асноўных галін. Разам з тэхнічнымі культурамі і садова-гароднай гаспадаркай жывёлагадоўля складае асноўны фонд спэцыялізаванага профілю нашае сельскае гаспадаркі.

Першае месца па адноснай вазе ва ўсёй сельскай гаспадарцы займае жывёлагадоўля. Гэта знаходзіцца ў цеснай сувязі са спэцыялізацыяй сельскай гаспадаркі і неабходнасьцю хутчэйшага вырашэньня мяса-малочнай проблемы. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі самым цесным чынам зьвязана з соцыялістычнай рэконструкцыяй усёй сельскай гаспадаркі. На працягу апошніх гадоў жывёлагадоўля ўсяго Савецкага Саюзу і БССР, як яго складанай часткі, разьвівалася даволі шпаркімі тэмпамі і перавысіла даваенны ровень. Аднак, у апошнія гады намеціліся некаторыя адмоўныя моманты, якія спачатку выразіліся ў зьніжэньні тэмпаў прыросту пагалоўя жывёлы, а з 1929 году па некаторым відам жывёлы адбылося і абсолютнае скарачэньне.

Усе гэтыя процэсы знаходзяцца ў цеснай залежнасьці ад кулацкай агітацыі за разбазарваньне жывёлы, ад дзейнасьці клясавых ворагаў, якія супраціўляюцца соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, імкнучыся сарваць мерапрыемствы савецкай улады і партыі.

Аб дынаміцы разьвіцьця жывёлагадоўлі БССР гаворыць наступная табліца (у тыс. галоў):

| Годы | Коні | | Буйная рагатая жывёла | | Сьвіньні | Авечкі і козы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго: | У тым ліку раб. | Усяго: | У тым ліку кароў | Усяго | Усяго |
| 1916 г. . . . . | 858,2 | 704,3 | 1489,1 | 881,9 | 1791,7 | 1718,0 |
| 1918 г. . . . . | 1091,7 | 878,4 | 2198,1 | 1345,2 | 2298,2 | 3449,7 |
| 1929 г. . . . . | 1080,8 | 883,8 | 2079,1 | 1315,9 | 2036,7 | 3138,9 |
| 1930 . . . . . | 1006,8 | 746,6 | 1733,8 | 1206,4 | 1668,5 | 2701,9 |
| 1931 . . . . . | 887,2 | 685,2 | 1627,0 | 1100,0 | 2720,0 | 2746,0 |
| 1932 . . . . . | 882,8 | 706,5 | 1446,8 | 1108,0 | 1422,3 | 1698,5 |

На адным з першых месц сярод продукцыйнай жывёлы БССР стаіць малочная жывёла. З усіх відаў продукцыйнай жывёлы буйная рагатая жывёла, якая дае малако і мяса, зьяўляецца самым важным відам жывёлы. Малочная карова—самая эконом-

ная вытворніца найбольш важнага, найбольш каштоўнага, паводле пажыўнасьці, продукту—малака.

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі дала цьвёрдую падставу для разьвіцьця жывёлагадоўлі на аснове разгортваньня савгасаў і колгасных таварных фэрм.

Колькасьць жывёлы і яе рост ў савгасах за апошнія гады відаць з наступнае табліцы:

| | 1928 г. | 1932 г. |
|---|---|---|
| Рабочыя коні (галоў) . | 4.670 | 17.300 |
| Каровы . . . . . . | 8.975 | 36.300 |
| Сьвіньні . . . . . . | 2.491 | 136.500 |

Рост жывёлагадоўлі ў колгасных таварных фэрмах за 1931 і 1932 год відаць з наступных лічбаў:

| | 1931 г. | 1932 г. | |
|---|---|---|---|
| | Кастр. | На I/I | На I/VI |
| Лік малочных таварных фэрм . . . . . . | 901 | 1.243 | 1.401 |
| У іх кароў . . . . . . . . . . . . | 62.138 | 88.571 | 160.667 |
| Лік сьвінаводч. таварн. фэрм . . . . . | 1.288 | 1.750 | 1.952 |
| У іх сьвінаматак . . . . . . . . . | 0.224 | 76.185 | 107.038 |
| Лік фэрм па вырашчваньню цялят . . . . | 501 | 1.039 | 1.515 |
| У іх цялят . . . . . . . . . . . | 7.032 | 47.291 | 56.136 |
| Лік конягадоўчых фэрм . . . . . . . | 35 | 57 | 117 |
| У іх матак . . . . . . . . . . . | 322 | 1.026 | 5.484 |
| Лік трусаводных таварных фэрм . . . . | — | 20 | 138 |
| У іх трусоў . . . . . . . . . . . | — | 2.000 | 4.124 |
| Лік птушкаводных таварных фэрм . . . . | — | 297 | 297 |
| У іх птушак . . . . . . . . . . . | — | — | 33.419 |

Гэтыя лічбы зьяўляюцца бясспрэчнымі сьведкамі перамог соцыялістычнае жывёлагадоўлі, як аднае з асноўных галін сельскае гаспадаркі БССР.

Такія другарадныя ў БССР галіны жывёлагадоўлі, як птушніцтва, трусагадоўля, а таксама пчалярства маюць вельмі вялікае значэньне цяпер, як дапамагаючыя хуткімі тэмпамі вырашыць мясную проблему. Але перад імі разгортваюцца вялікія пэрспэктывы разьвіцьця і надалей. Птушніцтва, асабліва разьвядзеньне воднае птушкі, мае вялікую пэрспэктыву разьвіцьця на аснове скарыстаньня натуральных вадазбораў—рэк і возёр. Трусагадоўля—на базе садова-гароднай гаспадаркі БССР і на адкідах сталовак. А для разьвіцьця пчалярства даюць вялікую базу ўсё ўзрастаючыя плошчы нашых садоў, а таксама пасевы мёданосных культур.

Разьвіцьцё пчалярства ў 1932 годзе характарызуецца такімі лічбамі: усяго маецца па рэспубліцы 175.550 пчоласем'яў, з іх

у рамачных вульлёх—98.550. Па ведамствах і сэктарох пчалярская гаспадарка разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | Усяго пчаласем'яў. | У рамачн. вул. |
|---|---|---|
| 1. Садгародтрэст . . . . . | 500 | 500 |
| 2. Насентрэст . . . . . . | 500 | 500 |
| 3. Сьвінаводтрэст . . . . . | 1.000 | 1.000 |
| 4. Малпомтрэст . . . . . | 500 | 500 |
| 5. Пенькатрэст . . . . . | 50 | 50 |
| 6. Пчалаводколгастрэст . . | 70.000 | 56.000 |
| 7. Колгасьнікі і аднаасобнікі . | 103.000 | 40.000 |
| Усяго . . | 175.550 | 98.550 |

Вялікае значэньне набыла за апошнія гады і мае пэрспэктывы ў сваім разьвіцьці такая галіна гаспадаркі, як рыбная. Багацьці нашых рэк і вазёр, перабудова нашае рыбнае гаспадаркі на социялістычных асновах, будаўніцтва штучных прудоў, рацыяналізацыя вылаву натуральных запасаў і г. д., усё гэта дае значны эфэкт у народнай гаспадарцы краіны. Далейшае разгортваньне рыбнае гаспадаркі, як аднэй з другарадных галін, зьяўляецца вельмі важным момантам у нашым социялістычным будаўніцтве.

У галіне разьвіцьця тэхнічных культур мы маем буйнейшы зрух. 1931 год даў у гэтых адносінах рашучы пералом. Рост засеўных плошчаў пад тэхнічнымі культурамі і іх адносная вага характарызуюцца наступнымі данымі:

| | 1916 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|
| Агульная засеўная плошча ў тыс. га | 2.584,2 | 3.389,2 | 3.557,2 | 3.800,0 |
| У тым ліку: | | | | |
| а) лён . . . . . . . . . | 94,6 | 134,2 | 238,9 | 270,0 |
| б) каноплі . . . . . . . | 16,3 | 24,6 | 28,8 | 30,0 |
| в) бульба . . . . . . . | 230,6 | 488,4 | 546,3 | 600,0 |
| Адносная вага ў проц.: | | | | |
| а) лён . . . . . . . . . | 3,7 | 4,0 | 6,7 | 7,0 |
| б) каноплі . . . . . . . | 0,6 | 0,7 | 0,9 | 1,1 |
| в) бульба . . . . . . . | 8,9 | 14,4 | 15,4 | 15,9 |

Побач са значным ростам тэхнічных культур па колькасьці, яшчэ большы рост павінен адбыцца па лініі павялічэньня ўраджайнасьці. Пытаньне павышэньня ўраджайнасьці тэхнічных культур набывае выключнае значэньне, бо ўраджайнасць—гэта той важнейшы і адказьнейшы ўчастак, на якім мы ня маем пакуль што колькі-небудзь значных пасьпехаў. Буйная социялістычная ільняна-канапляводная гаспадарка ў барацьбе за ўраджай яшчэ ня выкарыстала ўсіх сваіх параваг. Ураджай ільну і канапель

з га яшчэ ніжэй даваеннага, надзвычайна нізкага ў параўнаньні з іншымі краінамі.

Нездавальняючай зьяўляецца і якасьць ільнаканапеляводнай продукцыі. Цэнтральнай задачай ільнаканапеляводнай гаспадаркі зьяўляецца барацьба за ўраджай, барацьба за падваеньне выхаду валакна з палёў соцыялістычных ільнаканапеляводных савгасаў і колгасаў. Наша—задача дагнаць заходня-эўропейскую ўраджайнасць па лёну і каноплям. Гэта задача высоўвае ў першыя рады агро-тэхніку. Ільнаканапеляводная агротэхніка ў зусім мізэрнай ступені выкарыстоўваецца ў колгасах і савгасах. Слаба праводзіцца зяблевае ворыва, не захоўваюцца свачасовыя тэрміны засеву. Далёка ня ўсё гаспадаркі праводзяць полку лёну. Уборка часта праводзіцца са спазьненьнем і недастаткова старанна. Між тым, увесь гэты комплекс мерапрыемстваў можа значна павысіць ураджайнасьць. Асаблівая ўвага павінна быць аддана стараннай падрыхтоўцы глебы—мерапрыемству, якое найбольш даступна савгасам і колгасам і тым ня менш праводзіцца часта зусім нездавальняюча. Агротэхніка дае ў рукі савгасаў, МТС і колгасаў выстарчальныя сродкі, каб змагацца за экономнае скарыстаньне вільгаці, змагацца з пустазельлем, з сельска-гаспадарчымі шкоднікамі, павысіць урадлівасьць глебы, забясьпечыць ураджай ад замаразкаў і г. д.

Трэба ўжыць усе меры да таго, каб агро-тэхніка, як чарговая вышыня соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, была цалкам заваявана.

* * *

Вельмі вялікае значэньне мае па БССР садоўніцтва. На продукцыю гэтай галіны гаспадаркі маецца цяпер надзвычайна вялікі попыт. З другога боку кліматычныя і глебавыя ўмовы нашай краіны спрыяюць разгортваньню садоўніцтва. Тым больш цікава для нас гэта галіна, што яна можа вельмі добра сумяшчацца з такімі галінамі, як жывёлагадоўля ўсіх яе відаў (буйная рагатая жывёла, сьвінагадоўля, трусагадоўля, а таксама і пчалярства).

Урадавыя дырэктывы па спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі БССР зьвяртаюць увагу на садоўніцтва, як на адну з важнейшых галін сельскае гаспадаркі. Згодна гэтых дырэктыў, садоўніцтва павінна разгортвацца па ўсёй тэрыторыі нашай рэспублікі.

Каб наглядна паказаць значэньне для нас садоўніцтва, трэба падаць некаторыя лічбы. Паводле даных Дзяржпляну, продукцыя садоўніцтва мае наступную вагу ў сельска-гаспадарчай продукцыі ад земляробчых культур:

| | Агульная продукцыя | Таварная продукцыя |
|---|---|---|
| 1926-27 г. . . . | 4,4 | 24,8 |
| 1927-28 . . . . | 5,2 | 31,2 |
| 1928-29 . . . . | 4,0 | 25,3 |
| 1929-30 . . . . | 3,6 | 17,2 |

Найбольш значнымі раёнамі пашырэньня садоў зьяўляюцца Бабруйшчына, Гомельшчына, Віцебшчына, Магілеўшчына і Мазыршчына. Але садоўніцтва з посьпехам можа пашырацца па ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

Асортымэнт садовых дрэў на БССР вельмі align="left"рознастайны. Асаблівае значэньне мае яблыня, якая займае 76% усіх садовых дрэў, за ёю ідзе ігруша—11%, сьлівы—6%, вішні—7%. Апрача таго, у садох БССР значнае пашырэньне маюць розныя ягадныя кусты, як парэчка, аграст і, нават, у некаторых паўднёвых раёнах, вінаград.

Разбуранае ў часы імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны садоўніцтва ў БССР пачала аднаўляцца толькі ў 1917 г. У 1917 г. было пасаджана новых садоў 380 га, пасьля гэтага плошча садоў з кожным годам усё пашыралася.

Да пачатку першай пяцігодкі ў нас была наступная колькасьць садоў:

| | Усяго | Плоданосячых |
|---|---|---|
| Па БССР . . . . | 24.275 га. | 22.616 га. |
| з іх: | | |
| у саўгасах . . . | 2.141 | 2.114 |
| у колгасах . . . | 6.868 | 680 |

На канец-жа пяцігодкі колькасьць садоў і іх разьмеркаваньне пры поўным выкананьні пляну пасадкі 1932 г., што поўнасьцю забясьпечана адпаведнымі магчымасьцямі,—будзе зьяўляцца наступнай:

| | Усяго | Плоданосячых |
|---|---|---|
| Па БССР . . . . | 50.000 га. | 23.000 га. |
| з іх: | | |
| у саўгасах . . . . | 6.200 | 3.026 |
| у колгасах . . . . | 29.700 | 9.200 |

Неабмежаваныя магчымасьці садоўніцтва атрымала ў сувязі з соцыялістычнай рэконтрукцыяй сельскай гаспадаркі БССР. Даючы поўную магчымасьць бесьперашкодна сумяшчаць на занімаемай тэрыторыі такія галіны сельскае гаспадаркі, як гародніцтва і жывёлагадоўлю, садоўніцтва зьяўляецца надзвычайна рацыянальнай галіной. Продукцыя садоўніцтва ня толькі забясьпечвае высокаякаснай харчовай продукцыяй працоўных нашай краіны і зьяўляецца каштоўным экспортным продуктам, але яна зьяўляецца і павінна яшчэ ў большай ступені выкарыстоўвацца, як сыравіна для разьвіцьця адпаведнай харчовай прамысловасьці.

Усё гэта ставіць перад намі задачу зьвярнуць вялікую ўвагу на магутнае разгортваньне ў БССР соцыялістычнага садоўніцтва на працягу другой пяцігодкі.

Гародніцтва па БССР да апошніх часоў мела пераважна спажывецкі характар. Аб гэтым сьведчаць даныя адноснай вагі продук-

цыі гародніцтва ва ўсёй продукцыі (агульнай і таварнай землярobчых краін сельскае гаспадаркі). Гэтыя даныя наступныя:

| | 1927 | 1928 | 1929 | 1930 |
|---|---|---|---|---|
| Адносная вага агуловай продукцыі гародніцтва . . | 8,2 | 7,5 | 6,6 | 7,6 |
| адносная вага таварнай продукцыі гародніцтва . . . . | 2,0 | 2,0 | 1,7 | 1,4 |

У сувязі з індустрыялізацыяй народнае гаспадаркі БССР і ўтварэньнем новых прамысловых цэнтраў, гародніцтва набывае вялікае значэньне. Соцыялістычная-ж рэконструкцыя сельскае гаспадаркі дае поўную магчымасьць плянаваць гэтую галіну, адпаведна запатрабаваньням народнае гаспадаркі. Найбольш прамысловымі раёнамі гародніцтва былі раёны — Полацкі, Віцебскі, Гомельскі, Бабруйскі і Менскі.

Рост плошчы пад гародніцтвам і яе разьмеркаваньне па сэктарох за апошнія гады відаць з наступных лічбаў:

| | 1926 | 1927 | 1928 | 1929 | 1930 |
|---|---|---|---|---|---|
| Па БССР у га . . | 43.957 | 48.533 | 49.000 | 54.066 | 60.212 |
| У тым ліку: | | | | | |
| у свгасах . . . | 496 | 540 | 826 | 1.291 | 1.694 |
| у колгасах . . . | 651 | 700 | 850 | 1.277 | 17.000 |

У 1931 г. плошча пад гародамі была роўна 64,4 тыс. га., з якіх да савгасаў належала 6,4 тыс. га, да колгасаў 18,2 тыс. га. У 1932 годзе роля соцыялістычнага сэктару яшчэ больш узрастае. Так, з агульнае плошчы гародаў, роўнай 70.000 га, да савгасаў належала 8,8 тыс. га і да колгасаў 22,4 тыс. га.

Гародніцтва па БССР у яго спалучэньні з садоўніцтвам мае вялікія пэрспэктывы разьвіцьця з концэнтрацыяй у значных масывах навакол індустрыяльных цэнтраў, задавальняючы запатрабаваньні апошніх. Але яно можа зьявіцца і вялікай таварнай галіной, праз пераапрацоўку яго продукцыі на консэрвных заводах, а таксама з вывазам яе ў іншыя раёны Савецкага Саюзу. Асабліва вялікія ў гэтых адносінах адчыняюцца пэрспэктывы ў сувязі з вырашэньнем проблемы вялікага Дняпра. Сетка танных водных шляхоў, якую дасьць вырашэньне гэтай проблемы, зьвяжа БССР з радам раёнаў Савецкага Саюзу, па гэтаму шляху можна будзе лёгка праводзіць вялізарныя грузы гароднай продукцыі, вырабу якой вельмі спрыяюць кліматычныя і глебавыя ўмовы БССР.

* * *

У выніку той гіганцкай працы, якая праведзена партыяй у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі карэнным чынам зьмяніўся твар старой вёскі. Замест дробнасялянскай нерацыянальнай гаспадаркі створаны буйныя соцыялістычныя гаспадаркі. Савгасы і колгасы зрабіліся асноўнымі базамі забесьпячэньня сельска-гаспадарчай продукцыяй пралетар-

скай дзяржавы. Сельская гаспадарка БССР, як складаная частка ўсяго Савецкага Саюзу, канчаткова і беспаваротна ўмацавалася на соцыялістычным шляху.

Мы дамагліся буйных посьпехаў у галіне разьвіцьця і замацаваньня соцыялістычных позыцый у сельскай гаспадарцы толькі дзякуючы няўхільнаму ажыцьцяўленьню генэральнай лініі нашай партыі. Гэтыя посьпехі атрыманы ў выніку жорсткай клясавай барацьбы з кулацтвам і яго агентурай—правым і „левым“ опортунізмам, у выніку разгрому ўсіх шкодніцкіх груп, якія працавалі па заданьню міжнароднай буржуазіі. Партыя перамагла супраціўленьне клясава-варожых элемэнтаў і вышла пераможнай на ўсіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва. Але клясавая барацьба яшчэ ня скончана. Шлях да бяскласавага ґрамадзтва ідзе праз жорсткую клясавую барацьбу. Ленін не адзін раз падкрэсьліваў, што дыктатура пролетарыяту ёсьць асобная форма клясавае барацьбы.

„Між капіталістычным і комуністычным грамадзтвам,—пісаў Маркс,—ляжыць пэрыод ператварэньня аднаго ў другое. Яму адпавядае і палітычны пэрыод, у якім дзяржава ня можа быць нічым іншым, як рэволюцыйнай дыктатурай пролетарыяту“. Толькі наскрозь пратухлыя опортуністы, героі варожых соцыялістычнаму будаўніцтву тэорый—урастаньня кулака ў соцыялізм—гавораць аб загасаньні клясавай барацьбы пры дыктатуры пролетарыяту, у час, калі ламаецца стары ўклад і на зьмену яму ідзе соцыялістычны.

Рашучае падаўленьне рэштак капіталістычных элемэнтаў, перамаганьне перажыткаў дробна-буржуазнай стыхіі, упартая барацьба за соцыялістычную пераробку мас бядняцка-серадняцкага сялянства, перавыхаваньне колгасьнікаў—усе гэтыя формы клясавае барацьбы яшчэ застаюцца на даволі доўгі час. Кожны крок нашых заваёў на соцыялістычным шляху ёсьць вынік перамаганьня пролетарыяту над усімі тымі, якія супраціўляюцца нашаму пасьпяховаму руху наперад.

Перадавым участкам, на якім партыі прыходзіцца весьці ўпартую барацьбу, зьяўляецца організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў. Кулацтва і яго агентура імкнецца ўсялякім чынам падарваць мерапрыемствы партыі, накіраваныя на замацаваньне колгасаў організацыйна і гаспадарча. Клясавыя ворагі разумеюць, што пытаньне організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў—ёсьць асноўнае пытаньне ўздыму сельска-гаспадарчай вытворчасьці. З тым большай упартасьцю і настойлівасьцю трэба працаваць над організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў.

У сваёй пастанове ад 4 лютага 1932 г. „Аб чарговых мерапрыемствах па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў“ ЦК УсеКП(б) указаў, што „задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў зьяўляецца ў цяперашні час перш за ўсё задачай разьвіцьця і ўмацаваньня арцельнай формы колгасаў“, што „спроба штучнага паскарэньня пераходу ад арцельнай

формы колгасаў да комун на сучаснай стадыі разьвіцьця колгасаў зьяўляецца сур'ёзнай небясьпекай".

Чаму сельска-гаспадарчая арцель высоўваецца партыяй як асноўная форма колектывізацыі на даным этапе, якую павінны разгортваць і замацоўваць? Таму, што яна „больш даступна сазнаньню шырокіх сялянскіх мас" (Сталін), таму што ў арцелі лепш за ўсё злучаюцца грамадзкія інтарэсы колгасьніка і колгасу з прыватнымі інтарэсамі колгасьніка-селяніна. У пастанове XVI зьезду партыі запісана, што вымагаць, каб сяляне, уступаючыя ў арцелі, зараз-жа адмовіліся ад усялякіх індывідуалістычных навыкаў і інтарэсаў, ад магчымасьці весьці дадатковую да аграмаджанай, асабістую гаспадарку (карова, авечкі, птушка, прысядзібны гарод,) ад магчымасьці скарыстаньня для сабе заработкаў на баку і г. д.—значыць, забываць азбуку марксызму-ленінізму".

Практыка барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю сельскае гаспадаркі падцьвярджае ўсю правільнасьць і сваечасовасьць дырэктывы партыі, якая ўказвае, што „арцель яшчэ не разгорнута дастаткова і не замацавана" і што патрэбна і надалей упарта працаваць з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю над організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў у іх сучаснай арцельнай форме, над утварэньнем брыгад, якія павінны стаць цэнтрам ня толькі вытворчай, але і ўсёй масавай політыка-выхаваўчай работы, над падборам „каманднага складу" колгаснай вытворчасьці.

Партыяй з усёй бальшавіцкай рашучасьцю пастаўлена цяпер задача аб падвышэньні якасных паказчыкаў работы ў сельскай гаспадарцы. У сваіх пастановах аб ахове грамадзкай уласнасьці, мясазагатоўках, аб разьвіцьці конскага пагалоўя, аб мерапрыемствах па ўздыму ўраджайнасьці, аб разгортваньні колгаснага гандлю і г. д. Цэнтральны Комітэт завастрае ўвагу ўсіх партыйных організацый, усёй пролетарскай грамадзкасьці на пытаньнях далейшага разьвіцьця соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Пастанова партыі і ўраду аб мясазагатоўках служыць справе далейшага організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, яна дасьць падставу для якаснага ўздыму сельска-гаспадарчай вытворчасьці і вядзе да хутчэйшага вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы. Прынятыя ў пастановах нормы здачы мяса асабліва стымулююць разьвіцьцё соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Для колгасьнікаў устаноўлены зьніжаныя нормы здачы мяса ў параўнаньні з аднаасобнікамі, і яшчэ больш зьніжаны для колгасьнікаў у гаспадарках, у якіх утвораны колгасныя таварныя фэрмы. Усё гэта вядзеда яшчэ лепшага злучэньня асабістых інтарэсаў колгасьніка з колгасам у цэлым, да большай зацікаўленасьці колгасьніка ў разьвіцьці жывёлагадоўлі, у разгортваньні таварных фэрм і ў ахове соцыялістычнай уласнасьціды, як асновы нашага грамадзкага ладу.

Апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) аб мерапрыемствах па ўздыму ўраджайнасьці зьяўляецца новым рашучым крокам наперад на шляху стварэньня ўстойлівага і высокакультурнага соцыялістычнага земляробства. Пасеўныя плошчы за апошнія гады значна вырасьлі як у цэлым па СССР, так і ў БССР. Гэты рост адбываўся дзякуючы разьвіцьцю саўгасаў і колгасаў, дзякуючы ўкараненьню трак-

тараў і складаных сельска-гаспадарчых машын, дзякуючы аб'яднаньню дробных палосак аднаасобных гаспадарак у буйныя зямельныя масывы. Правадыр партыі і рабочае клясы т. Сталін яшчэ ў 1929 г. у сваёй прамове на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў указваў, што „значэньне колгаснага руху ў тым, што сяляне атрымліваюць цяпер магчымасьць пусьціць у рух закінутыя землі і цаліны. У гэтым—сакрэт вялізарнага пашырэньня пасеўнае плошчы пры пераходзе сялян да колектыўнае працы. У гэтым—адна з асноўных пераваг колгасаў над індывідуальнай сялянскай гаспадаркай". У выніку ўсяго гэтага пасеўныя плошчы пашыраны ўжо дастаткова, вось чаму цэнтральны комітэт партыі запісаў, што „мэта першай стадыі ўздыму сельскай гаспадаркі—найбольшае пашырэньне плошчаў—ужо ажыцьцёўлена" і што „надышоў час, калі ад росту гаспадаркі ў шырыню, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, трэба павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за вырашэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця".

Пытаньні ўздыму ўраджайнасьці набываюць цяпер выключнае значэньне. Агротэхніцы ў гэтай справе належыць першае месца. Барацьба за ўкараненьне агратэхнічных мерапрыемстраў у саўгасах і колгасах—гэта барацьба за ўраджай, за большы выхад сельска-гаспадарчай продукцыі, за лепшае забясьпячэньне рабочае клясы. ЦК КП(б)Б не адзін раз зьвяртаў увагу на неабходнасьць падвышэньня продукцыйнасьці нашае сельскае гаспадаркі. У сваіх пастановах XIV зьезд КП(б)Б указаў на тое, каб у бліжэйшыя часы „дабіцца рашучага пералому ў справе падняцьця ўраджайнасьці, як збожжавых, так і асабліва тэхнічных культур".

Рад апошніх пастаноў партыі і ўраду даюць усе неабходныя прадпасылкі для таго, заб разгарнуць сапраўдную бальшавіцкую барацьбу за ўраджай. У барацьбе за хутчэйшае ажыцьцяўленьне мерапрыемстаў партыі і ўраду па падвышэньню якасных паказчыкаў сельска-гаспадарчай працы мы, бязумоўна, будзем мець супраціўленьне клясавага ворага і яго агентуры правых і „левых" опортуністаў. Яны будуць прабаваць сарваць нашы мерапрыемпа ўздыму соцыялістычнага земляробства. Рашучая барацьба з клясавымі ворагамі, бальшавіцкая пільнасьць і сваечасовы адпор усякім спробам сьцягнуць партыю з ленінскіх позыцый забясьпечаць выкананьне задач, якія стаяць перад намі ў галіне ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

М. Ганчарык

# Дасягненьні батанічнай навукі БССР к пятнаццацігодзьдзю Кастрычнікаўскай рэвалюцыі

Пятнаццацігодзьдзе БССР, як і ўсяго СССР, гэта пятнаццаць год упартага змаганьня і бліскучых перамог рабочай клясы і працоўных мас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў барацьбе за соцыялізм, за пабудову новага бясклясавага грамадзтва, за зьнішчэньне эксплёататараў, гэта барацьба за новы этап у гісторыі чалавечай грамады, шлях да якога вызначаны вялічайшымі правадырамі рабочае клясы Марксам-Леніным, шлях, па якому няўхільна вядзе пролетарыят і працоўныя масы аднэй шостай часткі зямное кулі кіраўнік соцыялістычнага будаўніцтва, найлепшы вучань т. Леніна—Сталін.

У той час, як увесь капіталістычны сьвет пад уплывам жорсткага крызісу перажывае няўхільны ўпадак усёй сваёй гаспадаркі, рост беспрацоўя і галечы шырокіх працоўных мас, Савецкі Саюз, пасьпяхова праводзячы соцыялістычную рэконструкцыю краіны на аснове індустрыялізацыі і буйнога соцыялістычнага земляробства, зьнішчыў беспрацоўе, высока ўзьняў сьвядомасьць і культурны ровень шырокіх рабочых і працоўных мас, іх матар'яльны дабрабыт. Побач з усім гэтым у СССР высока ўзьнята роля навукі ва ўмовах соцыялістычнай гаспадаркі, створаны належныя умовы для ея росту і разьвіцьця.

Савецкая Беларусь, якая ва ўмовах буржуазнага капіталістычнага ладу былой царскай Расіі, зьяўляючыся яе паўколёніяльным аграрным прыдаткам, прадстаўляла з сябе цёмную адсталую краіну, рабочыя і бядняцка-серадняцкія масы сялянства якой знаходзіліся ва ўмовах жорсткай эксплёатацыі капіталістаў і памешчыкаў, беспраўя і нацыянальнага ўціску, цяпер, як Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка ў складзе Савецкага Саюзу, ператварылася за гэтыя пятнаццаць год у індустрыяльна-аграрную краіну з высокім культурным роўнем спэцыялізаванай сельскай гаспадаркі, дзе вядучая роля належыць буйным гаспадаркам—саўгасам і колгасам, з высокай машыннай тэхнікай ва ўсіх галінах вытворчасьці. Замест сахі, трохполкі і мізэрных ураджаяў сельская гаспадарка БССР набыла высока-інтэнсыўныя формы, стаўшы адным з асноўных раёнаў жывёлагадоўлі і тэхкультур у Савецкім Саюзе. Значна ўзрасьлі ўраджаі, а з імі і таварнасьць палявой і продукцыйнасьць жывёлаводнай гаспадаркі.

К пятнаццацігодзьдзю Кастрычнікаўскай рэволюцыі БССР, якая ва ўмовах царскай Расіі налічвала да 70% няпісьменных, стала краінай суцэльнай пісьменнасьці, з высокаразьвітай культурай, нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу, з дзесяткамі культурных устаноў, як тэатры, музэі, бібліотэкі і г. д., якія абслугоўваюць усе галоўныя нацыянальнасьці краін на іх роднай мове.

Усё гэта не магло не адбіцца на росьце навукова-дасьледчай работы і роўні самой навукі ў БССР, якая за час існаваньня савецкай улады дасягнула вялізарных поспехаў. Калі да Кастрычнікаўскай рэволюцыі БССР зьяўлялася зусім нявывучанай краінай, дык за гэтыя пятнаццаць год праароблена вялізарная работа як у справе вывучэньня прыродна-гістарычных умоў краіны, яе вытворчых рэсурсаў, так і ў кірунку распрацоўкі цэлага раду галін навукі, у тым ліку прыродазнаўчых і ботанічных.

Работа па навуковаму дасьледваньню і распрацоўцы цэлага раду навуковых проблем у БССР распачалася зараз-жа пасьля перамогі галоўных сіл зьнешніх і нутраных ворагаў пролетарскай рэволюцыі, з пачаткам гаспадарчай адбудовы краіны. Пасьля стварэньня першых цэнтраў навуковай думкі БССР, як Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Менскі і Горацкі С-Г. Інстытуты і паасобныя дасьледчыя ўстановы, распачалася побач з геолёгічным, глебазнаўчым, фаўністычным, кліматычным і іншымі вывучэньнямі БССР, вывучэньне і расьліннасьці, як аднаго з важнейшых фактараў прыродна-вытворчых рэсурсаў рэспублікі.

Распачынаецца спачатку спорадычнае выбарачнае, а затым з організацыяй Інстытуту беларускай культуры, у далейшым—Акадэміі Навук, і сыстэматычнае флёрыстычнае дасьледваньне БССР. У выніку гэтай работы, якая цягнулася некалькі год па аднаму раней распрацаванаму пляну, у сучаснасьці мы маем поўнае геоботанічнае дасьледваньне БССР у 10-кілёмэтравым маштабе, у выніку якога зьявілася мажлівасьць скласьці геоботанічную карту і дапоўніць характарыстыку яе прыродна-гістарычных умоў, якія вынікалі з глебавых і кліматычных вывучэньняў.

На аснове гэтых вывучэньняў удалася ўстанавіць, што БССР у прыродна-гаспадарчых умовах прадстаўляе з сябе (як па расьлінасьці, так і па мэтэоролёгічным даным) пераходны раён паміж контынэнтальнымі ўмовамі ўсходняй і мерна-марскімі ўмовамі заходняй Эўропы. З гэтага боку яна прадстаўляе сабой пэўныя ўмовы ў сельска-гаспадарчых адносінах, дапускаючы тут культуру замест звычайных у значна больш паўночна-ўсходніх раёнах зернавых культур (жыта, авёс, ячмень) цэлы рад каштоўнейшых тэхнічных культур, пачынаючы з лёну, канапель, бульбы, садовіны і гародніны і канчаючы такімі каштоўнымі культурамі, як цукровыя буракі і нават, як высьвятляецца з дасьледваньняў апошніх гадоў—соі.

На грунце праведзеных геоботанічных дасьледваньняў БССР устаноўлена даволі значная розьніца паміж флёрай (як і кліматам) паўночна-ўсходняй і паўднёва-заходняй часткі краіны. Увогуле БССР па расьліннасьці прадстаўляецца магчымым па-

дзяліць на 5 раёнаў з пераходам расьліннасьці лясоў усходня-эўрапейскага тыпу, пераважна ялава-дубовых з невялікай дамешкай шыракаліставых парод, і значнай колькасьці арктычна-барыяльных элемэнтаў да лясоў заходня-эўропейскага тыпу з шыракаліставымі лясамі з перавагай дубу і грабу і вялікай колькасьцю заходня-эўропейскіх элемэнтаў, паступовым зьнікненьнем елкі, значнай колькасьцю лесастэпавых элемэнтаў і наяўнасьцю некаторых рэліктавых расьлін як азалеі понтыйскай, вадзянага арэху, альдровандыі і сальвініі пры адсутнасьці паўночных элемэнтаў.

Гэтыя прыродна-флёрыстычныя раёны, якія выяўлены праведзеным геоботанічным вывучэньнем, у вялікай меры дапаўняюць і корэктуюць даныя па кліматычнаму вывучэньню БССР і ўстанаўленьню паасобных кліматычных раёнаў, як і ўстанаўленьню с.-гаспадарчых раёнаў па рэспубліцы. З другога боку, даныя геоботанічнага вывучэньня далі багацейшы матар'ял па дапаўненьню глебавага вывучэньня БССР, якое к сучаснаму моманту закончана ў 3-х клм. маштабе.

У галіне прыкладной ботанікі праведзена даволі значная праца па вывучэньні біолёгіі галоўных прадстаўнікоў пустазельнай расьлінасьці, на аснове якіх прадстаўляецца мажлівым лепшая пастаноўка справы барацьбы з пустазельлем.

Праведзена вялікая работа і ў кірунку вывучэньня біолёгіі дрэўных парод, а таксама і раду экзотаў, якія ў вялікай колькасьці захаваліся ў парках былых панскіх маёнткаў. Выяўлена, што вялікая колькасьць экзотаў зусім добра акліматызавалася ва ўмовах БССР і дасягнула стану нормальнага плоданашэньня. У сувязі з гэтым у апошнія часы пастаўлена пытаньне, якое распачата дасьледчай распрацоўкай нова-організуемым пры Акадэміі навук БССР Ботанічным садам, практычнага скарыстаньня некаторых гаспадарча-каштоўных, хуткасьпелых відаў экзотаў для лесакультуры пры лесааднаўленьні.

К сучаснаму моманту ўжо праведзена інвэнтарызацыя паркаў усёй паўднёвай і часткова паўночнай часткі БССР з выяўленьнем усіх наяўных у іх экзотаў.

У кірунку прыкладной ботанікі праведзена значная работа па вывучэньню новых культур у БССР, як соя, часткова тапінамбур, сорга, ватачнік і інш. некаторыя з якіх, як соя і тапінамбур, маюць усе даныя ў хуткім часе заваяваць сабе правы грамадзянства сярод іншых асноўных гаспадарчых культур БССР.

На працягу многіх гадоў праводзілася сыстэматычная работа па вывучэньню сартавога складу важнейшых с-гаспадарчых расьлін, як бульба, лён, канюшына, авёс, жыта і г. д. Гэтая работа, а таксама генэтычна-сэлекцыйная работа з імі, дала магчымасьць устанавіць для БССР стандартныя гатункі амаль для ўсіх галоўных с-гас. культур і паставіць на належную вышыню справу аднаўленьня пасеўнага матар'ялу.

У галіне анатомічнага вывучэньня расьліны навукова-дасьледчымі ўстановамі БССР праведзена работа ў пераважнай меры ў кірунку вывучэньня анатоміі культурных, с-гаспадарчых рась-

лін. Праведзена даволі вялікая работа па вывучэньню анатомічнай пабудовы сьцябла лёну, лубяной і драўнянай яго частак у залежнасьці ад цэлага раду ўмоў, якія абумаўляюць яго рост, як вільготнасьць, угнаеньне і г. д. Таксама праведзена некаторая работа па анатомічнаму вывучэньню бульбы (сьцябла, бульбы, характару і велічыні крухмальных зерняў, што асабліва важна для крухмальнай вытворчасьці) і намечаны шляхі да ўстанаўленьня залежнасьці паміж хуткасьпеласьцю гатунку бульбы і яго анатомічнай будовай.

Са значнымі дасягненьнямі да XV-годзьдзя Кастрычнікаўскай рэволюцыі ў БССР прышла і такая галіна батанікі, як фізыолёгія расьлін.

Першай групай пытаньняў навуковага досьледу ў галіне фізыолёгіі расьлін, якія прапрацоўваліся ў БССР, зьяўляюцца пытаньні харчаваньня расьліны. Гэта работа ўзьнікла побач з работай па глебаваму вывучэньню БССР, пытаньняў угнаеньня і агратэхнікі і ў першую чаргу, выходзячы з характару беларускіх глеб павінна была спыніць сваю ўвагу на пытаньнях вапнаваньня і фосфарытваньня глебы і ўплыве іх на рост важнейшых с-г. культур.

У гэтым кірунку мы маем вялікую дасьледчую работу прароблeную лябараторыяй катэдры агро-хэміі Беларускай Дзяржаўнай с-г. акадэміі і агро-хэмічнага аддзелу Горацкай дасьледчай станцыі ў Горках і Цэнтральнай агро-хэмічнай лябараторыяй (цяпер Інстытут угнаеньняў і аграглебазнаўства) у Менску, побач з работай у гэтым кірунку, якая праводзілася на цэлым радзе дасьледчых станцый, як Турская, Віцебская, Палеская, расьлінаводная і інш.

З праведзеных палявых і вэгетацыйных досьледаў па ўжываньню вапны, яе ўзаемадзейнасьці з рознымі тыпамі глеб БССР, уплыву яе на мобілізацыю фосфорнай кіслаты і іншых элемэнтаў у глебе, высветлены таксама цэлы рад пытаньняў адносна ўплыву вапнаваньня на разьвіцьцё расьліннага організму, на прысваеньні ім паасобных мінэральных элемэнтаў, намнажэньне іх у організьме і ўтварэньня некаторых груп органічных злучэньняў.

Выяўлена, што на глебах, багатых на фосфар, пад ўплывам вапнаваньня, адбываецца лепшае скарыстаньне фосфару для ўтварэньня насеньня аўсу з адносна большым намнажэньнем гэтага элементу. Пры ўнясеньні ў глебу высокіх доз вапны, асабліва паленай, заўважана ненормальнае разьвіцьцё расьліны ў выніку намнажэньня аміячнага і нітрытнага азоту, якія пры шчолачнай рэакцыі шкодна ўплываюць на рост расьліны. Устаноўлены таксама суадносіны ў намнажэньні некаторымі культурнымі расьлінамі элемэнтаў Ca і Mg, якія ў аўсе намнажаюцца ў аднолькавай колькасьці ў той час, як у лубіне Ca ў значнай меры замяняецца Mg, які намнажаецца адносна больш Ca, што вынікае з асаблівасьці лубіну як вапнаўхільнай расьліны, непераносячай прысутнасьці павышанай колькасьці Ca ў глебе.

Вывучэньне пытаньня аб унясеньні Mg непасрэдна ў глебу побач з вапнаваньнем, паказала на станоўчы ўплыў на разьвіцьцё

расьлін дамешак Mg к чыстаму вапеню пры ўнясеньні ў глебу. Для збожавых культур (аўсу) лепшы станоучы ўплыў на разьвіцьцё расьліны аказваюць суадносіны ўнесенага Ca к Mg ад 3:1 да 1:1 у той час, як для бабовых (гарох) лепшы ўплыў на разьвіцьцё расьліны аказваюць суадносіны ўнесенага Ca і Mg у межах ад 3:1 да 1:2,5, як бачым з большай тэндэнцыяй замены вапеня магніем, што падкрэсьліваецца і значна больш чулай рэакцыяй многіх бабовых культур (гарох, соя і інш.), на вапнаваньне для якіх дозы вапны, унесеныя з разьліку па ардынарнай гідралітычнай кіслотнасьці глебы ўжо аказваюць часта адмоўны ўплыў у процілегласьць многім збожжавым, якія добра разьвіваюцца і пры значна большых дозах вапны.

З праведзеных работ па вывучэньню ўмоў харчаваньня культурных расьлін, выяўлены таксама ход намнажэньня фосфару і азоту ў насеньні лубіну, якое ідзе на працягу ўсяго часу дасьпяваньня насеньня, прычым за тэрмін ад пачатку пасьпяваньня і да поўнага высьпяваньня колькасьць намножанага ў насеньні фосфару павялічваецца амаль ў два разы.

Пры вывучэньні ходу намнажэньня ў расьлінным організьме элемэнтаў Ca і K, устаноўлена, што ў саломе некаторых культурных расьлін маецца пэўная залежнасьць у намнажэньні K да колькасьці намножанага Ca. Павялічэньне ўспрынятага Ca памяншае ўспрыняцьце і намнажэньне K.

Праведзены работы па ўстанаўленьню ўплыву розных форм азоцістых угнаеньняў на сынтэз бялковых матэрый організмам расьліны, і рад іншых работ ў кірунку вывучэньня ўзаемадзейнасьці паміж спажыўным рэжымам глебы і дзейнасьцю расьліннага організму, успрыняцьцю ім паасобных спажыўных элемэнтаў і інш.

Заслугоўвае вялікай увагі работа, праведзеная Цэнтральнай агрохэмічнай лябараторыяй па праверцы мэтодаў вызначэньня запасу спажыўных матэрый у глебе (ураджайнасьці глебы) Мітчэрліха і Нэўбаўэра. Для практыкі соцыялістычнага земляробства вялікае значэньне мае ўстанаўленьне дасканалых мэтодаў вызначэньня запасаў спажыўных матэрый у глебе, даступных для расьлін. Гэтага асабліва патрабуе пашырэньне ўжываньня штучных мінэральных угнаеньняў у сувязі з шпаркім разьвіцьцём нашай хэмічнай прамысловасьці ў інтарэсах хэмізацыі сельскай гаспадаркі. Між тым, наяўныя у гэтым кірунку мэтоды (Мітчэрліха Нэўбаўэра) маюць рад мэтодолёгічных памылак і загэтым перанясеньне іх ў практыку соцыялістычнага земляробства прадстаўлялася зусім недапушчальным.

Праведзеная работа Цэнтральнай агрохэмічнай лябараторыі ў гэтым кірунку паказала на мэханістычнасьць гэтых абодвух мэтодаў і ў адносінах мэтоду Нэўбаўра амаль поўную яго няпрыгоднасьць на глебах БССР.

Гэтая работа толькі яшчэ лішні раз паказала, што навуковыя досьледы і іх вынікі зьяўляюцца правільнымі і каштоўнымі толькі тады, калі яны вынікаюць з правільнай мэтодолёгічнай устаноўкі досьледаў.

Апрача дасьледчай распрацоўкі пытаньняў па фізыолёгіі харчаваньня расьлін і зьвязаных з гэтым іншых пытаньняў, вялікая работа дасьледчымі ўстановамі БССР праведзена і ў іншых галінах расьліннай фізыолёгіі.

Асаблівай увагі заслугоўваюць работы па фізыолёгіі расьлін, праведзеныя лябораторыяй фізыолёгіі расьлін Бел. дзярж. акадэміі с. гасп. ў Горках. Галоўны кірунак работ лябораторыі—гэта вывучэньне пігмэнтаў расьлін у пераважнасьці хлёрафілу і працэсаў сінтэзу арганічнай матэрыі ў расьліне.

У сувязі з навейшамі данымі па хэміі хлёрафілу, яго ўтварэньня ў расьлін і сынтэзу арганічнай матэрыі, лябараторыяй праароблена вялікая работа па вывучэньню протохлёрафілу і пытаньняў, зьвязаных з утварэньнем самога хлёрафілу і каратыноідаў, ролі жалеза і калія ў фармаваньні пігмэнтавай сыстэмы хлёраплястаў, вывучэньне пытаньня аб першым продукце сынтэзу ў расьлінным організьме ў сувязі з формальдэгіднай тэорыяй, а таксама праведзены рад сынтэзаў пірольных злучэньняў, па высьветленьні хэміі хлёрафілу.

Вывучэньне лябораторыяй дынамікі формаваньня хлёрафілу і жоўтых спадарожнікаў у расьлін, як і вывучэньне протохлёрафілу і яго жоўтых пігмэнтаў дало рад меркаваньняў у тым кірунку, што паміж зялёнымі і жоўтымі пігмэнамі плястыды зусім магчыма дапусьціць існаваньне генэтычнай сувязі, якая зьдзяйсьняецца праз фітолёвую групу зялёных пігмэнтаў.

Вывучэньне пытаньня аб першых продуктах сынтэзу арганічнай матэрыі ў расьліне далі каштоўны матар'ял па падмацаваньню формальдэгіднай тэорыі. Праведзеныя ў лябораторыі работы ўстанавілі ўсваяльнасьць лістом данага зьне формальдэгіду і ператтварэньне яго ў цукры [1], што падмацоўвае тэорыю Баўэра, выказаную ў нядаўнія часы Вільштрэтарам побач з яго схэмай ходу самога працэсу сінтэзу пры ўдзеле хлёрафілу і прамяністай энэргіі сонца.

У сувязі з правядзеньнем работы па вывучэньню хлёрафілу і зьвязанай з гэтым патрэбы колькаснага вызначэньня пігмэнтаў, у лябораторыі, проф. Годневым Ц. М. сконструіравана новая прылада для колькаснага вызначэньня хлёрафілу спэктроколёрымэтрычным шляхам пры дапамозе Gitter-спэктраскопу, значна спрашчаючы мікроспэктроколёрымэтрычны мэтод Любіменка і ўдасканальваючы яго.

Навуковая работа ў галіне фізыолёгіі расьлін праведзена ў апошнія гады і ў Біолёгічным ін-це Беларускай Акадэміі Навук. Работа гэта ў Біолёгічным інстытуце концэнтруецца вакол некалькіх пытаньняў, з якіх можна адзначыць наступныя:

Вывучэньне фізыолёгічнай ролі антоцыяніну ў расьлінах, якая ня гледзячы на шырокае распаўсюджаньне гэтага пігмэнту ў расьліннай прыродзе, да апошніх часоў заставалася амаль зусім незразумелай. Больш таго, па даных розных досьледчыкаў гэтага пытаньня вынікалі самыя процілеглыя думкі, якія не давалі магчымасьці высьветліць сутнасьць пытаньня.

---

[1] Праца яшчэ не апублікавана.

Праведзеныя работы Біолёгічным інстытутам знайшлі цесную залежнасьць у намнажэньні антоцыяніну ў лісьцях расьлін і дзейнасьцю на ліст ультра-фіялкавага праменю і ўстанаўліваюць гэтую ролю антоцыяніну, як абаронную ад шкоднай дзейнасьці на тканкі ліста ўльтра-фіялкавых праменьняў.

Выяўлена, што найбольш шкодна дзейнасьць ультра-фіялкавых праменьняў выяўляецца пры зьніжэньні тэмпэратуры, а гэта адпавядае і назіраньням аб зьяўленьні антоцыянінавай афарбоўкі ў вясновы і васеньні час, у прыродзе ,як назіраецца і простая залежнасьць велічыні антоцыянінавай афарбоўкі ад колькасьці атрыманых ультра-фіялкавых праменьняў у сонечнай радыяцыі (горы, тропікі, арктыка).

У сувязі з гэтай працай Інстытутам упяршыню распрацавана мэтодыка колькаснага вызначэньня антоцыяніну, побач з колькасным вызначэньнем пігмэнтаў протоплязмы (хлёрафілаў і каратыноідаў).

У кірунку далейшай распрацоўкі пытаньня аб фізыолёгічнай ролі антоцыяніну, цяпер вывучаецца паглынаньне ўльтра-фіялкавых праменьняў антоцыянінам.

Другім пытаньнем, якое распрацавана Біолёгічным інстытутам БАН, зьяўляецца пытаньне аб вывучэньні прычын стэрыльнасьці пладовых дрэў, і мэтоду вызначэньня апылкавальнікаў пладовых дрэў. Устаноўлена, што стэрыльнасць абумаўляецца дзейнасьцю сакрэта рыльца на прарост пылку, якая можа выяўляцца ў падаўленьні прaросту і ўтварэньні адмоўнага хэмотрамізму, або наадварот,—стымулюючы прарост і ўтвараючы станоўчы хэмотрамізм пылкавых трубачак у такім разе стварае спрыяльныя ўмовы для запылкаваньня. Умовы прарашчваньня пылку ў штучным субстраце ў прысутнасьці рыльца, адпавядаюць умовам прарастаньня і ў прыродных умовах, таму вызначэньне апылкавальнікаў можа з посьпехам праводзіцца ва ўмовах лябораторыі, што значна паскорыць і спросьціць у дасьледчай рабоце садоўніцтва вызначэньне апылкавальнікаў.

Наступнае пытаньне, якое распрацоўвалася Біолёгічным інстытутам, гэта вывучэньне ўплыву вільготнасьці глебы на разьвіцьцё бульбяной расьліны. На аснове гэтага вывучэньня ўстаноўлена высокая патрэба бульбы ў вільгаці глебы (оптымум у 80 проц. ад поўнай вільготаёмістасьці глебы). Апрача таго выяўлена, што велічыня крухмалістасьці бульбы не знаходзіцца толькі ў залежнасьці ад ступені вільготнасьці глебы, як гэта звычайна разумелася, а абумаўляецца таксама і іншымі ўмовамі ходу жыцьцядзейных процэсаў і што найбольш спрыяючыя ўмовы росту звычайна даюць і даволі высокі проц. крухмалу, незалежна ад высокай ступені вільготнасьці глебы. Выяўлена патрэба ў вільготнасьці глебы для бульбы ў розныя пэрыоды вэгетацыі, што дае кіруючыя паказаньні аб пабудове агротэхнічных спосабаў догляду за бульбай і інш.

Інстытутам праводзіцца таксама работа па вывучэньню дыханьня зімуючай руні ў сувязі з пытаньнем перазімоўкі азімых і частых выпадкаў „выправаньня“ азіміны ва ўмовах БССР. Устаноўлена залежнасьць інтэнсыўнасьці дыхальнага процэсу пры

розных ступенях вільготнасьці глебы (павышэньне з—павышэньнем вільготнасьці глебы), наяўнасьць дыхальнага процэсу пры даволі нізкай тэмпэратуры 1—3$^0$ і розная інтэнсыўнасьць дыхальнага процэсу ў паасобных гатункаў азімага жыта (Петкус, Вятка).

Вялікая работа Біолёгічным інстытутам праведзена і праводзіцца і цяпер па вывучэньню пытаньня аб увядзеньні ў БССР культуры соі.

Праведзена фізыолёгічнае дасьледваньне прычын невысьпяваньня соі ў БССР, з якога ўстаноўлена, што прыродна-гістарычныя ўмовы БССР зьяўляюцца спрыяльнымі для разьвіцьця соі і што цэлы рад гатункаў можа пасьпяхова высьпяваць на значнай тэрыторыі БССР. Пастаўленае апрабаваньне звыш 700 гатункаў соі на высьпяваньне дало вялікую колькасьць сартоў зусім нормальна дасьпелых (Горкі), многія з якіх маюць і ва ўмовах БССР даволі кароткі вэгетацыйны пэрыод (некаторыя сарты амурскага паходжаньня і інш.).

Праводзіцца работа па штучнаму скарачэньню вэгетацыйнага пэрыоду, па яравізацыі соі і інш.

На падставе праведзеных работ па вывучэньню соі намячаюцца пэўныя пэрспэктывы па ўвядзеньню яе ў склад сельскагаспадарчай культуры БССР.

У дасьледчай рабоце БССР мела месца скарыстаньне фізычных узбуджальнікаў росту побач з хэмічнымі стымулянтамі пры вывучэньні цэлага раду культур рознымі дасьледчымі ўстановамі БССР. У гэтым кірунку праведзены досьледы з уплывам рэнтгенаўскіх і ўльтра-фіялкавых праменьняў на насеньне соі ў кірунку скарачэньня яе вэгетацыйнага пэрыоду, вывучэньне ў гэтым-жа кірунку дзейнасьці пароў этару, тэмпэратурных узьдзейнічаньняў на насеньне соі, хэмічных стымулянтаў пры дзейнасьці іх на насеньне і праз унясеньне ў глебу (пад сою і лён—Біолёгічны ін-тут БАН, Прадзільны ін-тут, Ін-тут глебазнаўства і агрохэміі).

Даволі шырокая дасьледчая работа навукова-дасьледчымі ўстановамі БССР праведзена ў кірунку вывучэньня ўплыву актыўнай кіслотнасьці асяродзьдзя (глебы) на расьлінны організм, як зьмена рэакцыі тканак самога організму ў залежнасьці ад розных фактараў. У гэтым кірунку асабліваю цікавасьць прадстаўляе работа Бульбяной зональнай станцыі па вывучэньню фізыка-хэмічных уласьцівасьцяў бульбы пад час яе захоўваньня для высьвятленьня прычын лёжкасьці бульбы. Высьветлена, што кіслая рэакцыя соку бульбы спрыяе лёжкасьці, прычым лёжкасьць абумоўліваецца значнай буфэрнасьцю соку і захаваньнем пэўнай ступені концэнтрацыі вадародных іонаў на працягу зімы. Пад вясну буфэрнасьць соку падае, у сувязі з чым наступае хуткае зашчалачваньне соку і памяншэньне лёжкасьці. Прычым паміж ступеньню кіслотнасьці, буфэрнасьцю і колькасьцю амінакіслот маецца пэўная корэляцыя, супадаючая з характарам лёжкасьці бульбы.

Зьяўляецца зразумелым, што ў такім кароткім аглядзе немагчыма поўнасьцю адзначыць усю тую вялікую і living разнастайную навукова-дасьледчую работу, якая за гэтыя 15 год шпаркіх тэм-

паў росту ўсёй народнай гаспадаркі БССР мела месца ў розных галінах батанічнай навукі. За гэтыя 15 гадоў да тых адзінак навуковых працаўнікоў у галіне батанікі, якія мы мелі ў першыя гады пасьля Кастрычніка, дадаліся дзесяткі новых маладых вучоных, якія вышлі з асяродзьдзя рабочай клясы і бядняцка-серадняцкай часткі сялянства, дадаліся новыя кадры, узгадаваныя ня толькі вузаўскай і дасьледчай ляборатрыяй, але і непасрэднай барацьбой за вялікі Кастрычнік, далейшай барацьбой за пераможнае ажыцьцяўленьне пабудовы соцыялізму. Але было-б грубейшай памылкай меркаваць, што ў навукова-дасьледчай рабоце ў нас абстаяла ўсё здавальняюча, што ўвесь яе ход і выкананьне было скрозь падначалена задачам вялікай стройкі соцыялізму.

Абвостраная клясавая барацьба, якая мела месца на ўсім працягу існаваньня дыктатуры пролетарыяту аж да сёнешніх дзён і будзе існаваць яшчэ пэўны час, набываючы розныя формы і адценьні на розных этапах нашага будаўніцтва, не магла не знайсьці свайго адбітку на навуковым фронце.

Гэта барацьба ў галіне навуковай работы па разьдзелу батанікі знаходзіла сваё пэўнае адабражэньне ў цэлым радзе мэтодолёгічных скажэньняў, правядзеньне у працах чуждай пролетарыяту ідэолёгіі.

Фізыолёгія расьлін яшчэ да апошніх часоў поўнасьцю не перагледзела сваіх мэханістычных і ідэалістычных установак. Мэтодолёгічная памылковасьць раду асноўных пытаньняў фізыолёгіі, узьведзеных часамі ў разуменьні закону, як, напрыклад, так званы Лібіхаўскі закон мінімуму і максымуму, закон Блекмана— абмяжоўваючых фактараў, Мітчэрліхаўскі закон фактараў росту і інш. патрабуюць безадкладнай, экспэрымэнтальна-абгрунтованай крытыкі і пераапрацоўкі, бо даваць свае вывады дасьледчай работы, выходзячы з такіх няправільных установак, прыводзіць да скажэньня сапраўднасьці, да ўстанаўленьня няісную ючых закономернасьцяў і палажэньняў, а адсюль да грубых, няправільных практычных вынікаў, якія шкодна адбіваюцца на практыцы нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Адсутнасьць належнай прапрацоўкі мэтодолёгічных установак у пытаньнях фізыолёгіі расьлін давала мажлівасьць у пэўнай меры клясава-варожым сілам у нашай краіне працягваць свае шкодныя ўстаноўкі ў дасьледчую работу па пытаньням фізыолёгіі і ў зьвязаныя з ёй агрономічныя і агротэхнічныя пытаньні.

Асабліва выразна такая работа праводзілася з боку беларускага контррэволюцыйнага нацдэмократызму, які, скарыстоўваючы ў пэўных мэтах былы Навукова-дасьледчы інстытут сельскай гаспадаркі і падпарадкаваныя яму дасьледчыя станцыі і Белар. Акад. Навук, імкнуўся і навукова-дасьледчую работу ў галіне расьлінагадоўлі, агрофізыолёгіі, батанікі падпарадкаваць свайму ўплыву.

Пільнасьцю нашай комуністычнай партыі і адзінай непарушнай воляй рабочых і працоўных мас, адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва, гэтым спробам быў даны належны адпор. І ўсе спробы процідзейнічаць пераможнаму ходу соцыялістыч-

нага будаўніцтва аказаліся разьбітымі ўшчэнт зьяўляючыя самі па сабе, нікчэмнымі ў параўнаньні з тымі гіганцкімі посьпехамі, якія Савецкая Беларусь набыла ва ўсіх галінах будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. І на сёнешні дзень, дзень сьвяткаваньня нашых перамог на працягу 15-ці гадоў дыктатуры пролетарыяту, БССР—гэта ня цёмны, забыты, загнаны і зьбяднелы Паўночна-Заходні Край, як коленіяльны дадатак да вялікадзяржаўнай царскай Расіі, а адна сярод многіх, перадавая ў гаспадарчых і культурных адносінах Соцыялістычная Рэспубліка адзінага Савецкага Саюзу, якая непарушнай воляй усяго пролетарыяту і яго авангарду—комуністычнай партыі пераможна ідзе наперад да соцыялізму, няўхільна даганяючы і абганяючы ў тэхнічна-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

Я. Кукелка

# Польскія працоўныя масы ў соцыялістычным будаўніцтве БССР

У дарэволюцыйны пэрыод польскае насельніцтва Беларусі мела ў сваім складзе значную колькасьць эксплёататарскіх элемэнтаў: абшарнікаў, капіталістаў, кулакоў, гандляроў і інш.

Кастрычнікаўская рэволюцыя і барацьба за разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва зьмянілі соцыяльны склад насельніцтва ўсіх нацыянальнасьцяў, у тым ліку і польскага насельніцтва.

Перапіс 1926 году паказаў, што агульная колькасьць польскага насельніцтва на тэрыторыі БССР складае 97.228 асоб, або 1,96% у адносінах да ўсяго насельніцтва краіны. З гэтага ліку ў гарадох жыве 19.665 асоб і ў вёсках 77.883 асобы. У адносінах да ўсяго гарадзкога насельніцтва палякі складалі 2,32%, а ў вёсцы 1,86%. Згодна даных памянёнага перапісу соцыяльны склад польскага насельніцтва БССР у адносінах да соцыяльнага складу ўсіх іншых нацыянальнасьцяў ў гэты час быў наступны

| | У гарадох | У вёсках |
|---|---|---|
| Рабочыя | 3,2% | 3,3% |
| Сяляне | 1,8 „ | 1,8 „ |
| Рамесьнікі | 1,2 „ | 2,1 „ |
| Служачыя | 2,9 „ | 2,5 „ |
| Вайсковыя | 0,9 „ | 0,5 „ |
| Гандляры | 0,6 „ | 0,4 „ |
| Асобы вольных профэсій | 2,9 „ | 1,2 „ |
| Беспрацоўныя | 2,9 „ | 3,2 „ |
| Іншыя | 3,9 „ | 2,9 „ |

Паказаныя лічбы сьведчаць аб тым, што самай значнай соцыяльнай праслойкай сярод польскага насельніцтва ў БССР зьяўляюцца рабочыя, сярэдні процант іх у адносінах да ўсіх рабочых складае 3,5%. Пасьля рабочых наступнай па велічыні соцыяльнай групай зьяўляюцца служачыя, якія складаюць 2,7%.

Процант усіх гэтых соцыяльных груп значна меншы, так: сяляне складаюць—1,8%, саматужнікі—1,7; гандляры—0,53; асобы вольных профэсій—1,6%.

У сучасны момант соцыяльны склад польскага насельніцтва яшчэ больш зьмяніўся ў бок павялічэньня рабочых і колгасьнікаў і зьмяншэньня эксплёататарскіх і дробна-буржуазных груп.

Царскі ўрад, верны сваёй політыцы нагляга прыгнечаньня нацыянальных меншасьцяў, налажыў цяжкую лапу і на польскае насельніцтва.

Польскія працоўныя масы, асабліва на тэрыторыі Беларусі, цярпелі вялікі ўціск як з боку царскага ўраду, так і з боку польскіх эксплёататараў. Палякам было забаронена купляць зямлю ў не палякаў, але фактычна гэта датычыла толькі працоўных. Побач з экономічным уціскам царскі ўрад таксама прыгнятаў і культурнае разьвіцьцё. Польскаму насельніцтву было забаронена організоўваць для сваіх дзяцей школы на роднай мове. Гэта таксама датычыла фактычна выключна толькі працоўных, таму што польскія абшарнікі, капіталісты і іншыя эксплёататары мелі ўсе магчымасьці вучыць сваіх дзяцей ня толькі ў Расіі, але і за межамі. Польскія абшарнікі, кулакі і ксяндзы на кожным кроку запэўнялі, што толькі яны зьяўляюцца абаронцамі польскага народу і польскай культуры і такім чынам імкнуліся забясьпечыць свой уплыў на працоўныя масы, затармазіць разьвіцьцё клясавай барацьбы і стварыць моцны грунт для польска-каталіцкай „еднасьці народовай“.

Кастрычнікаўская рэволюцыя вырвала польскія працоўныя масы СССР і БССР з векавога экономічнага прыгнечаньня і раз назаўсёды вызваліла іх з лютага нацыянальнагн ўціску.

Пятнаццатую гадавіну Кастрычнікаўскай рэволюцыі польскае працоўнае насельніцтва БССР сустракае вялізарнымі дасягненьнямі як на фронце гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту і Савет Народных Камісараў БССР у сваёй адозьве да рабочых і колгасьнікаў з прычыны рэорганізацыі Койданаўскага раёну ў нацыянальны польскі раён характарызуюць удзел польскіх працоўных мас у социялістычным будаўніцтве наступным чынам:

„Працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяў, якія жывуць на тэрыторыі Савецкай Беларусі, у тым ліку і нацыянальнасьць польская, рошуча і беспаваротна ўступілі на шлях соцыялізму і пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі праводзяць нясупынную барацьбу на фронце вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, ламаючы ўсялякі адпор клясавага ворага, бязьлітасна змагаючыся з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „левым“ опортунізмам і з усімі прымірэнцамі. Польскія рабочыя, сумесна з усімі рабочымі вялікага Савецкага Саюзу, ажыцьцяўляюць дыктатуру пролетарыяту, з посьпехам змагаюцца за выкананьне пяцігадовага пляну, за пабудову бясклясавага грамадзтва“.

Гэтую ацэнку атрымалі польскія працоўныя масы ад савецкай улады ў выніку доўгай, нясупыннай клясавай барацьбы на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

Польскія капіталістычныя элемэнты—агенты польскага фашызму, кулакі і каталіцкія ксяндзы на кожным кроку вядуць сярод польскага працоўнага насельніцтва контррэволюцыйную агітацыю супроць клясавае барацьбы, за монолітны фронт польскага і каталіцкага народу. Увесь агонь контррэволюцыі і быў накіраваны на падрыў давер‘я польскіх працоўных мас да кому-

ністычнае партыі, савецкай улады; да ленінскай нацыянальнай політыкі і гэтым самым на адрыў гэтых мас ад соцыялістычнага будаўніцтва.

Кулацкія элемэнты вялі энэргічную агітацыю сярод польскага насельніцтва за скрыцьцё польскай нацыянальнасьці і гэтым імкнуліся компромэтаваць нацыянальную політыку комуністычнай партыі і савецкай улады. Але працоўныя масы хутка зразумелі контррэволюцыйную дзейнасьць агентаў польскага фашызму і далі гэтым агентам належны адпор.

Пасьля гэтых агульных заўваг пяройдзем да конкрэтных дасягненьняў польскіх працоўных мас у галоўных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Калі ў 1925 г. было толькі два нацыянальных польскіх сельсаветаў, дык у 1926 г. было іх ужо 13; у 1927 г.—23; у 1932 г. налічваем ужо 36 сельсаветаў і побач з гэтым некалькі ў стадыі організацыі. У пачатку 1932 г. организаваны нацыянальны польскі раён імя Дзяржынскага (былы Койданаўскі).

Апошнія выбары ў Дзяржынскім раёне (вясна 1932 г.), у якіх прымала ўдзел больш як 80% выбаршчыкаў, яскрава сьведчаць, што польскія працоўныя прымаюць актыўны ўдзел ў кіраўніцтве соцыялістычнай дзяржавай. Польскія рабочыя актыўна дапамагаюць соцыялістычнай індустрыялізацыі народнае гаспадаркі, ужываюць соцыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, змагаючыся за падняцьце продукцыйнасьці працы і паніжэньне сабекошту. На фабрыках і заводах, на чыгунках, а таксама ва ўсіх іншых галінах соцыялістычнага будаўніцтва польскія рабочыя рука аб руку з рабочымі ўсіх іншых нацыянальнасьцяй з энтузыязмам выконваюць вялікую гістарычную справу, завяршаюць выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Таксама польскія працоўныя вёскі—батракі, беднякі і серадзякі, якія складаюць асноўную частку польскага насельніцтва БССР, у сваёй пераважнай большасьці сталі сьвядома і беспаваротна на шлях соцыялістычнага будаўніцтва.

У сучасны моманті колькасьць колектывізаванага польскага насельніцтва, батракоў, беднякоў і серадзякоў у БССР перавышае 60 проц. Польскіх колгасаў на тэрыторыі Беларусі зараз налічваем звыш 200. У адным толькі Дзяржынскім раёне існуе 57 польскіх колгасаў.

У пераважнай большасьці колгасаў гаспадарка пастаўлена на высокую ступень разьвіцьця. Узрасла тэхнічная база, пашырылася пасеўная плошча, узрасла ўраджайнасьць палеткаў, організаваны таварныя фэрмы—жывёлагадоўчыя і сьвінаводныя і ўзрасла пасеўная плошча тэхнічных культур і тэхнічных траў. Шпарка расьце пабудова колгасных будынкаў. Большаюць гурты колгаснае жывёлы. Толькі ў адным Дзяржынскім раёне—13 таварна-малочных фэрм павялічацца ў гэтым годзе на 2.200 малочных кароў, а таксама на столькі-ж цялят; 50 сьвінаводных фэрм узбагаціцца на 2.800 сьвінаматак. Колгасьнікі разгортваюць соцыялістычнае спаборніцтва, шпарка растуць рады ўдарнікаў колгасных палеткаў.

Польскія колгасы, ідучы нага ў нагу з колгасамі іншых нацыянальнасьцяў, з гонарам выканалі ўсе гаспадарчыя кампаніі 1931 г.

Польскія колгасьнікі ў асноўнай сваёй масе зразумелі значэньне шасьці ўмоў тав. Сталіна і ўпарта, па-бальшавіцку, змагаюцца за іх ажыцьцяўленьне. Так, напрыклад, колгас імя Домбаля, Лазінскага сельсавету Барысаўскага раёну, на працягу апошняй зімы паслаў на фабрыкі г. Барысава 64 колгасьнікі; колгас Наталаўскага сельсавету паслаў на Донбас 26 колгасьнікаў, а колгас „Чырвоны комунар“ Аколаўскага сельсавету накіраваў на прамысловасьць каля 30 колгасьнікаў.

На жаль, поруч з вялікімі дасягненьнямі ў галіне перабудовы польскай вёскі на социялістычны лад, маем і значныя недахопы. Перш за ўсё, значная колькасьць польскіх колгасаў не змагла канчаткова пазбавіцца ад варожых кулацкіх драпежнікаў, якім удалася праціснуцца ў колгасы для таго, каб разлажыць іх з сярэдзіны. Значна дае сябе адчуваць недахоп кіраўнічых кадраў, асабліва спрактыкаваных старшынь сельсаветаў і брыгадзіраў. Сучасны кіруючы склад у значнай частцы колгасаў вельмі слабы. Ёсьць выпадкі, калі старшыні і брыгадзіры ледзь могуць напісаць сваё прозвішча, але сустракаюцца і зусім няпісьменныя. Працоўныя масы БССР не закрываюць сваіх слабых месц, якіх нямала ў нашым социялістычным будаўніцтве. Польскія колгасьнікі на сходах, а таксама на старонках нашай савецкай і партыйнай прэсы выкрываюць усе свае недахопы ў парадку крытыкі і самакрытыкі, бо добра ведаюць, што на такім шляху змогуць перамагчы ўсе свае недахопы ў рабоце.

За 15 год дыктатуры пролетарыяту польскія працоўныя масы СССР і БССР у брацкай солідарнасьці з працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяў, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, дасягнулі вялізарных посьпехаў у галіне социялістычнага будаўніцтва. Праўда аб нашых посьпехах даходзіць да працоўных мас капіталістычных краін наогул і да працоўных фашысцкай Польшчы ў прыватнасьці. У той час, калі ў фашысцкай Польшчы 17 тысяч абшарнікаў трымаюць у сваіх лапах 10 млн. га зямлі або 40% усяго абшару, калі 65% сялянскіх гаспадарак карыстаюцца з нацяжкай 4 млн га, 2½ міл. сялян зусім ня маюць зямлі, затое ў савецкіх рэспубліках уся зямля належыць працоўным масам. Там польскі фашызм выкідае беларускіх, украінскіх беднякоў і сераднякоў, а на іх землях асаджвае фашысцкіх афіцэраў і падафіцэраў. У нас у СССР і БССР савецкая ўлада організоўвае нацыянальныя сельсаветы і раёны. Там польскі фашызм рабуе і руйнуе працоўнае насельніцтва наогул і нацыянальныя меншасьці ў прыватнасьці. Савецкая ўлада не шкадуе ніякіх сродкаў на палепшаньне добрабыту нацыянальных меншасьцяў. Найлепшым прыкладам гэтага можа служыць узрост выдаткаў па бюджэту Дзяржынскага польскага раёну ў БССР.

Бюджэт названага раёну складае:

| У гады | Рублі |
|---|---|
| У 1924-25 г. . . . . . | 91.304 |
| „ 1927-28 „ . . . . . | 222.800 |

| У гады | Рублі |
|---|---|
| У 1929 " | 264.941 |
| " 1930 " | 481.489 |
| " 1931 " | 1.055.632 |
| " 1932 " | 1.972.200 |

Калі за 1924-5 гг. бюджэт палічым за 100, то яго павялічэньне у наступныя гады будзе выражацца ў такіх лічбах:

| Гады | Процанты |
|---|---|
| 1924-5 г. | 100% |
| 1927-28 " | 245 " |
| 1929 " | 290 " |
| 1930 " | 527 " |
| 1931 " | 1.160 " |
| 1932 " | 2.170 " |

Нарэшце, характэрнай рысай зьяўляецца тое, што прырост выдатковае часткі бюджэту Дзяржынскага раёну ў 1932 г. ў параўнаньні з 1931, дасягае 86,9% у той час, калі сярэдні ўзрост выдаткаў па бюджэту БССР за 1932 г. складае на 32,7%.

Вышэй адзначаныя даныя зьяўляюцца пераконваючымі фактамі ленінскай нацыянальнай політыкі комуністычнай партыі і савецкай улады. Гэтых фактаў ніхто ня можа абвергнуць. Польская фашысцкая прэса, жадаючы перашкодзіць шпаркаму росту рэволюцыйнага руху сярод працоўных мас у Польшчы і падрыхтаваць глебу да інтэрвэнцыі супроць СССР, імкнецца абліваць бруднымі памыямі нашу нацыянальную політыку і наша соцыялістычнае будаўніцтва. Наёмныя лёкаі польскага фашызму трубяць бязупынна, што савецкая ўлада ўціскае польскае насельніцтва, што сельская гаспадарка ў Савецкім Саюзе заняпадае, руйнуецца. Аднак, працоўныя масы капіталістычных краін ня вераць профэсыянальным ілгуном контррэволюцыі, пасылаюць у СССР сваіх прадстаўнікоў, якія сваімі ўласнымі вачыма праўяраюць нашы дасягненьні і, вярнуўшыся, расказваюць сваім таварышом аб нашых посьпехах па ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Калі ў мінулым годзе колгасьнікі-палякі даведаліся, што да нас зьбіраецца прыехаць дэлегацыя польскіх рабочых з Амэрыкі, зараз-жа пасыпаліся ад колгасьнікаў масавыя запрашэньні. Кожны колектыў быў рады паказаць дэлегатам свае дасягненьні, кожны хацеў выкрыць хлусьню міжнароднай контррэволюцыі. Колгасьнікі „Комінтэрну", Рубілкаўскага сельсавету, Дзяржынскага раёну ў сваім лісьце да польскіх рабочых і работніц пісалі:

„Калі прыедзеце да нашага колгасу, то ўласнымі вачыма ўбачыце, як мы, колгасьнікі-палякі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і савецкай улады, плячо ў плячо з працоўным насельніцтвам іншых нацыянальнасьцяў будуем соцыялістычную гаспадарку на вёсцы. Раней былі мы прыгнечаны царскім урадам і польскімі панамі. Графы Чапскія, Радзівілы, Іодкі тлусьцелі за наш крывавы пот, агнём і мячом душылі ўсякія рэволюцыйныя

выступленьні. Цяпер мы ідзем шпаркімі крокамі наперад—да соцыялізму. Што-раз на вышэйшую ступень узьнімаем нашу гаспадарку і культуру, „соцыялістычную па зьместу і нацыянальную па форме“.

Польскія працоўныя масы даюць рашучы адпор праваму опортунізму, „левым“ заскокам, а таксама ўсялякаму прымірэнцтву, як агентуры кулацкай контррэволюцыі. Колгасьнікі польскага колгасу імя Пакроўскага, Фаніпальскага сельсавету, пішуць ЦО КП(б)Б „Зьвязда“ ў XV-ю гадавіну:

„Першы год самастойнага існаваньня нашага колгасу паказаў нам, што недавер'е да нашай колектыўнай працы, агітацыя за выхад з колгасаў, за паслабленьне тэмпаў працы—гэта ўчынкі нашых клясавых ворагаў, якія мелі на мэце разлажыць колгасную гаспадарку. Сягоньня ведаем, што даючы рашучы адпор кулацкім нашэптваньням, выконваючы шэсьць умоў тав. Сталіна, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры дапамозе бальшавіцкай прэсы організацыйна і гаспадарча ўзмоцнім наш колгас, пабудуем новую соцыялістычную вёску“.

Творчы энтузыязм працоўных мас СССР і БССР, а сярод іх польскіх працоўных мас, рэльефна паказвае на практыцы вялізарную розьніцу паміж дзьвюма сыстэмамі—соцыялістычнай і капіталістычнай.

Поруч з вялізарнымі дасягненьнямі ў галіне савецкага і гаспадарчага будаўніцтва, дзякуючы ажыцьцяўленьню комуністычнай партыяй ленінскай нацыянальнай політыкі, польскія працоўныя масы дасягнулі вялікіх посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва. Яшчэ ніколі ў гісторыі польскіх працоўных мас разьвіцьцё нацыянальнай культуры не дасягнула такога шырокага і ўсебаковага ахвату як у СССР і БССР.

Перад Кастрычнікаўскай рэволюцыяй на тэрыторыі сучаснай Савецкай Беларусі ня было аніводнай польскай школы. Польскія працоўныя масы, жадаючы вучыць сваіх дзяцей на роднай мове, прымушаны былі організоўваць школы нелегальна. Організатарамі гэтых школ былі ў большасьці ксяндзы, абшарнікі і кулакі, а настаўнікамі пераважна была абшарніцка-ксяндзоўская зграя лёкаяў, прасякнутая шовінізмам і антысэмітызмам. Асноўным зьместам навукі ў такіх школах для дзяцей было вывучэньне пацер (малітваў), катэхізму, апавяданьняў,-баек пра польскіх каралёў і паноў, а таксама прышчапленьне дзецям паслухмянасьці ў адносінах да абшарнікаў і выхаваньне іх ў духу польскага шовінізму і антысэмітызму. Няма нічога дзіўнага, што пра разьвіцьцё нацыянальнай культуры ў той час не магло быць і гутаркі. Няпісьменнасьць сярод польскага працоўнага насельніцтва даходзіла да 90%. Толькі Кастрычнікаўская рэволюцыя вызваліла польскія працоўныя масы з-пад ярма нацыянальнага і культурнага прыгнечаньня. Толькі тады гэтыя прыгнечаныя масы атрымалі магчымасьць адкрываць польскія школы і іншыя культурна-асьветныя ўстановы.

На 8 годзе Кастрычнікаўскай рэволюцыі, гэта значыць у часе перапісу насельніцтва ў 1926 годзе пісьменнасьць сярод польскага насельніцтва наблізілася да 50%, аднак, і тады яшчэ польскае

насельніцтва стаяла амаль на апошнім месцы ў параўнаньні з пісьменнасьцю іншых нацыянальнасьцяў БССР. Недахоп настаўніцкіх кадраў і раскіднасьць польскага насельніцтва былі значнымі перашкодамі ў разьвіцьці школьнага будаўніцтва. Аднак, дзякуючы комуністычнай партыі і савецкай уладзе, нам удалося ўсе цяжкасьці перамагчы і цяпер, у завяршаючым годзе пяцігодкі, пісьменнасьць сярод польскага насельніцтва дасягнула 90%, гэта значыць, што мы набліжаемся да агульнай пісьменнасьці. Разьвіцьцё польскага школьнага будаўніцтва ў СССР характарызуюць наступныя даныя:

| Гады | Комплектаў | Школ аднакомплектавых |
|---|---|---|
| 1926-27 | 154 | 97 |
| 1927-28 | 162 | 100 |
| 1928-29 | 168 | 114 |
| 1929-30 | — | 137 |
| 1930-31 | 367 | 169 |
| 1931-32 | 440 | 226 (згодна контрольных лічбаў) |

У сувязі з увядзеньнем усеагульнага навучаньня і ахопам усіх 100% дзяцей школьнага ўзросту I концэнтру патрэбна наогул 458 комплектаў, недастаючых 18 комплектаў будзе адчынена ў 1932-33 навучальным годзе.

Рост груп II концэнтру польскіх школ наступны:

| | 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 | 1928-29 | 1929-30 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Школ | 5 | 7 | 10 | 11 | 12 | 12 |

| | 1930-31 | 1931-32 | |
|---|---|---|---|
| | 19 | 31 | |
| у іх груп | 76 | 115 | 35 |

Пэрыод першай пяцігодкі паказвае вялізарны рост школьнае сеткі I концэнтру. І гэта нормальна, бо першая пяцігодка была пэрыодам увядзеньня ўсеагульнага навучаньня на базе чатырохгодкі. Другая пяцігодка ўводзіць усеагульнае навучаньне на базе сямігодкі, а таму школьнае будаўніцтва па другой пяцігодцы пакасвае вялізарны ўзрост груп другога концэнтру.

У агульнай пэрспэктыве другой пяцігодкі рост II концэнтру польскае школы выражаецца ў такіх лічбах:

| Гады | Колькасьць груп | Колькасьць вучняў |
|---|---|---|
| 1931 | 76 | 2.229 |
| 1932 | 115 | 3.483 |
| 1933 | 161 | 5.024 |
| 1934 | 212 | 7.022 |
| 1935 | 225 | 7.875 |
| 1936 | 225 | 8.785 |
| 1937 | 252 | 9.324 |

Тады за пэрыод другой пяцігодкі колькасьць груп узрасьце ў параўнаньні з 1931 годам з 76 да 252 або на 331%.

У 1926-27 г. было 9 польскіх дашкольных установ, у 1931 г. ўжо маем 29, а згодна пляну другой пяцігодкі колькасьць дашкольных устаноў вырасьце да 451. Разам з ростам школьнага будаўніцтва значна вырасла сетка сярэдніх і вышэйшых навучальных установ, заданьнямі якіх ёсьць падрыхтоўка кадраў да культурна-асьветнай і гаспадарчай работы сярод польскага насельніцтва. У БССР існуюць сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы: польскі пэдагогічны тэхнікум у Менску, польская сэкцыя пры ВПІ, польская група пры Гомельскім Агро-пэдінстытуце, польскі аддзел пры Магілеўскім політыка-асьветным тэхнікуме, польскі аддзел пры Менскім рабфаку, група пры Гомельскім рабфаку і польскі аддзел пры менскім пэдагогічным дашкольным тэхнікуме. У гэтым годзе будуць адчынены дашкольны і агрономічны тэхнікумы ў Дзяржынску, польскія аддзелы пры Віцебскім і Гомельскім рабфаках. Ужо нелалькі год існуе і ўзмацняе сваю работу польскі сэктар пры Беларускай Акадэміі Навук, які ў хуткім часе будзе рэорганізаваны ў Інстытут. Згодна пастановы Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б гарантавана адкрыцьце другой вышэйшай навучальнай установы—Польскага Пэдагогічнага Інстытуту ў Менску.

Праведзеныя факты сьведчыць, што толькі ў краіне дыктатуры пролетарыяту і пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі магчыма так вырашыць нацыянальную проблему. Што польскія працоўныя масы ведаюць, дзякуючы чаму ўзрастае нацыянальная культура, сьведчыць ліст колгасьнікаў у ЦО КП(б)Б „Зьвязда". У адзначаным лісьце колгасьнікі пішуць:

„Калі сёньня ўпаўне карыстаемся польскімі нацыянальнымі правамі ў СССР, калі нашыя дзеці вучацца ня толькі ў польскіх школах, але і ў вышэйшых навучальных установах, калі мы палякі ў СССР ня ведаем, што такое нацыянальнае прыгнечаньне,—усё гэта дзякуючы ленінскай нацыянальнай політыцы нашай комуністычнай партыі".

У той час, калі ў рэспубліках працоўнага люду народы з брацкай солідарнасьцю будуюць новае жыцьцё, калі раней прыгнечаныя царызмам і буржуазіяй нацыянальныя меншасьці цешацца нячуванай свабодай разьвіцьця свае нацыянальнае культуры,—поруч з намі ў капіталістычных краінах чуцен страшэнны стогн запрыгоненых народаў. У фашысцкай Польшчы мільёны беларусаў, украінцаў, яўрэяў, немцаў і інш. губяць рэшткі свабоды разьвіцьця свае нацыянальнае культуры. З 400 беларускіх школ, якія існавалі ў Заходняй Беларусі ў 1919-20 г.г., сёньня не асталося ніводнай. Польскі фашызм руйнуе і топча ўсё, што няпольскае і не фашысцкае.

Але там ня толькі працоўныя масы нацыянальных меншасьцяў ня маюць права разьвіваць сваю культуру. Утакім самым становішчы знаходзяцца і польскія працоўныя масы.

Там, разам з заміраньнем гаспадарчага жыцьця, што раз хутчэй замірае і культурнае жыцьцё. Наогул буржуазія лічыць асьвету крыніцай усялякіх няўдач і кідае працоўныя масы ў бяздоньне цемры і адсталасьці. Польскі фашызм з году ў год

памяншае сродкі на народную асьвету. Нават фашысцкія газэты сьцьвярджаюць, што за апошнія тры гады выдаткі на асьвету былі зьніжаны на 106 млн. і што ў бягучым 1932-33 г. будуць зьніжаны на новых 8 млн.

У нас у СССР і БССР ужо рэалізавана ўсеагульнае навучаньне на базе пачатковае школы і ўводзіцца ўсеагульнае навучаньне на базе сямігодкі. У фашысцкай Польшчы штогод новыя сотні дзяцей працоўных мас астаюцца бяз школы, без навукі. Фашысцкія газэты пішуць, што ў 1932-33 навучальным годзе 700.000 дзяцей (чытай: рабочых і сялянскіх) застаецца па-за школай.

У той час калі польскі фашызм руйнуе асьвету. наогул, і асьвету нацыянальных меншасьцяў, у прыватнасьці, калі з году ў год зьмяншаецца бюджэт на асьвету на дзесяткі мільёнаў, а на сотні мільёнаў павялічваецца бюджэт на ўзбраеньне, у нас, у савецкіх рэспубліках, савецкая ўлада больш за ўсё клапоціцца аб народнай асьвеце і асыгнаваньне на асьвету зьяўляецца найбольшай часткай выдаткаў дзяржаўнага бюджэту. Выдаткі на народную асьвету ў Дзяржынскім польскім нацыянальным раёне расьлі наступным чынам:

| Гады | Рублі |
|---|---|
| у 1924-25 | 54.489 |
| „ 1927-28 | 121.648 |
| „ 1929 | 148.238 |
| 1930 | 274.172 |
| 1931-32 | 1.085.000 |

Як бачым, бюджэт на народную асьвету Дзяржынскага польскага раёну ў 1931-32 г. павялічыцца ў параўнаньні з 1930 г. амаль у 4 разы, а ў параўнаньні з 1925 г.—у 20 раз.

Умеюць і могуць такім чынам вырашаць проблему асьветы і наогул проблему нацыянальную толькі бальшавікі.

Працоўныя масы СССР, якія належаць да розных рас і нацыянальнасьцяў, з брацкай салідарнасьцю будуюць сваю соцыялістычную бацькаўшчыну.

15 гадавіна Кастрычнікаўскай рэволюцыі, гадавіна, якая супадае з завяршаючым годам пяцігодкі ў 4 гады, яшчэ мацней зьнітуе працоўныя масы Савецкага Саюзу, і яшчэ больш узьніме іх энтузыязм на абарону сваёй бацькаўшчыны, за выкананьне другой пяцігодкі, за пабудову бясклясавага грамадзтва. У гэтым змаганьні польскія працоўныя масы БССР не адстануць ні на крок, а нага ў ногу з працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяў, пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі пойдуць да новых яшчэ большых перамог.

В. Скардзіс

# Нацыянальна-культурнае будаўніцтва і літоўскі друк у БССР

Магутны ўздым народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу і яго часткі—БССР забясьпечвае нябачаныя тэмпы росту культурнага будаўніцтва сярод народаў СССР, росквіт нацыянальных форм соцыялістычнай культуры. Важнейшай зброяй, якую партыя скарыстоўвае ў справе разгорнутага соцыялістычнага наступу па ўсіх франтох, і, у прыватнасьці, у гаспадарчым і нацыянальна-культурным будаўніцтве сярод нацыянальных меншасьцяў, зьяўляецца друк, у самых розностайных яго формах—газэты, часопісі, лістоўкі, брошуры, кнігі.

Бальшавіцкі друк неадлучны ад усёй многаграннай дзейнасьці комуністычнай партыі. Друкаванае слова зьяўляецца самым моцным сродкам, пры дапамозе якога партыя і савецкая ўлада бесьперапынна і актыўна організоўвае масы на барацьбу за соцыялізм. Праз друк „партыя штодзенна, штогадзінна размаўляе рабочай клясай на сваёй, патрэбнай ёй, мове“ (І. Сталін). "Газэта ня толькі колектыўны пропагандыст, але таксама і колектыўны організатар“—ня раз падкрэсьліваў Ленін. Выключнае значэньне кнігі, друкаванага слова, без належнага выкарыстоўваньня якога немагчыма пабудаваць соцыялістычную культуру, з усёй відавочнасьцю выяўляецца цяпер, калі культурнай рэволюцыяй ахоплены шматмільённыя масы працоўных.

Стварэньне добраякаснай, ідэолёгічна і мэтодычна вытрыманай кнігі на роднай мове ёсьць адна з асноўных умоў будаўніцтва культуры, нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу. З другога-ж боку, і правядзеньне намечаных партыяй мерапрыемстваў у галіне індустрыялізацыі, нацыянальных вобласьцяў і раёнаў, выкарчоўваньня капіталістычных адносін у сельскай гаспадарцы, умацаваньня соцыялістычных элемэнтаў нацыянальнай вёскі, барацьбы на два фронты у тэорыі і практыцы ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, падрыхтоўкі кадраў з рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх пластоў нацыянальнага сялянства, правядзеньня ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі спрадвечнай цемры, няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, політычнай і тэхнічнай адсталасьці і раду іншых важнейшых гаспадарча-політычных задач у значнай меры залежаць ад наяўнасьці ідэолёгічна вытрыманай і мэтодычна моцнай кнігі, брошуры, газэты на роднай мове.

Літоўцаў у Савецкай Беларусі, у гарадох і вёсках, налічваецца да 7.000 чалавек. Звыш 69% насельніцтва жыве ў вясковых, а рэшта—у гарадзкіх паселішчах. Большая частка гарадзкога літоўскага насельніцтва концэнтруецца ў нашых буйнейшых прамысловых цэнтрах—Менску, Барысаве, Віцебску, Гомелі. Пераважная большасьць літоўцаў—сяляне. Побач з паасобнымі дварамі і дробнымі пасёлкамі сустракаюцца вясковыя паселішчы, заселеныя даволі компактнымі масамі літоўскага сялянства, у 50—100 двароў (Верацейскі і Малькаўскі сельсаветы, Сафійск. і інш.). Але ёсьць нямала вёсак са зьмешаным насельніцтвам, дзе літоўцы жывуць разам з беларусамі, палякамі, латышамі і іншымі нацыянальнасьцямі.

Раскіданасьць літоўскага насельніцтва па самым аддаленым раёнах і глухім куткам рэспублікі стварала пэўнага роду цяжкасьці ў правадзімым партыяй і савецкай уладай нацыянальна-культурным будаўніцтве сярод гэтай народнасьці (як і сярод іншых нацменшасьцяў, якія жывуць амаль у аднолькавых умовах—латышы, немцы, эстонцы), прымушала ўлічваць усе тыя спэцыфічныя ўмовы, у якіх яна разьвівалася і жыве цяпер. Але гэтыя цяжкасьці перамагаліся і пасьпяхова перамагаюцца.

Працоўныя літоўцы Савецкай Беларусі, разам з працоўнымі масамі іншых нацыянальнасьцяў, працуюць, пад кіраўніцтвам сталёвай ленінскай партыі, у радох актыўных удзельнікаў усяго нашага социялістычнага будаўніцтва. Да XV гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі яны падыходзяць з вялікімі дасягненьнямі як у галіне гаспадарчага, так і нацыянальна-культурнага будаўніцтва. З асаблівай выразнасьцю гэтая акалічнасьць была падкрэсьлена другім Усебеларускім зьездам працоўных літоўцаў, які адбыўся 28—31 сакавіка 1932 г. ў Менску.

На гэтым зьезьдзе лепшыя прадстаўнікі літоўскіх рабочых, колгасьнікаў і працоўных сялян констатавалі, што іх становішча ў гаспадарчай і культурна-палітычнай галінах карэнным чынам зьмянілася ў параўнаньні з да-кастрычнікаўскім пэрыодам. Пры царызьме літоўская вёска гібела ў цемры і някультурнасьці, стагнала пад ботам паліцэйскага прыстава і стражніка; жыхары яе баяліся ў прысутнасьці „начальства" загаварыць на сваёй роднай мове; беднята і маламоцныя серадзякі цярпелі ад малазямельля і галечы, знаходзячыся пад прэсам кулацка-квотніцкай эксплёатацыі, дзяржаўных падаткаў і банкаўскіх плацяжоў, а то і, як арандатары, пад фэўдальна-прыгоньніцкім ярмом памешчыка.

Кастрычнікаўская рэволюцыя нанесла руйнуючы ўдар па ўсёй капіталістычнай сыстэме, якая была аснавана на эксплёатацыі працоўных мас з боку памешчыцка-буржуазнай і кулацка-квотніцкай зграі. Рэволюцыя вызваліла і літоўскае працоўнае сялянства ад панскага ярма і прэсу банкаўскай запазычанасьці, дзесяцігодзьдзямі ўціскаўшай і разбураўшай працоўную гаспадарку літоўскага селяніна. Адначасна з гэтым пролетарская рэволюцыя паставіла перад працоўным сялянствам пытаньне аб перабудове сельскай гаспадаркі на социялістычных асновах, аб такім кірунку экономічнага і грамадзкага разьвіцьця вёскі, каб назаўсёды пазба-

віцца ад усякіх форм эксплёатацыі, на чым менавіта трымаўся і грунтаваўся капіталістычны лад.

З 1928 г. ў літоўскай вёсцы на Беларусі распачаўся процэс колектывізацыі. Гэты процэс быў падрыхтаваны ўсім папярэднім соцбудаўніцтвам—соцыялістычнай індустрыялізацыяй, машынізацыяй сельскай гаспадаркі, барацьбой супроць кулацтва, разьвіцьцём першапачатковых форм сельска-гаспадарчай коопэрацыі, ростам сеткі колгасаў, на рабоце якіх селянін правяраў перавагі колектыўных форм гаспадаркі над індывідуальнымі і г. д. Колектывізацыя сустрэла шалёнае супраціўленьне з боку кулацтва і заможніцтва, значная частка з якіх мела моцныя фэрмэрскія гаспадаркі. Але ўся палітыка партыі і савецкай улады, якая праводзілася ў адносінах да асноўных мас сялянства, клясавая барацьба, якая разгарнулася ў літоўскіх вёсках з першых-жа дзён іх заснаваньня і асабліва абвастрылася ў пасьля-кастрычнікаўскі пэрыод—пераканалі батракоў, беднату і серадняцтва ў тым, што той шлях рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, на які ўказваецца рабочай клясай і яе ленінскай партыяй, ёсьць адзіныверны і правільны шлях. І працоўнае літоўскае сялянства, пад кіраўніцтвам партыі, рашуча і цьвёрда ўзялося за соцыялістычную перабудову сваёй гаспадаркі, змагаючыся з клясава-варожымі элемэнтамі ў вёсцы. У сучасны момант каля 70% літоўскага сялянства аб'яднана ў нацыянальныя і інтэрнацыянальныя колгасы.

Колёніяльнае палажэньне Беларусі ў складзе былой Расійскай імпэрыі на доўгі час затармазіла разьвіцьцё вытворчых сіл гэтай краіны. Палітыка капіталістычна-колёніяльнага царскага рэжыму ў адносінах да нярускіх народаў, засяляўшых тэрыторыю Беларусі, як і іншыя „окраіны“ імпэрыі, зьяўлялася толькі сродкам соцыяльна-экономічнага прыгнечаньня, нацыянальнага ўціску і самай бязьлітаснай, жорсткай эксплёатацыі працоўных мас гэтых народаў, была буйнейшым тормазам на шляху іх культурнага разьвіцьця. Таму Беларусь заставалася аднэй з экономічна і культурна адсталых колёній Расіі. Пачатковыя школы—царкоўнапрыходзкія, а з 1911 г. і земскія, ставілі сваёй мэтай укараненьне „истинно-русских начал“ у народзе, зьяўляліся зброяй самай ганебнай русіфікацыі насельніцтва. Пераважная большасьць нацменшасьцяў, нават і такой пачатковай асьветы былі пазбаўлены. У спадчыну царызм пакінуў страшэнную цемру і някультурнасьць шырокіх народных мас, матар'яльную галечу працоўных. Гэта, зразумела, не адносілася да пануючай верхавіны насельніцтва—памешчыкаў, буржуазіі, чыноўніцтва, кулацтва, якія зьяўляліся апорай окупанцкага рэжыму на Беларусі. Для іх былі даступны ў гарадох сярэднія агульна-адукацыйныя і спэцыяльныя школы—гімназіі, настаўніцкія сэмінарыі, а праз іх вышэйшыя навучальныя ўстановы—інстытуты, унівэрсытэты.

Перад Кастрычнікаўскай рэволюцыяй у Беларусі налічвалася да 80% няпісьменнага насельніцтва. У літоўскіх пасяленьнях таксама мелася звыш 50% няпісьменных, а сярод жанчын панавала амаль пагалоўная няпісьменнасьць. Культурнае жыцьцё колёністаў характарызавалася грамадзкай замкнутасьцю, нацыянальнай абмежаванасьцю, страшэннай палітычнай адста-

ласьцю. Гэта давала вельмі спрыяючую глебу для рэакцыйнай дзейнасьці каталіцкай папоўшчыны, якая насаджвала сярод літоўскага сялянства рэлігійны фанатызм, забабоны, ідэі каталіцкага клерыкалізму. Ксяндзы—гэтыя апосталы цемры і невуцтва, меўшыя значны ўплыў у літоўскіх вёсках (гэты ўплыў у той ці іншай ступені адчуваецца яшчэ і цяпер) падтрымлівалі культурную адсталасьць насельніцтва яшчэ і тым, што яны ўсямерна агітавалі супроць рускай школы, у якой яны ў першую чаргу бачылі небясьпеку для каталіцкай моладзі ад „праваслаўнай схізмы". У рэзультаце такой палітыкі ксяндзоў, царскі капіталістычна-коленіяльны рэжым у асобе іх атрымліваў для сябе верных і надзейных спаборнікаў, бо аднэй з падпор гэтага рэжыму была рэлігія і някультурнасьць насельніцтва. Размовы аб тым, нібыта ксяндзы ў свой час, асабліва пры царызьме, праводзілі ў літоўскіх вёсках культурную работу (распаўсюджваньне рэлігійнай літаратуры на роднай мове), ня маюць пад сабой ніякае падставы. Падобныя думкі інсьпіраваліся кулацка-клерыкальнымі пластамі вёскі ў мэтах узьняцьця аўторытэту каталіцкага духоўніцтва. Дзейнасьць яго была толькі рэакцыйнай. Прапаведваючы ідэю „брацкай згоды", выступаючы за адзіны нацыянальны фронт „усіх літоўцаў", ксяндзы лілі ваду на млын кулацка-заможнай верхавіны жыхарства колёній.

Тыя школы, якія ў некаторых вёсках нелегальна працавалі на ўтрыманьні самога насельніцтва, да і то ня з году ў год, а вельмі нерэгулярна, не маглі ні ў якай меры зрабіцца рассаднікамі культуры. Яны мелі рэлігійны кірунак: дзятва навучалася ў іх толькі малітвам і асновам каталіцкага катэхізму. Адзінай кнігай, якую можна было, прынамсі да рэволюцыі 1905 году і дапушчэньня забароненага пасьля паўстаньня 1863 г. літоўскага друку, спаткаць у хаце літоўца-селяніна быў маліцьвеньнік ці кантычка. Першая руская рэволюцыя прабіла некаторую прабоіну ў культурным быце літоўцаў. Погляд на існаваўшыя рускія школы, як на крыніцы праваслаўя і „схізмы", паступова зьмяняўся ў тым менавіта кірунку, што сяляне пачалі накіроўваць сваіх дзяцей у пачатковыя школы суседніх беларускіх вёсак, а то і аддавалі дзяцей у гарадзкія школы. Аднак, гэта было даступна толькі больш багатым сялянам, дзеці-ж асноўнай літоўскай сялянскай масы заставаліся без асьветы.

Самыя настойлівыя дамаганьні літоўцаў аб адчыненьні школ (яны дамагаліся адчыненьня ў гэты час хаця-б рускіх урадавых школ) ня мелі станоўчых вынікаў. І мясцовая паліцэйская ўлада і земскія „лібэралы" ў цесным саюзе з рускімі клерыкаламі дзейнічалі заадно, падаўляючы ў зародку, нават, самыя слабыя спробы нацыянальна-культурнага руху літоўскіх мас у Беларусі. Царская ўлада за ўвесь больш як трыццаціпяцігадовы пэрыод існаваньня вёсак нічога не зрабіла для задавальненьня культурных патрэб дзесяцітысячнага літоўскага насельніцтва. Царызм быў здольны толькі на тое, каб экономічна і моральна эксплёатаваць працоўныя масы, душыць іх, бязьлітасна падаўляць рэволюцыйныя выступленьні прыгнечаных народаў, а не разьвіваць сярод іх культуру. Ён распальваў нацыянальную

варожасьць, нацкоўваў адны нацыі на другія і такім чынам умацоўваў усю складаную сыстэму нацыянальна-колёніяльнага ўціску.

Нацыянальнае пытаньне ў царскай Расіі, як ва ўсякай іншай капіталістычнай краіне, не магло быць вырашана на карысьць шырокіх працоўных мас. Сама аснова буржуазнай дзяржаўнасьці базуецца на ваеннай сіле, зьдзеках, эксплёатацыі, прыгнечаньні больш слабых і палітычна і культурна адсталых нацыянальнасьцяў. „Справа ідзе аб тым,—піша тав. Сталін,—каб зьнішчыць тыя клясы, якія зьяўляюцца носьбітамі, творцамі і праваднікамі нацыянальнага ўціску. Такімі клясамі былі ў нас памешчыкі, капіталісты. Мы скінулі гэтыя клясы і тым самым зьнішчылі магчымасьць нацыянальнага ўціску. Іменна таму, што мы скінулі гэтыя клясы, у нас стала магчымай сапраўдная нацыянальная роўнасьць“ (Вопросы Ленинизма, 1931 г., стар. 347).

Соцыялістычная рэволюцыя з усёй сур‘ёзнасьцю, якую т. Ленін на працягу ўсёй сваёй рэволюцыйнай дзейнасьці надаваў нацыянальнаму пытаньню, дала правільную лінію для радыкальнага вырашэньня нацпытаньня. Комуністычная партыя разглядала нацпытаньне, як частку пытаньня агульна-клясавай барацьбы пролетарыяту за сваю дыктатуру, як пытаньне падначаленае інтарэсам пролетарскай рэволюцыі. „Кастрычнікаўская рэволюцыя адным ударам разарвала ланцугі нацыянальнага прыгнечаньня, перавярнула старыя адносіны паміж народамі, падарвала ранейшую нацыянальную варожасьць, расчысьціла глебу для супрацоўніцтва народаў і заваявала рускаму пролетарыяту давер‘е яго іншанацыянальных братоў ня толькі ў Расіі, але і ў Эўропе і Азіі... З другога боку бясспрэчна, што прыгнечаныя нацыянальнасьці ня здолелі-б дабіцца свайго вызваленьня без устанаўленьня ў цэнтры Расіі дыктатуры пролетарыяту...—Таму перамога саветаў і ўмацаваньні дыктатуры пролетарыяту зьяўляюцца тэй базай, тым фундамантам, на аснове якога можа быць пабудавана брацкае супрацоўніцтва народаў у адзіным дзяржаўным саюзе“ (З пастановы XII зьезду ЎсеКП(б) па нацпытаньню).

Соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР пачало разьвівацца некалькі пазьней, ніж у некаторых іншых рэспубліках і абласьцёх Саюзу. Пачатак „перадышкі“ для нас надышоў толькі ў 1921-22 гг., калі напружанымі намаганьнямі рабочая кляса, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і пры дапамозе ўсяго Савецкага саюзу, распачала аднаўленьне амаль ушчэнт разбуранай нямецкаю і белапольскаю окупацыямі і грамадзянскай вайной усяе народнае гаспадаркі.

Рад акалічнасьцяў адбіўся таксама і на спазьненьні ў БССР плянавай і сыстэматычнай работы сярод працоўных літоўцаў, як нацменшасьці. Толькі пасьля адміністрацыйнага ўзбуйненьня тэрыторыі БССР (1924 і 1926 гг.), калі ад РСФСР былі далучаны да Беларусі Віцебшчына, Магілеўшчына, Гомельшчына з компактнымі групамі літоўскага насельніцтва, гэтая работа была разгорнута належным чынам. Да 1926 г. літоўская нацыянальная работа прадстаўляла сабой амаль зусім незакранутым

ўчастак. З гэтага-ж часу быў зроблены рашучы пералом. Па лініі ЦК КП(б)Б, Нацкамісіі ЦВК, Наркамасьветы хутка былі праведзены патрэбныя арганізацыйныя мерапрыемствы, наладжаны апарат, вывучаны ўмовы работы, сабрана статыстыка, абсьледваны пасяленьні, занятыя літоўскім насельніцтвам. Усебакова разгорнутае гаспадарчае і культурнае будаўніцтва сярод літоўскае нацменшасьці дало магчымасьць ужо ў пачатку 1928 г. склікаць і правесьці Першы Ўсебеларускі літоўскі зьезд, на якім былі падагулены першыя вынікі практычнай работы.

Як бачым, была распачата зусім новая работа, з радам уласьцівых ёй асаблівасьцяў і цяжкасьцяў. Прайшло якіх-небудзь 5—6 год. І за гэты кароткі адрэзак часу праароблена надзвычайна многа, калі параўнаць з тым, што мелася раней, да рэвалюцыі.

Пераважная большасьць працоўных гаспадарак літоўскай вёскі колектывізавана. З канца 1928 г. у адным з буйнейшых літоўскіх паселішч, Малькове, Мсьціслаўскага раёну, існуе нацыянальны літоўскі сельсавет. Працуе 11 пачатковых нацыянальных школ, з якіх 3 школы двухкомплектавыя. Ёсьць адна літоўская сямігодка. Нацыянальнымі асьветнымі ўстановамі ахоплена да 98% дзяцей школьнага ўзросту. У большасьці літоўскіх вёсак ліквідавана няпісьменнасьць, распачата ліквідацыя малапісьменнасьці, праводзяць работу палітыка-асьветныя ўстановы—хаты-чытальні і чырвоныя куткі. Ёсьць пэрыодычная прэса на літоўскай мове. Нядрэнна наладжана выдавецкая справа. Рыхтуюцца настаўніцкія кадры. У Менску існуе група літоўскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Сярод іншых нацыянальных сэктароў Беларускай Акадэміі Навук працуе і Літоўскі сэктар. У Менску арганізаваны літоўскі рабочы клюб.

Сярод літоўскіх працоўных мас гораду і вёскі, уцягнутых у соцыялістычнае будаўніцтва, перамагаецца спадчына мінулага—культурная і палітычная адсталасьць, замкнутасьць, нацыянальная абмежаванасьць, якая доўгі час падтрымлівалася ксяндзоўскім невуцтвам і рэакцыйным каталіцкім клерыкалізмам.

Амаль ва ўсіх галінах літоўскай нацыянальнай работы ўжо закладзены больш-менш цьвёрды фундамант. Ёсьць яшчэ, зразумела, многа недахопаў, яшчэ больш работы стаіць наперадзе.

Вялізныя посьпехі ў справе нацыянальна-культурнага будаўніцтва літоўскіх працоўных мас былі магчымы толькі на аснове разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсёй БССР, у выніку правільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі.

Вялізную ролю ў нацыянална-культурнай рабоце сярод літоўцаў адыграў наш бальшавіцкі друк. Вось кароткі агляд разьвіцьця друку і выдавецкай справы на літоўскай мове ў БССР.

Да 1926 г. ў нас ня было газэты на літоўскай мове. Само сабой зразумела, як толькі пачала сыстэматычна праводзіцца нацыянальна-культурная работа сярод літоўцаў, пільная патрэба ў „колектыўным пропагандысьце і організатары", г. зн. у газэце паўстала зусім рэальна. Пэўны час у літоўскіх вёсках Савецкай

Беларусі распаўсюджвалася газэта з Літвы „Darbininkų Atstovas" („Дэпутат рабочых"), якая выдавалася там левымі рабочымі організацыямі. Але гэта ні ў якім разе не магло задаволіць патрэбы мець спэцыяльны орган на літоўскай мове, прыстасаваны да савецкіх умоў, да інтарэсаў савецкага рабочага і працоўнага селяніна. Пасьля фашысцкага перавароту ў Літве тамтэйшы левы рабочы друк, які заўсёды цкаваўся буржуазіяй, быў зусім забаронены.

ЦК КП(б)Б організавала выданьне ў Менску літоўскай газэты „Raudonasis Artojas" („Чырвоны Араты"). Гэтая газэта выдаецца бесьперабойна ўжо шосты год. Першы нумар газэты вышаў аднадзёнкай, прысьвечанай перавыбарам саветаў у пачатку 1927 году, другі нумар вышаў у сакавіку, а з 1 мая яна стала выходзіць рэгулярна два разы ў месяц. З 1929 г. газэта робіцца тыднёвым выданьнем, а з наступнага году яна ўжо выдаецца рэгулярна адзін раз у пяцідзёнку. Значна ўзросшы за апошнія гады палітычны і культурны ровень мас вымагае таго, каб газэта зрабілася штодзённым выданьнем. Газэта „R. A." вышла

| | | |
|---|---|---|
| ў 1927 годзе | . . . | 15 нумароў. |
| „ 1928 „ | . . . | 28 „ |
| „ 1929 „ | . . . | 50 „ |
| „ 1930 „ | . . . | 71 „ |
| „ 1931 „ | . . . | 60 „ |

„Raudonasis Artojas" зьяўляецца адзінай газэтай на літоўскай мове ў Савецкім саюзе, таму яе палітычнае і грамадзкае значэньне надзвычайна вялікае. У параўнаўча кароткі тэрмін свайго існаваньня газэта здолела пранікнуць у самыя глухія асяродзьдзі з літоўскім насельніцтвам, завербаваць немалую колькасьць чытачоў, сконцэнтраваць навакол сябе значныя культурныя сілы, організаваць рабселькораўскі рух. Газэта абслугоўвае рабочых, колгасьнікаў і працоўныя масы ня толькі БССР і СССР. Яна чытаецца і за мяжой рабочымі, якія цікавяцца гаспадарчым і культуным жыцьцём і дасягненьнямі краіны будуючагася соцыялізму.

Роля, якую газэта адыграла і адыгрывае ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, клясавай барацьбы, асабліва клясавай барацьбы ў літоўскай вёсцы, дзе гэтая барацьба праяўлялася і праяўляецца ня менш жорстка, чым, напрыклад, у беларускай, польскай, латыскай вёсцы, але з некаторымі спэцыфічнымі сваімі адценьнямі,—вялікая. Выкрываючы „адзіны нацыянальны фронт", за які шалёна агітавала літоўскае кулацтва, ксяндзы, клерыкалы, выкрываючы клясавыя карэньні рэлігіі і рэлігійнасьці мас, змагаючыся супроць антысавецкай, антыкомуністычнай дзейнасьці каталіцкай папоўшчыны і іншай зграі варожых нам элемэнтаў, газэта праводзіла адказьнейшую работу па палітычнаму выхаваньню літоўскіх рабочых, батрацтва і працоўных пластоў сялянства, мобілізуючы іх на будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Пытаньні інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, культурнай рэволюцыі, выкрыцьця кулацка-шовіністычных настрояў знаходзілі таксама месца на старонках газэты. Організаваўшы сетку ўлас-

ных рабочых і сельскіх корэспондэнтаў, газэта імкнецца забясьпечыць свой зьмест матар'яламі і корэспондэнцыямі, якія даюць сьвежыя і жывыя малюнкі і ілюстрацыі ўсяго нашага вялізарнейшага будаўніцтва рэконструкцыйнага пэрыоду.

Рост газэты бясспрэчны. У чэрвені месяцы бягучага году (як бачым, з даволі значным спазьненьнем) у Менску адбыўся Першы Ўсебеларускі Зьезд рабселькораў „R. A", на якім прысутнічалі і прадстаўнікі корэспондэнцкіх груп Ленінграду, Масквы, Харкаву. Зьезд, аднак, констатаваўшы значныя дасягненьні ў рабоце газэты, зьвярнуў увагу рэдакцыі на цэлы рад слабых бакоў работы, на многа недахопаў. Сетка рабселькораў далёка недастатковая, кіраўніцтва імі з боку газэты слабое. Брыгадны мэтод работы знаходзіцца, можна сказаць, яшчэ толькі ў зародку. Недахоп кадраў для літоўскай прэсы адчуваецца на кожным кроку. Гэтым часткова тлумачыцца слабасьць жывой сувязі і кіраўніцтва рабселькораўскім рухам з боку рэдакцыі „R. A". Гэта патрабуе сталай выхаваўчай работы сярод рабселькораў, прыцягненьня найбольш актыўных з іх непасрэдна да работы ў газэце.

Наглядалася слабое кіраўніцтва з боку газэты нізавым вясковым друкам. Цяпер амаль у кожным нацыянальным колгасе маюцца насьценгазэты. У раённых газэтах, якія пападаюць у літоўскія вёскі і колгасы, павінны быць спэцыяльныя старонкі на літоўскай мове. Аднак, рэдакцыя „R. A" да гэтага часу яшчэ не наладзіла патрэбнай жывой сувязі з літоўскім нізавым друкам, вельмі слаба кіруе ім, не пераключылася на работу „па-новаму". Брыгадны мэтод работы яшчэ не знайшоў адпаведнага адлюстраваньня, пераважае корэспондэнт-адзіночка.

Слаба пастаўлена і справа распаўсюджваньня газэты. У некаторых мясцох наглядаецца, нават, зьніжэньне лічбы падпісчыкаў і чытачоў. У Маскве і Ленінградзе, дзе налічваецца некалькі тысяч літоўскіх рабочых, газэта мае мізэрную лічбу падпішчыкаў—да 200.

Апрача ўсяго гэтага, не малых палепшаньняў патрабуе і самы зьмест газэты. Яна яшчэ належным чынам не прыстасавана да шырокіх сялянскіх мас, незаўсёды спраўляецца і нярэдка позьніцца з конкрэтным кіраўніцтвам у пытаньнях соцыялістычнай перабудовы літоўскай вёскі, часта зьмяшчае артыкулы вельмі агульнага характару. Работа па ўкараненьню ў гаспадарчае і нацыянальна-культурнае будаўніцтва сярод літоўскіх працоўных мас 6 ўмоў т. Сталіна разгорнута слаба.

Шырокую работу праводзіць і менская літоўская радыё-газэта, організаваная ў 1929 г. Апошні год газэта робіць перадачы рэгулярна два разы ў пяцідзёнку.

Забясьпечаньне працоўных мас нацменшасьцяў марксыцка-ленінскай навуковай, популярна-масавай, тэхнічна-гаспадарчай, мастацкай, пэдагогічнай літаратурай і школьнымі падручнікамі зьяўляецца аднэй з галоўных задач правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі. Ажыцяўленьне складанейшых задач культурнай рэволюцыі немагчыма без зразумелай для шырокіх мас кнігі, лістоўкі, брошуры, падручніку. Важнейшай умовай, якая забясьпечыла разгортваньне нацыянальна-культурнага будаў-

ніцтва літоўскіх працоўных мас, зьявілася організацыя ў БССР літоўскай выдавецкай справы.

Спачатку яна была сконцэнтравана (1929—31г.) ў беларускім філіяле Цэнтральнага выдавецтва народаў СССР, а затым перайшла ў Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, пры якім створаны літоўскі сэктар.

Друкаваньне кніг на літоўскай мове ў БССР распачалася толькі з 1927-28 гг. За чатыры гады выдана 38 назваў кніжнай продукцыі, да 150 друкаваных аркушоў.

Рост літоўскай кніжнай продукцыі выяўляецца з прыведзенай ніжэй табліцы:

| Гады | Род літаратуры | | | | | | | | | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Масавая | | Антырэлігійная | | Сельск.-гаспад. | | Мастацкая | | Школьных падручнік. | | | |
| | Назв. | Друк. арк. | Назв. | Друк. арк. | Назв. | Друк. арк. | Назв. | Друк. арк. | Назв. | Друк. арк. | Назв. | Друк. арк. |
| 1928 | 2 | 9,5 | 1 | 3,5 | — | — | 1 | 2 | — | — | 4 | 15 |
| 1929 | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 19 | 2 | 19 |
| 1930 | 3 | 7 | 2 | 2 | 1 | 0,5 | 2 | 2,5 | — | — | 8 | 12 |
| 1931 | 2 | 2,5 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 4,5 | 2 | 14 | 7 | 25 |
| на 1/X-1932 | 4 | 10,5 | 4 | 10,5 | 1 | 1,5 | 3 | 13,5 | 5 | 42,5 | 17 | 78,5 |
| | 11 | 29,5 | 8 | 19 | 3 | 3 | 7 | 22,5 | 9 | 75,5 | 38 | 149,5 |

Як бачым з табліцы, кніжная продукцыя на літоўскай мове, выданая на 1/X заключнага году пяцігодкі, па колькасьці аркушоў (78,5) узрасла ў параўнаньні з першым годам пяцігодкі (19) у чатыры разы. У 1929 г. мы мелі толькі дзьве назвы, з агульным тыражом у 3.000 экз., а ў 1932 г. вышла з друку ўжо 16 назваў, а тыраж дасягнуў 27.500 экз.

Прыведзеныя лічбы зьяўляюцца яскравым паказчыкам ня толькі звычайнага росту літоўскай выдавецкай справы ў БССР, яны паказваюць значны рост усяго зьместу кніжнай продукцыі і ў сэнсе аб'ёму пытаньняў, якія выданай літаратурай закранаюцца. Выдаецца літаратура па пытаньням політыкі, сельскай гаспадаркі, антырэлігійнай пропаганды; популярызуюцца пэдагогічна-выхаваўчыя пытаньні, друкуецца пролетарская мастацкая літаратура; нацыянальныя школы забясьпечваюцца патрэбнымі падручнікамі.

Рост кніжнай продукцыі і пашырэньне яе тэматыкі абумоўляецца ростам культурных, політычных і навуковых патрэб літоўскага працоўнага насельніцтва. Адначасна гэта сьведчыць і аб тым, наколькі ўзрасьлі культурныя запатрабаваньні літоўскага рабочага, колгасьніка, бедняка і серадняка селяніна ў параўнаньні з да-кастрычнікаўскім пэрыядам, калі ксяндзоўска-клерыкальная зграя падносіла працоўным толькі каталіцкі маліцьвеньнік, царкоўны

катахізіс, кантычку з рэлігійнымі гімнамі і іншую падобнай-жа якасьці „літаратуру“, якая атручвала клясавую сьвядомасьць прыгнечаных мас. Савецкая літоўская кніга павяла рашучае змаганьне з някультурнасьцю і адсталасьцю літоўскагага рабочага і працоўнага селяніна. Яна перарабляе яго ідэолёгію, і ўкараняе ў яго адзнаньні, атручаным дурманом рэлігіі, матар'ялістычны сьвятапогляд, узьнімае яго палітычную сьвядомасьць, зьяўляецца сродкам для інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня працоўнай моладзі ў духу марксызм-ленінізму.

Агульны тыраж літоўскай кніжнай продукцыі, выданай у БССР, характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | |
|---|---|
| у 1928 г. . . . . | 5.000 экз. |
| „ 1929 „ . . . . | 3.000 „ |
| „ 1930 „ . . . . | 22.000 „ |
| „ 1931 „ . . . . | 11.500 „ |
| „ 1932 „ . . . . | 27.500 „ |

Гэта, пераважна, перакладная літаратура з рускай і беларускай мовы. Але адносная вага орыгінальных твораў, дзякуючы росту культурных сіл, з кожным годам павялічваецца.

Рост культурных запатрабаваньняў літоўцаў, школьнае будаўніцтва, разгортваньне палітыка-выхаваўчай масавай работы патрабуюць значна большых тэмпаў у выдавецкай справе, павялічэньня колькасьці кніжнай продукцыі і асабліва паляпшэньня яе якасьці. Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 15/VIII-1931 г. завастрае ўвагу выдавецкіх устаноў на барацьбе за ідэолёгічную якасьць кнігі. Вырашэньне гэтай задачы залежыць ад падвышэньня кваліфікацыі аўтарскіх, і рэдакцыйных кадраў, ад мэтодычнай рэцэнзэнцкай і бібліографічнай работы. Але ня менш важнае значэньне мае прыцягненьне да ацэнкі кніжнай продукцыі шырокіх працоўных мас і пэрыодычнага друку. У практыцы літоўскай выдавецкай справы меліся выпадкі надрукаваньня і ідэолёгічна нядобраякасных выданьняў. Таму паказаньні партыі аб ідэолёгічнай пільнасьці павінны і тут мець важнейшае значэньне, тым больш, што кніжны рынак БССР абслугоўвае літоўскія працоўныя масы ўсяго Савецкага саюзу. Адначасна з гэтым павялічваюцца і агульныя задачы літоўскага сэктару БДВ. Па раду актуальных пытаньняў і проблем у нас няма ніводнай, нават популярнай кніжкі ці брошуры на літоўскай мове. Няма, напрыклад, ні популярызацыйнай ні ўласна-тэхнічнай літаратуры, нічога ня выдана па пытаньням соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны, росту нашых прамысловых гігантаў, слаба абстаіць справа ў літаратуры па практычнай агранаміі і, нарэшце, ня выдана ніводнага твору Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

---

Савецкая Беларусь падыходзіць да XV-й гадавіны Кастрычніка з вялізарнейшымі перамогамі на ўсіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва, шпарка ліквідуючы сваю экономічную і культурную адсталасьць. Рабочая кляса і працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяў БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б дабіліся гэтых посьпехаў у жорсткай барацьбе супроць контррэволюцыйнага трацкізму,

„лявацтва“, правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе. Посьпехі ў галіне нац.-культурнага будаўніцтва ёсьць вынік непрымірымай барацьбы супроць скажэньняў ленінскай нацыянальнай політыкі партыі, супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, які прадстаўляе сабой галоўную небясьпеку і „адбівае імкненьне аджыўшых кляс пануючай раней вялікарускай нацыі вярнуць сябе страчаныя прывілеі“ (Сталін), супроць контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, а таксама супроць шовінізму ўсіх іншых масьцей і адценьняў.

Беларусь зрабілася ў асноўным краінай суцэльнае пісьменнасьці. На агульным фоне разьвіцьця навучальных установ вырасла шырокая сетка нацыянальных школ: яўрэйскіх, рускіх, польскіх, украінскіх, латыскіх, літоўскіх і іншых. Будаўніцтва культур нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьместу ў другой пяцігодцы пойдзе яшчэ больш шпаркімі тэмпамі, чаму вернай гарантыяй зьяўляюцца паказаньні XVI зьезду партыі аб тым, што „разьвіцьцё нацыянальных культур павінна разгарнуцца з новай сілай з моманту ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня на роднай мове“.

---

Сымон Рак-Михайлоўскі

# Аб музэях БССР да XV гадавіны Кастрычніка

Да Кастрычнікаўскай рэволюцыі на тэрыторыі сучаснай Савецкай Беларусі музэяў, як навукова-дасьледчых установ, не існавала, ды і наогул ня было музэяў нават у ранейпрынятым значэньні гэтага слова. Праўда, у Менску існаваў клерыкальна-гістарычны „музэй“, які называўся царкоўна-археолёгічным і зрэдку наведваўся царкоўнікамі і царкоўнымі „братчыкамі“, ды ў палацах графа Паскевіча ў Гомелі быў кунсткамэрнага выгляду музэй, які прадстаўляў з сябе збор рэчаў, зрабаваных Паскевічам у часе войнаў у Закаўказьзі, а таксама з рэчаў фамільнае спадчыны ды розных падарункаў Паскевічу ад цара і яго саноўнікаў. Гэтая кунсткамэра была даступна для агляду толькі блізкім да Паскевіча прадстаўнікам расійскай арыстократыі, мясцовай буржуазіі—графскім гасьцём. У зародку існаваў гістарычна-археолёгічны „музэй“ у Магілеве, а ў Віцебску пачынаў разьвівацца музэй з гістарычным ухілам (Брадоўскага).

Але гэтымі музэямі ніхто ня цікавіўся; працоўныя масы—рабочыя і сяляне—не наведвалі іх, бо ня было там нічога навучальнага.

Наогул трэба адзначыць, што ў дарэволюцыйнай Беларусі зусім ня было музэяў, якія ставілі-б сваёй мэтай падняцьце культурнага роўню мас. І гэта зусім зразумела, бо такіх задач і не магла ставіць перад сабой пануючая тады кляса,—не ў яе інтарэсах было пашырэньне асьветы сярод працоўных. Царква, як тэатральнае відовішча для шырокіх мас, з мэтамі атуманьваньня іх байкамі і рэлгійным дурманом і адцягваньня ад барацьбы з эксплёататарамі; карчма, а пазьней царская монополька для павольнага фізычнага атручваньня; чайныя ў руках расійскай „чорнай сотні“, наладжваныя „Саюзам рускіх людзей“ і „Саюзам архангела Міхаіла“ ў організацыйна-пагромных мэтах, паліцэйскія ўчасткі—вось што вызначалася чорнай памяці царскім урадам і пануючай тады клясай як культасьветныя і выхаваўчыя ўстановы для шырокіх працоўных мас.

Кастрычнікаўская рэволюцыя, якая зьмяла буржуазію разам з усімі яе ўстановамі, дала магчымасьць стварэньня па БССР шырокай сеткі культ. і політасьветных установ. На сёнешні дзень БССР мае свой штаб навукі—Беларускую Акадэмію Навук і 48 навукова-дасьледчых інстытутаў і ўстаноў па розным галінам навукі і тэхнікі, мае 33 вышэйшыя навучальныя ўстановы, сотні

сярэдніх школ (тэхнікумаў), каля 6.000 ніжэйшых школ, шырокую сетку дамоў культуры—хат-чытальняў, бібліотэк, клюбаў, пяць дзяржаўных тэатраў і многа тэатраў рабочай і сялянскай моладзі. Канчаткова зьліквідавана няпісьменнасьць. І усё гэта сталася ў тэй царскай колёніі, дзе было да Кастрычніка 72% няпісьменных, дзе не існавала аніводнай вышэйшай навучальнай або навукова-дасьледчай установы.

Дзякуючы Кастрычніку разгарнулася шырока ў БССР і музэйная сетка. Сучасныя нашы савецкія музэі сталі навукова-дасьледчымі ўстановамі політасьветнага характару, заўсёды даступныя для шырокіх працоўных мас гораду і вёскі, для школьнікаў, вайсковых і г. д.

Вучыць наведвальніка пазнаваць мінулае ў антытэзе з сучасным, знаёміць яго з дасягненьнямі навукі і тэхнікі, выкрываць ролю рэлігіі і яе клясавую сутнасьць, разьвіваць марксысцкі сьветапогляд у наведвальніка — паказваць узьнікненьне, росквіт і заняпад усіх соцыяльна-гістарычных формацый, вытворчыя адносіны ў іх і эволюцію прылад вытворчасьці, клясавую барацьбу; паказваць і вучыць процэсам політэхніцаціі, знаёміць з сваім краем і яго прыроднымі багацьцямі ў мэтах соцбудаўніцтва, агітаваць сваёй экспозыцыяй і выхоўваць барацьбітоў, адданых справе пабудовы соцыялізму—вось сучасныя і асноўныя задачы нашых дзяржаўных і краязнаўчых музэяў. І з гэтымі задачамі названыя музэі спраўляюцца. Наведваньне музэяў расьце з году ў год. Даволі паказаць на тое, што адзін толькі Дзяржаўны Соцыяльна-гістарычны Музэй імя Луначарскага ў Гомелі меў ужо ў працягу 1931 году наведвальнікаў звыш 50.000 асоб.

Колькі ёсьць у нас, у БССР, працуючых цяпер музэяў?

Дзяржаўных соцыяльна-гістарычных музэяў налічваецца чатыры: у Менску, у Гомелі, Магілеве і Віцебску. Экспозыцыйныя об'екты гэтых музэяў прадстаўляюць сабой вялікае навуковае і матар'яльна-музэйнае багацьце, становячы значнае дасягненьне ў выяўленьні марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі музэйнага будаўніцтва, у аснову якога пакладзены мэтод дыялектычнага матар'ялізму і прынцып адзінага комплекснага музэю. Музэі гэтыя маюць усе даныя на тое, каб пашыраць і паглыбляць сваю работу.

У Менску, сталіцы БССР, апрача вышэйпамянёнага Соцыяльна-гістарычнага, маюцца наступныя музэі: 1) Дзяржаўны музэй Рэволюцыі; 2) Музэй політкатаржаніна пры Доме Комасьветы, 3) Музэй пры Доме Чырвонай арміі, 4) Музэй аховы і аздараўленьня працы, 5) Цэнтральны дом тэхнікі, 6) Політэхнічны музэй пры цэнтральнай школьнай станцыі; 7) Сталая будаўнічая выстаўка, 8) Музэй санітарнай асьветы, 9) Музэй судовай мэдыцыны, 10) Зоолёгічны музэй пры Беларускай Акадэміі Навук. Апрача таго, запроектаваны ў Менску асобны Мастацкі музэй і Цэнтральны антырэлігійны музэй.

Самыя назвы вышэйпералічаных і працуючых цяпер у Менску музэяў паказваюць зьмест і кірунак іх работы.

Пры Соцыяльна-гістарычным музэі ў Менску існавалі да апошняга часу аддзелы—мастацкі, як асобная мастацкая галярэя, антырэлігійны. Гэтыя аддзелы настолькі разрасьліся, што

знойдзена патрэбным (згодна пастановы конфэрэнцыі музэйных працаўнікоў БССР у лютым 1932 г. і зацьверджанай НКАсьветы)—адчыніць у Менску асобны Мастацкі музэй і асобны Цэнтральны антэрылігіiны музэй, якія ўжо знаходзяцца ў стадыі організацыі і ўводзяцца ў плян музэйнага будаўніцтва.

Што датычыцца раённых краязнаўчых музэяў, то на 1933 год намечана патроіць існуючую іх колькасьць.

Пад кіраўніцтвам Беларускага Цэнтральным бюро кваязнаўства (пры Беларускай Акадэміі Навук) працуюць на сёнешні дзень, гуртуючы каля сябе ў краязнаўчай рабоце рабочых, сялян і працоўную інтэлігенцыю, краязнаўчыя музэі ў наступных гарадох—раённых цэнтрах: 1) Бабруйск, 2) Полацак, 3) Тураў, 4) Ворша, 5) Нароўля, 6) Мозыр, 7) Слуцак і прыступлена да організацыі краязнаўчых музэяў у Ўваравічах, 13) Амсьціслаў і 14) Чэрвені, Рэчыцы, Рагачэве, у Гарадку, Койданаве і іншых раёнах.

Рэконструкцыйны пэрыод характырызуецца ў БССР, як і ўва ўсім СССР, разьвіцьцём тэхнікі. „Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“ (Сталін). Лёзунг сёнешняга дня—„Тэхніку ў масы“—знайшоў сваё ажыцьцяўленьне ня толькі ў пропагандзе тэхнікі праз наркаматы цяжкой і лёгкай прамысловасьці, але на БССР, згодна пастаноў партыйных органаў аб політэхнізацыі школы. Народным Камісарыятам Асьветы—апрача існуючых рознага тыпу майстэрняў пры пачатковых школах—намечаны і ў сучасны момант знаходзяцца ў стадыі організацыі політэхнічныя музэі ў наступных раёнах БССР: 1) Крычаў (на цэмантавым заводзе); 2) Барысаў (Леспрамгас); 3) Віцебск (завод „Чырвоны Мэталёвец“), 4) Ворша (Бел.Дзярж. электр. станцыя), 5) Менск (пры заводзе імя Варашылава), 6) Гомель (завод імя Ланцуцкага), 7) Ворша (льнопрадзільны комбінат), 8) Дуброўна (пры „Дубровенскай мануфактуры“), 9) Добруш (пры папяровай фабрыцы), 10) Шклоў (папяровая фабрыка), 11) Рэчыца (запалкавая фабрыка), 12) Клімавічы (сілікатны завод), 13) Дзяржынск-Койданава (пры Маш.-тракт. станцыі), 14) Полацак (керамічны завод), 15) Амсьцілаў (льнопрадзільны завод), 16) Магілеў (пры шоўкавай фабрыцы), 17) у саўгасе імя 10-годзьдзя Савецкай Беларусі, 18) Боркавічы (льнозавод), 19) Чэрвень (у саўгасе), 20) Амсьціслаў (саўгас), 21) Тураў (саўгас), 22) Мозыр (саўгас), 23) Гарадок (саўгас), 24) Лёзна (колгас), 25) Слуцак (колгас), 26) Жыткавічы (колгас) і 27) Дрыса (колгас).

Вось у якім кірунку ідзе рост музэяў БССР.

Затрымаемся цяпер коратка на гісторыі і рабоце аднаго з большых музэяў БССР—на Беларускім Дзяржаўным Соцыяльна-гістарычным музэі ў Менску, бо гісторыя яго амаль цалкам аналёгічна з іншымі музэямі БССР.

Менскі музэй заснаваны быў пад першапачатковай назвай Менскага абласнога музэю 20/I-1919 г.; работа яго зводзілася галоўным чынам да зьбіраньня розных об'ектаў як мастацкага і этнографічнага, так гістарычнага і археолёгічнага характару. У часе захопу Менску белапалякамі значная частка каштоўных экспонатаў была зрабавана і вывезена окупантамі.

Разгортваючы сваю работу і ў далейшым накапляючы музэйныя рэчы і экспонуючы іх у напоўкунсткамэрным выглядзе, музэй набывае ў 1923 г. назву Культурна-гістарычнага і мае ў сабе аддзелы: археолёгічны, царкоўна-гістарычны, нумізматычны, этнографічны, а далей дадаецца і мастацкі. Музэй у гэты час набывае ўжо значэньне шырокай культасьветнай установы.

У такім выглядзе Музэй некалькі гадоў быў пад кіраўніцтвам засеўшых у музэі беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў, якія аж да 1929-30 г. намагаліся праводзіць праз музэйную экспозыцыю пропаганду ідэі бясклясавасьці беларускай нацыі, самабытнасьці беларускага народу, нацыянальнай абмежаванасьці, агітавалі за хутарызацыю БССР і зусім ігнаравалі патрэбу адлюстраваньня ў музэйнай экспозыцыі посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва БССР.

Рабочая кляса і шырокая савецкая грамадзкасьць, разграміўшы пад кіраўніцтвам КП(б)Б беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм на ўсіх франтох, дала магчымасьць новаму колектыву працаўнікоў Дзяржаўнага музэю паставіць работу на правільны шлях і прыняць актыўны ўдзел у культурнай рэволюцыі. Зьліквідаваны былі шкодныя ўстаноўкі нацдэмократаў. Музэй пачаў набываць новы выгляд, рэорганізаваўшы ранейшую экспозыцыю і адчыніўшы па-новаму аддзелы: археолёгічны, гісторыка-бытавы, гістарычны, мастацкія, яўрэйскі, антырэлігійны і сэктар соцбудаўніцтва. Апошні аддзел (соц. сэктар) асабліва хутка разрастаўся, прыцягваючы да сябе вялікую колькасьць наведвальнікаў.

Маючы ў сваім распараджэньні да 60.000 накопленых экспонатаў, новае кіраўніцтва музэю старалася ўзбагачаць і асьвяжаць экспозыцыю розных аддзелаў новымі об'ектамі, а таксама і з сваіх запасных фондаў, праводзячы над імі паглыбленую навукова-дасьледчую работу.

Так стаяла справа амаль да канца 1931 году. Існаваньне гэтых паасобных (хоць, праўда, і цікавых па выстаўленым экспонатам) аддзелаў, але без узаемнай і цеснай сувязі паміж імі, не магло спрыяць формаваньню ў наведвальніка разуменьня разьвіцьця грамадзкіх форм і процэсаў; сваёй структурай і экспозыцыяй Музэй не ўскрываў перад савецкай грамадзкасьцю дыялектыкі процэсу разьвіцьця грамады і клясавай барацьбы.

У такім выглядзе музэй ня мог адпавядаць тым запатрабаваньням, якія ставіла і ставіць перад музэямі шырокая савецкая грамадзкасьць у правядзеньні генэральнай лініі партыі, у выяўленьні гістарычных клясавых задач пролетарыяту і пабудове соцыялістычнага грамадзтва. Ён ня мог поўнасьцю быць тым вагаром, які спрыяў-бы мобілізацыі працоўных мас на барацьбу з адміраючымі формацыямі.

У пачатку 1932 году адбылася ў Менску Ўсебеларуская конфэрэнцыя музэйных працаўнікоў, якая—сьледам за адбыўшымся раней у Маскве ўсесаюзным Зьездам—распрацавала конкрэтныя мерапрыемствы па ажыцьцяўлнньню марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі ў музэйным будаўніцтве і па адпаведнай рэорганізацыі музэяў БССР.

З гэтага часу Музэй пачынае новую эру свайго існаваньня, прыступіўшы адразу-ж да рэорганізацыі музэйнай экспозыцыі па комплекснаму прынцыпу, на падставе мэтоду дыялектычнага матар'ялізму.

У сучасны момант у Беларускім Дзяржаўным Социяльна-гістарычным музэі ў Менску замест ранейшых паасобных аддзелаў дакладна распрацаваны і шырока адлюстраваны ў музэйнай экспозыцыі чатыры асноўныя социяльна-гістарычныя формацыі: 1) Першабытна-комуністычная грамада, 2) Фэўдалізм на Беларусі, 3) Капіталізм на Беларусі і 4) Соцыялістычнае будаўніцтва. Адначасна з гэтым разгорнута, хоць і пры слабым бюджэце, работа па організацыі політэхнічнага аддзелу.

Праз узьнікненьне, росквіт і заняпад кожнай формацыі чырвонай ніткай праходзіць у музэйнай экспозыцыі клясавая барацьба, ускрываюцца социяльныя карэньні і клясавая сутнасьць рэлігіі, з усёй яе шкоднасьцю для працоўных мас ды на мастацкіх об'ектах высьвятляецца сутнасьць мастацтва, як аднае з ідэолёгічных „надбудовак" грамадзтва—на ўсіх ступенях яго разьвіцьця.

Эволюцыя тэхнікі, процэсы політэхнізацыі, прылады вытворчасьці і адлюстраваньне вытворчых адносін складаюць асноўную частку ў экспозыцыі кожнай формацыі.

Найбольш маляўніча прадстаўлена ў музэі формацыя—соцыялістычнае будаўніцтва. Праз адлюстраваньне ў музэйнай экспозыцыі Кастрычнікаўскае рэволюцыі пераходзім да грамадзянскай вайны з яе разбурэньнем народнай гаспадаркі ўсяго Саюзу і БССР. Шырока паказаны аднаўленчы пэрыод і—далей—рэконструкцыйны пэрыод з пяцігадовым плянам па БССР. Індустрыялізацыя краіны, электрыфікацыя БССР, соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі паказаны ў выглядзе прыгожых макетаў, модэляў, вырабаў, дыяграм і інш.; адлюстраваны яскрава дасягненьні ленінскай нацыянальнай політыкі. Ад усяе экспозыцыі гэтай формацыі вее радасьцю, бадзёрасьцю. Канчаецца экспозыцыя соц. будаўніцтва дыяграмамі плянамі на другую пяцігодку—пяцігодку стварэньня бясклясавага грамадзтва.

Разам з гэтым, музэем разгорнута значная масавая работа па-за музэем шляхам організацыі выставак-перасовак, прысьвечаных гаспадарча-політычным кампаніям, рэволюцыйным сьвятам і інш. Стацыянарнымі выстаўкамі і выстаўкамі-перасоўкамі музэй абслугоўвае прадпрыемствы, колгасы.

Музэй пашырае работу па сталай сувязі з прадпрыемствамі і колгасамі БССР, дасягненьнямі якіх папаўняецца экспозыцыя формацыі соцыялістычнае будаўніцтва.

Паданыя тут вышэй мэтавыя ўстаноўкамі Беларускага Дзяржаўнага Соцыяльна-гістарычнага музэю ў Менску вельмі добра ацаніла шырокая савецкая грамадзкасьць, што выяўляецца у масавым наведваньні Музэю. Лічба наведвальнікаў Музэю стала павялічваецца. Школы больш цесна наблізіліся да Музэю і ў значнай большасьці сваёй праходзяць курс гісторыі грамадазнаўства, як гісторыю клясавай барацьбы, на музэйным матар'яле, у залях Музэю. Такім чынам, наглядаецца набліжэньне Музэю да тыпу музэяў—школьных лябораторый.

У наступным годзе пры наяўнасьці рэалізацыі больш значных фінансавых магчымасьцяў ды—асабліва—пры перанясеньні Музэю ў яго ранейшае, больш прасторнае, памяшканьне (Чырвонаармейская, 3) Музэй—гэта можна сьмела сказаць—зробіцца буйной школай перавыхаваньня шырокіх мас наведвальнікаў, скіроўваючы іх і актывізуючы іх волю на барацьбу за справу пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, за справу пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва.

---

**В. К. Шчарбакоў**

# Савецкае Палесьсе [1])

## Сыравінныя рэсурсы і глебы ў Палесьсі

Савецкі Саюз разам з сусьветным пролетарыятам адсьвяткавалі XV-годзьдзе вялікай Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Праз 2 месяцы мы будзем мець другую вялізарнай важнасьці гістарычную падзею: заканчэньне першага пяцігадовага пляну социялістычнага будаўніцтва і ўступленьне СССР у другую пяцігодку.

Вялізарная работа праведзена пролетарыятам нашай краіны пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і пры актыўным удзеле працоўных мас сялянства ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва. Прамысловасьць у корані зьмяніла свой твар, стала па якасьці другой, у сельскай гаспадарцы пераважаючае значэньне атрымалі формы соцыялістычнай гаспадаркі. За пэрыод першай пяцігодкі праведзена вялікая работа па адшуканьню новых сыравінных рэсурсаў і скарыстоўваньню іх ў соцыялістычным будаўніцтве.

Уся наша партыя, савецкія і плянава-гаспадарчыя організацыі, навука і навуковыя ўстановы вядуць у сувязі з заканчэньнем першай пяцігодкі вялізарную работу па падрыхтоўцы да другой пяцігодкі. Савецкая навука мобілізуе свае сілы і актыўна ўдзельнічае ў разработцы плянаў другой пяцігодкі.

Заканчваючы першую пяцігодку, мы павінны паказаць усім працоўным масам ня толькі Савецкага Саюзу, але і ўсяго сьвету, якія цудоўна складаныя задачы можа разьвязваць пролетарыят у ўмовах існаваньня дыктатуры пролетарыяту, ажыцьцяўляючы генэральную лінію ленінскай партыі. Разам з гэтым мы павінны будзем к канцу гэтай пяцігодкі мець ужо разработаны плян новай другой пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва ня толькі ў маштабе Савецкага Саюзу, асобных савецкіх рэспублік і вобласьцяў, але і ў маштабе кожнага з існуючых раёнаў. Працоўным масам трэба конкрэтна будзе паказаць, што іх чакае ў новай пяцігодцы, якія работы і якія для выкананьня гэтых работ маюцца ў распараджэньні дыктатуры пролетарыяту сілы і матар'яльныя рэсурсы.

Палеская экспэдыцыя, праводзячы свае работы, ставіла перад сабою дзьве асноўныя задачы: вывучыць і паказаць дасягненьні савецкага Палесься ў галіне прамысловасьці, сельскае гаспадаркі і культурнага будаўніцтва, а па-другое, на аснове дасьледваньня

[1]) Пачатак гл. „Савецкая краіна“ № 9—1932 г.

ўсіх прыродных багацьцяў Палесься, вывучыць наяўныя там рэсурсы і практыку социялістычнага будаўніцтва, дапамагчы адпаведным цэнтральным установам і раённым організацыям ў разработцы новай пяцігодкі для раёнаў Палесься. Вывучэньне пагэтаму сыравінных рэсурсаў, становішча прамысловасьці і колектывізацыі сельскае гаспадаркі стаяла ў цэнтры ўвагі экспэдыцыі. Экспэдыцыя правяла вялікую работу ў гэтай галіне. Яе матар'ялы і тыя вывады, якія будуць зроблены з гэтых матар'ялаў, дадуць надзвычайна многа як для разработкі другой пяцігодкі, так і для монографічнага апісаньня тых раёнаў, у якіх праводзілася работа экспэдыцыі. І ўжо зараз матар'ялы экспэдыцыі скарыстоўваюцца і служаць ў вядомай меры асновай для разработкі другой пяцігодкі Дзяржплянам БССР па трэцяму экономічнаму падраёну.

Якая-ж конкрэтная работа праведзена экспэдыцыяй у галіне вывучэньня сыравінных рэсурсаў, прамысловасьці і колектывізацыі ў Палесьсі і якія папярэднія даныя мы маем аб гэтых галінах? Як вядома, пытаньню вывучэньня сыравінных рэсурсаў краіны, карысных выкапняў ў ёй, прыродных багацьцяў ня толькі рэспублікі, але і кожнага раёну аддаецца цяпер вялікая ўвага. Інакш і ня можна. Без падвядзеньня сыравіннай базы пад нашу прамысловасьць ня можна сур'ёзна займацца яе разьвіцьцём. Трэба максымальна скарыстоўваць ўсе нашы нутраныя рэсурсы для таго, каб справу социялістычнага будаўніцтва рухаць яшчэ больш хуткімі тэмпамі. Для гэтага трэба ведаць гэтыя рэсурсы, трэба ведаць нашы багацьці, трэба ведаць, чым мы ўладаем, на чым можам базавацца. Ня можна зачыняць вочы на тое, што мы яшчэ вельмі і вельмі мала зрабілі ў галіне вывучэньня прыродных багацьцяў нашай краіны параўнальна з тым, чым мы ўладаем ў гэтай галіне. Ад гэтага ня мала церпіць наша краіна, масы працоўных. Ня ведаючы гэтых багацьцяў мы, натуральна, і не скарыстоўваем іх.

Сыравінныя багацьці беларускага савецкага Палесься маюць для ўсёй нашай краіны немалаважнае значэньне. На жаль, аб іх мы да самага апошняга часу маем вельмі няясныя, расплыўчатыя ўяўленьні. Што нам вядома было аб гэтых рэсурсах? Калі ўзяць усе крыніцы, усе даныя нашых гаспадарчых, плянавых і навуковых установ аб карысных выкапнях, хаця-б тых чатырох раёнаў, у якіх экспэдыцыя праводзіла свае работы, дык мы атрымаем вельмі бедныя весткі і далёка неадпавядаючыя тым багацьцям, якімі ў сапраўднасьці ўладаюць гэтыя раёны. Вось ссумаваныя даныя аб карысных выкапнях усіх гэтых установ у паказаных вышэй раёнах[1]: розныя галіны паказаны толькі ў двух мясцох— у мясьцінах Таўкач, Бураўскага с/с, Лельчыцкага раёну і ў Крупках Пятрыкоўскага раёну; жалезныя руды адзначаны ў 9 мясцох— адно ў Жыткавіцкім раёне, 5 у Лельчыцкім і 3 у Пятрыкоўскім раёне; торф паказаны ў адным месцы ў Ляскавічах, Пятрыкоўскага раёну; граніты ў 2 мясцох Лельчыцкага раёну. Гэтыя даныя

[1] Бярэм іх з інстытуту экономікі БАН.

проста нязначныя параўнальна з тым, што маецца ў гэтых чатырох раёнах. Узяць хаця-б Тураўскі раён. У гэтым раёне ёсьць белая гліна, каля в. Буразі ў кірунку Верасьніцы, торф у раёне Хачэня, Багушоў, Азяранскім лясьніцтве, вапна каля Турава, у Слабадзе, Азяранах, Перарове, Хацені, Хільчыцах, Любавічах, Бухчэ; пяскі-барханы ў Танежах, Рудні, Хіньчыцах, Дан. Млынку; жалезныя руды—у Бухчэ, Рудні, Перарове, Клупіне, Чэрнічах; будаўнічы камень у Бугчанскім і Дзяржынскім с/с [1]. Ніякіх даных аб гэтых карысных выкапнях мы ў нашых установах ня маем. Экспэдыцыя правяла дасьледваньне гэтых багацьцяў у Тураўскім раёне. Што выявілася? З аднаго боку, як гэта высьветлілася, мясцовыя організацыі іншы раз пераўвялічваюць даныя аб сваіх прыродных багацьцях, але з другога боку, яны ўсё-ж уладаюць і многімі больш-менш дакладнымі данымі аб гэтых багацьцях. У Тураўскім, напрыклад, раёне ўстаноўлена наяўнасьць тарфяных балот і пакладаў торфу, у раёне Букча маецца добры цэмантны камень, маюцца граніты ў паўднёвай частцы раёну. Прычым запасы яго, паводле папярэдніх даных, даволі вялікія. У Азяранах знойдзены вялікія запасы гліны, у поўнай меры годныя і дастатковыя для пабудовы цагельнага заводу. У радзе месц, асабліва па Пятрыкоўскаму раёну, знойдзена жалезная руда. Тут трэба адзначыць асабліва важнае месцазнаходжаньне яе—гэта каля Макаравіч, Петрыкаўскага раёну. На даволі вялікай плошчы (да 20 га) маюцца паклады ў выглядзе цэлага пласту жалезнай руды. Сяляне пры апрацоўцы поля выворваюць цэлыя камлыгі яе, скідваюць у раўчакі на межах, а часта скарыстоўваюць як матар'ял для фундаментаў пры пабудовах дамоў. Яшчэ да вайны тут працавала група інжынэраў над пытаньнем скарыстаньня гэтай руды. Паводле апавяданьняў саміх сялян, яны проектавалі пабудаваць у Макарычах завод па апрацоўцы руды. Вялікі інтарэс выявілі да яе і немцы ў часы окупацыі імі Палесься. Асаблівасьцю гэтага месцазнаходжаньня жалезнай руды зьяўляецца тое, што тут яна знаходзіцца ў концэнтраваных масах. Умовы заляганьня пласта вельмі спрыяючыя. Плошча з рудой знаходзіцца блізка (1-2 км ад Прыпяці). Паводле папярэдніх вылічэньняў запасы яе толькі ў гэтым месцы выражаюцца ў 20—30 тыс. тон. Жалезная руда знойдзена апрача таго і ў іншых мясцох—каля Сьнядзіна, Сярэдняй Рудні, Боклань. Амаль ва ўсіх гэтых мясцох існавалі ў далёкім мінулым рудні (рудоплавильные заводы). У радзе месц Пятрыкоўскага і Тураўскага раёну знойдзены рознага роду гліны—мэргель (белая гліна), каля Сьнядзіна, Турава, плястычныя гліны каля Пятрыкова і ў іншых мясцох. Паміж Ляскавічамі і Дарашэвічамі, Пятрыкоўскага раёну маюцца паклады торфу даволі высокае якасьці.

Усё гэта толька сумарныя даныя аб тых карысных выкапнях, якія знойдзены экспэдыцыяй, але і яны гавораць аб многім.

Экспэдыцыя ў асобе аднаго з спэцыялістаў займалася і вывучэньнем глеб Палесься. Маршрутамі глебаведа абхоплены ўсе

[1] Аб усіх гэтых карысных выкапнях папярэдне паведамлялі экспэдыцыю мясцовыя Тураўскія організацыі.

4 раёны. Сабраныя даныя і тыя аналізы, якія будуць праведзены над узорамі глеб, дадуць магчымасьць характарызаваць глебу ня толькі палявых, але і лясных угодзьдзяў. Будзе дана глебавая карта па лясным масывам чатырох паказаных раёнаў. У выніках канчатковай разработкі матар'ялаў мы будзем мець магчымасьць унесьці корэктывы ў накіраваньне гаспадарчага скарыстоўваньня зямельных участкаў. Праведзена работа па азнаямленьню з тарфянікамі ў сэнсе магутнасьці тарфяных пакладаў і іх скарыстаньне. Матар'ялы экспэдыцыі маюць ў сабе даныя і адносна асушкі балот.

Раней чым перайсьці да пытаньня аб прамысловасьці і колектывізацыі ў Палесьсі, нам хацелася-б зачапіць яшчэ два пытаньні—гэта, па-першае, аб ягадных рэсурсах Палесься, а па-другое, аб ролі мясцовых організацый і працоўных мас ў вывучэньні сыравінных рэсурсаў нашай краіны. Нам прыходзіцца яшчэ раз падкрэсьліць тут наяўнасьць вялізарных ягадных багацьцяў у Палесьсі. Вялікія, надзвычайна вялікія запасы маліны, чарніцы, брусніцы маюцца ў Палесьсі. Не ў адным, а ў дзесятках месц нам даводзілася наглядаць вялізарныя плошчы, пакрытыя гэтымі ягадамі. І, трэба сказаць, што вельмі нязначная доля ягад скарыстоўваецца тут насельніцтвам. Рэшта тут з году ў год гіне. Нам сур'ёзна трэба падумаць аб мэтазгодным скарыстоўваньні ягад. Трэба організаваць тут ягадныя і грыбныя гаспадаркі.

Што датычыць другога пытаньня—аб ролі мясцовых організацый і працоўных у вывучэньні сыравінных рэсурсаў, дык тут трэба толькі падкрэсьліць тую акалічнасьць, што мы яшчэ не скарыстоўваем тых даных аб карысных выкапнях, аб прыродных багацьцях на мясцох, якімі ўладаюць масы і мясцовыя работнікі. А між тым праз іх можна папярэдне атрымаць вельмі каштоўныя матар'ялы аб глінах, жалезнай рудзе, торфе, будаўнічых матар'ялах і г. д. Мясцовыя работнікі і сяляне ведаюць аб гэтых запасах і з ахвотаю аб іх паведамляюць. На скарыстаньне гэтых ведаў трэба зьвярнуць увагу.

## Прамысловасьць і колектывізацыя сельскай гаспадаркі

З папярэдняга мы можам зрабіць заключэньне, што наяўныя ў Палесьсі сыравінныя рэсурсы далёка яшчэ не выкарыстоўваюцца нашай прамысловасьцю; безадкладна трэба падумаць, як максымальна скарыстоўваць гэтыя рэсурсы. У прыватнасьці пытаньню аб рудзе, скарыстоўваньні яе мы павінны аддаць належную ўвагу. Задача цяпер заключаецца ня толькі ў тым, каб паскорыць тэмпы нашага дасьледваньня запасаў і якасьці жалезнай руды ў Беларусі і ў прыватнасьці ў Палесьсі, але і ў тым, што ўжо цяпер, на падставе здабытых даных, можна і трэба ставіць пытаньне аб практычнай рабоце па эксплёатацыі яе. Даных аб рудзе ў Палесьсі ўжо і цяпер настолькі многа, што можна ўжо ставіць пытаньне ў кірунку практычнага яго выра-

шэньня, гэта значыць, трэба думаць аб пабудове завода па апрацоўцы жалезнай руды.

Зусім ясна, што ў якім-небудзь адным месцы мы ня маем настолькі вялікіх запасаў руды, каб можна было пры пабудове заводу орыентавацца на гэтую адну мясцовасьць. Не, як відаць, пытаньне будзе вырашана ў той роўніцы, што, скажам, на ўвесь трэці экономічны падраён (Палескі) будзе пабудаваны адзін завод для апрацоўкі руды, з тым, каб з усяго гэтага раёну звозіць руду на гэты завод. Шляхі зносін, у прыватнасьці водныя, настолькі спрыяючыя, што ў экономічных адносінах такая пабу-



Фанэрны завод у Жыткавіцкім раёне.

дова будзе ў поўнай меры мэтазгодна. Для аднаго заводу мы на аснове ўжо наяўных даных будзем мець здавальняючы запас руды.

Мясцовыя організацыі пытаньне аб рудзе яшчэ не паставілі ў кірунку яго практычнага вырашэньня. Жалезная руда не эксплёатуецца яшчэ гэтымі організацыямі. Прамысловых прадпрыемстваў, нават элемэнтарнага тыпу, мы там пакуль што ня маем. Не скарыстоўваецца пакуль што прамысловасьцю Палесься, ня гледзячы на яе вялізарны рост за час існаваньня там савецкай улады, поўнасьцю і другі від сыравінных рэсурсаў—рознага роду гліны. Праўда, мы маем вялізарныя дасягненьні ў галіне будаўніцтва цагляных заводаў у Палесьсі: у Тураўскім, напрыклад, раёне мы маем 7 цагляных заводаў, у Пятрыкоўскім—5. Сярод іх нядаўна пабудаваны, магутны, добра абсталяваны тэхнічна цагляны завод у Пятрыкове; у Жыткавіцкім раёне маюцца таксама 3 цагляных заводы. Усе гэтыя заводы даюць у год вялізарную коль-

касьць цэглы. Нічога падобнага мы ня мелі ў дарэволюцыйны час. І ўсё-ж у галіне эксплёатацыі гэтага багацьця (гліны) мы яшчэ далёка ня робім таго, што павінны рабіць. Па-першае— мы маем рад дробных цагляных заводаў (Тураўшчына), далёка нерэнтабельных. Іх трэба аб'яднаць у больш буйныя заводы, пабудаваць іх у мясцовасьцях з дастатковым запасам высокаякаснай гліны. Па-другое, ня ўсе віды гліны скарыстоўваюцца так, як гэта патрэбна. Ёсьць у Палесьсі плястычныя гліны, яны пакуль што не скарыстоўваюцца. Можна было-б гаварыць і аб іншых відах сыравіны і іх скарыстаньні. Але справа ня толькі ў гэтым.

Будаўніцтва прамысловасьці ў Палесьсі працякае часта напоўстыхійна, без адпаведнага абасноўваньня, бяз учоту як умоў прыродных, так і запасаў сыравіны. Адсюль цэлы рад недахопаў у гэтай галіне. Кіраўнік экономічнай брыгады экспэдыцыі т. Маргелаў піша з гэтага повады наступнае: „Ужо цяпер можна сказаць, што прамысловасьць у гэтых раёнах разьвіваецца без адпаведнага кіраўніцтва і планаваньня з цэнтру, што яна ня выразна ў сваёй спэцыялізацыі і рязьмяшчэньні, што яна будавалася бяз уліку комбінацыйных прынцыпаў у адпаведных галінах і, нарэшце, далёка не выкарыстоўвае мясцовых рэсурсаў“.

Ня гледзячы на рад недахопаў у будаўніцтве прамысловасьці ў Палесьсі мы маем там вялізныя дасягненьні ў гэтай галіне. Рост прамысловасьці ў параўнаньні з даваеннымі часамі мы маем вялізарны. Вось некаторыя даныя аб гэтым росьце. Перад вайной мы мелі на тэрыторыі сучасных чатырох раёнаў вывучаных экспэдыцыяй—Пятрыкоўскага, Тураўскага, Жыткавіцкага і Лельчыцкага—наступныя прадпрыемствы: па Пятрыкоўскаму раёну было

10 бровараў з 69 рабочымі
3 паравых млыны з 35 рабочымі
4 лесапілкі з 76 рабочымі
1 лісапільна-бачарны завод з 47 рабочымі
1 лесапільна-фанэрная фабрыка ў Капцэвічах з 230 раб.

Усяго на тэрыторыі гэтага раёну было занята ў прамысловасьці 472 рабочых.

Па Жыткавіцкаму раёну мы мелі перад вайной: 3 лесапільных заводаў, 5 мукамолен, 1 бровар. Зараз там налічваецца 20 прадпрыемстваў.

У Тураўскім і Лельчыцкім раёне мы ня мелі ніякіх прамысловых прадпрыемстваў, калі ня лічыць вадзяных млыноў.

Цяпер мы маем зусім іншае становішча. У Тураўскім раёне, дзе да рэволюцыі ня было зусім прадпрыемстваў, цяпер маем 1 дрэваапрацоўчы завод, комбінат, мэблевую фабрыку, сьпіртусапатачны завод, 2 смалакурна-шкіпідарных заводы, 7 цагляных заводаў, адзін дзяхцярны завод. На гэтых прадпрыемствах працуе больш як 200 сталых рабочых. Праўда, усе гэтыя прадпрыемствы невялікія, але тое, што яны пабудаваны і работаюць, зьяўляецца вялізарным дасягненьнем Тураўшчыны.

У Лельчыцкім раёне маецца да 30 прадпрыемстваў, праўда, дробных, на якіх працуе больш за 300 рабочых. У Пятрыкоўскім

раёне асабліва вялікія дасягненьні мы маем у галіне прамысловасьці. Там ужо ў 1931 г. працавала да 50 прадпрыемстваў з колькасьцю рабочых да 1.500 ч. Ў 1932 г. прамысловасьць у гэтым раёне яшчэ больш вырасла. Калі мы гаворым аб дасягненьнях прамысловасьці, ня трэба выпускаць з віду яе тэхнічную ўзброенасьць, тэхнічны бок справы. Прамысловасьць Палесься і ў гэтым сэнсе зьяўляецца поўнаю процілежнасьцю таму, чым яна была да рэволюцыі. Рад прадпрыемстваў зьяўляецца моцнымі



Асушка колгасьнікамі балота каля в. Сьнядзін Пятрыкоўскага раёну.

прамысловымі цэнтрамі, напрыклад, Капцэвіцкі лесапільна-фанэрны завод, дзе працуе 800 рабочых.

Ня меншыя дасягненьні мы маем у галіне сельскай гаспадаркі Палесься. Значна пашырылася плошча пад культурамі. Асушана вялікая колькасьць балот, прычым побач з мэліорацыйнай працай, правадзімай дзяржавай, самі колгасьнікі і аднаасобнікі праводзяць значную працу па асваеньню балот. Там, дзе некалі панавала трохполка, плуг і саха, там цяпер ужываюцца складаныя сельска-гаспадарчыя прылады, організавана і работае вялікая колькасьць магутных спэцыялізаваных гаспадарак і жывёлаводчых фэрмаў; там, дзе існавала маса бядняцкіх сялянскіх гаспадарак з вузкімі палоскамі зямлі, там цяпер створаны і работаюць дзесяткі буйных колгасаў. Мы маем у трох раёнах машынна-трактарныя станцыі, якія налічваюць больш зя паўсотню трактараў. Апрача трактараў на палескіх палёх працуюць і іншыя складаныя сельска-гаспадарчыя машыны: трактарныя касілкі, снопавязалкі, складаныя малатарні, многарадныя сявалкі, дыскавыя бароны і г. д. У адным, напрыклад, Тураўскім раёне, параў-

нальна нявялікім, працуе: 13 трактараў, 5 трактарных касілак, 5 снопавязалак, 8 складаных малатарань, 27 сявалак, 4 дыскавыя бораны. У гэтым-жа раёне маецца 32 колгасы, 11 буйных спэцыялізаваных жывёлагадоўчых таварных фэрмы з 778 каровамі, 13 сьвінагадоўчых гаспадарак з 465 сьвінаматкамі, 4 птушкаводныя гаспадаркі, 1 трусагадоўчая. Ня меншыя дасягненьні маюцца і ў іншых раёнах. Усё гэта бясспрэчныя заваёвы ў сельскай гаспадарцы.

Процант колектывізаваных сялянскіх гаспадарак у Палесьсі некалькі ніжэй за агульна-сярэдні процант па Беларусі. Але колгасы ў Палесьсі ствараюцьу ражаньне моцных і з вялікімі дасягненьнямі гаспадарак. Цэлы рад з іх вышаў на перадавую лінію ўва ўсёй нашай рэспубліцы. Даволі спаслацца хаця-б на такі колгас, як „Сейбіт", Пятрыкоўскага раёну. Колгасныя масы могуць ганарыцца гэтым колгасам. Работа ў ім організавана добра, ён у час выконвае ўсе дзяржаўныя заданьні, своечасова спраўляецца з уборкай, мае нядрэнную малочную і сьвінагадоўчую фэрму. Настроі ў колгасьнікаў здаровыя, працуюць яны дружна і з уздымам. Ураджай колгасных палёў „Сейбіта" выдзяляецца сярод навакольных палёў. Усе гэтыя дасягненьні сталі магчымымі дзякуючы правільнаму кіраўніцтву колгасам, організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню і рашучай барацьбе з варожымі элемэнтамі, якія рабілі спробы разлажыць колгас. Мы маем ужо ня мала такіх колгасаў у Палесьсі. Мы можам спаслацца ў гэтых адносінах хаця-б і на колгас „Чырвоны араты", Лельчыцкага раёну, Букчанскі, Хільчыцкі колгасы Тураўскага раёну і рад іншых.

Але сярод гэтых перадавых колгасаў мы маем у Палесьсі і рад вельмі слабых. Многа, вельмі многа недахопаў яшчэ ёсьць ва ўсім колгасным будаўніцтве і ў сельскай гаспадарцы Палесься. Перш за ўсё сцэцыялізацыя ўнутры раёнаў носіць часта мэханічны характар. Мы маем рад сьвінагадоўчых фэрмаў, організаваных у балотных мясцовасьцях, без адпаведнай кармовай базы. У той-жа час вялізарныя пасьбішчы, сенажаці і лугі часта не скарыстоўваюцца ў кірунку стварэньня ў гэтых мясцох фэрмаў буйной жывёлы. Ёсьць у Палесьсі і птушкаводная фэрма, таксама пабудаваная бяз уліку адпаведнай харчовай базы, у выніку гаспадарка зьяўляецца нерэнтабельнай. Кіруючыя плянава-гаспадарчыя органы часта даюць заданьні мясцом у галіне спэцыялізацыі бяз уліку прыродных умоў і асаблівасьцяў (напрыклад, балоцістасьці і ступені асушкі іх). Слабая конкрэтная работа па организацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў. Ва многіх колгасах своечасова не прарабатваюцца важнейшыя дзяржаўныя рашэньні.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя вялікія недахопы, мы маем вялікія зрухі ў колгасным будаўніцтве Палесься. Асабліва прыемнае зьявішча, якое кідаецца ў вочы ў колгасным жыцьці Палесься—гэта высокае сьвядомасьць, вялікая актыўнасьць жанчын-колгасьніц. Гэта зьявішча, паўтараем, кідаецца асабліва ў вочы. Належыць, аднак, адзначыць і другое,—гэта лішкі рабочай сілы ў колгасах Палесься. Калі ў радзе іншых раёнаў мы маем недахопы ў рабочай сіле колгасаў, у Палесьсі гэтага няма. Іменна тут

ёсьць лішак яе ў летні час. У зімовы час яны добры зарабляюць на лясных распрацоўках. Над пытаньнем-жа аб скарыстаньні працоўнай сілы колгасьнікаў у летні час варта падумаць.

## Савецкае будаўніцтва і клясавая барацьба

Брыгада па вывучэньню савецкага будаўніцтва і клясавай барацьбы павінна была правесьці вялікую і адказную работу ў пэрыод дзейнасьці Палескай экспэдыцыі. Сабраць матар'ял па гісторыі саветаў Палесься, вывучыць сучаснае становішча РВК і сельскіх саветаў, паказаць, як гэтыя органы дыктатуры пролетарыяту перабудаваліся ў сувязі з разгорнутым соцыялістычным будаўніцтвам і ў прыватнасьці ў сувязі з колектывізацыяй вёскі, як яны кіруюць гэтым будаўніцтвам, у якія формы выліваецца клясавая барацьба ў сучасных умовах,—такія галоўнейшыя задачы былі пастаўлены перад гэтай брыгадай. Выкананьне гэтых задач павінна адыграць вялікую ролю для далейшай перабудовы работы саветаў, для рацыяналізацыі і выработкі новых мэтодаў уплыву на масы і мобілізацыі іх на выкананьне вялізарных гістарычных задач, пастаўленых нашай партыяй на другую пяцігодку.

Гэтая брыгада, хаця сілы яе і былі абмежаваныя, здолела за 2 месяцы правесьці вялікую работу, сабраць вялізарны і каштоўны матар'ял у сваёй галіне. Вялікую дапамогу аказвалі брыгадзе ў яе рабоце мясцовыя, партыйныя і савецкія організацыі і актыў раёнаў і сельсаветаў. Амаль пры ўсіх РВК, дзе праводзілася работа Палескай экспэдыцыі, былі створаны камісіі садзейнічаньня. Складаліся яны з кіруючых партыйных і савецкіх работнікаў раёну. Пад кіраўніцтвам брыгады экспэдыцыі гэтыя камісіі сабралі вялікі фактычны матар'ял па савецкаму будаўніцтву і клясавай барацьбе ў Палесьсі, дапамагалі брыгадзе ў паказаньні найбольш важных об'ектаў для вывучэньня, удзельнічалі непасрэдна ў вывучэньні тых ці іншых зьявішч адпаведнай галіны.

Вывучэньне гісторыі саветаў у Палесьсі праводзілася шляхам адшуканьня архіўных матар'ялаў, у тэй або іншай меры яшчэ захаваных, праўда, у вельмі хаотычным стане ў раёнах, з другога боку, шляхам скліканьня старых работнікаў саветаў і былых працаўнікоў рэвкомаў, партызан і ўдзельнікаў грамадзянскай вайны. Для гэтай работы патрэбен быў надзвычайна вялікі час. Трэба было ўстанавіць сьпісы старых работнікаў і ўдзельнікаў грамадзянскай вайны, сабраць ад іх успаміны, зафіксаваць вусныя апавяданьні аб складзе і рабоце першых саветаў. Належыць адзначыць, што гэтая работа праведзена экспэдыцыяй далёка нездавальняюча. Разам з гэтым і архіўныя матар'ялы, знойдзеныя на мясцох, далёка таксама недастатковы для напісаньня гісторыі саветаў у Палесьсі. Натуральна, пагэтаму брыгадзе па вывучэньню савецкага будаўніцтва прыйдзецца яшчэ дадаткова сабраць неабходны матар'ял, каб напісаць гісторыю саветаў Палесься. Пры канчатковай апрацоўцы сабраных матар'ялаў гэта будзе выканана.

Матар'ял, сабраны брыгадай аб сучасным становішчы саветаў ў Палесьсі і правадзімай там клясавай барацьбе, надзвычайна важны і дастаткова поўны.

У надыходзячае Кастрычнікаўскае сьвята пролетарыят і працоўныя масы сялянства будуць адзначаць XV-годзьдзе існаваньня саветаў у Палесьсі. Яшчэ да нямецкай окупацыі ў 1918 годзе ў Палесьсі, таксама як і ў іншых частках Савецкай Беларусі былі створаны рэўкомы і сельсаветы. З канца 1917 і ў пачатку 1918 г. пачынаецца іх гісторыя. Нямала яшчэ захавалася былых удзельнікаў гэтых першых рэўкомаў і сельсаветаў у Палесьсі. Яны ў Кастрычнікаўскія сьвяты раскажуць працоўным, як яны стваралі гэтыя першыя органы дыктатуры пролетарыяту, як работалі ў іх, як вялі барацьбу гэтыя органы з контррэволюцыяй.

Нямецкая окупацыя спыніла дзейнасьць першых рэўкомаў і сельсаветаў Палесься. Работнікі іх часткова былі расстраляны, часткова загнаны ў падпольле. Нямала сярод іх было організатараў па стварэньню партызанскіх атрадаў, якія змагаліся супроць нямецкіх окупантаў і гетманскай контррэволюцыі. Пасьля адыходу немцаў і разгрому гайдамакаў цэлы рад раёнаў Палесься займаецца украінскай і пятлюраўскай контррэволюцыяй, якая разразгортвае сваю крывавую дзейнасьць з канца 1918 году і першых месяцаў 1919 года. Не пасьпелі пролетарскія і паўпролетарскія масы пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі, організаваныя ў партызанскія атрады з дапамогай Чырвонай арміі паканчыць з пятлюраўцамі, як на Палесьсі пачалі зьяўляцца польскія белыя банды. Створаныя ў гэты адрэзак часу рэўкомы і сельсаветы вялі героічную работу і барацьбу. Белапольская окупацыя спыніла ў другі раз іх дзейнасьць. І толькі ў канцы 1920 году яны зноў аднаўляюцца і зноў трапляюць ў цяжэйшую паласу, калі пачаў сваю крывавую пагромную вакханальлю Булак-Балаховіч, калі сьледам за яго пагромамі моцна разьвіўся бандытызм у 1921 годзе ў Палесьсі, як і па ўсёй БССР, захапіўшы нават яшчэ 1922 і 1924 г. Толькі з гэтага апошняга году, з канчатковай ліквідацыяй бандытызму, саветы ўступаюць у пэрыод мірнага савецкага соцыялістычнага будаўніцтва, не забываючы, аднак, аб суседзтве белай Польшчы, якая не пераставала весьці сваю варожую політыку да савецкай краіны—накіроўваючы праз мяжу, у тым ліку ў лясістыя і забалочаныя месцы Палесься бандытаў і контрабандыстаў. Саветы Палесься пад кіраўніцтвам нашай партыі заставаліся па ранейшаму на пасту заваёў рэволюцыі, ачышчаючы ў той самы час свае рады ад чужых, кулацкіх і шкодніцкіх элемэнтаў.

Вывучаючы саветы пэрыоду рэконструкцыі і ў прыватнасьці работу іх у сучасны момант, брыгада па савецкаму будаўніцтву зьвярнула сваю галоўную ўвагу на пытаньні: кіраўніцтва РВК сельсаветамі, на работу гэтых апошніх у сувязі з соцыялістычнай перабудовай вёскі, на работу сельсаветаў па-новаму, на клясавую барацьбу, якая адбываецца ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва. У выніку праведзенай работы брыгада констатуе, што РВК, нягледзячы на рад меўшыхся наяўных скрыўленьняў лініі партыі ў пытаньнях колектывізацыі вёскі, адміністраваньня (асабліва ў Пятрыкоўскім раёне), сконцэнтравалі сваю галоўную ўвагу на пытаньнях колектывізацыі. РВК і сельсаветы вядуць вялізную работу ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва. Але-ж асноўнае пытаньне—організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў яшчэ

далёка не пастаўлена на адпаведную вышыню сельсаветамі. У самой спэцыялізацыі колгасаў няма належнай выразнасьці і адпаведнага абаснаваньня. Навука ў гэтых адносінах павінна як-магахутчэй прыйсьці на дапамогу колгасам з парадамі. Можна знайсьці прыклады, калі РВК часта праз вельмі кароткі час мяняе спэцыялізацыю колгасаў.

„Ва ўсіх дасьледваных раёнах—піша брыгада па савецкаму будаўніцтву,—не аддаецца належнай увагі організацыі і рабоце беднаты; групы беднаты пры сельсаветах існуюць толькі формальна, у большасьці колгасаў групы беднаты не організаваны. Масавай політычнай работы сярод беднаты не вядзецца. З боку асобных кіруючых работнікаў маецца недаацэнка работы сярод беднаты. Адзначаецца зрух у перабудове работы савецкіх органаў па-новаму; рэконструкцыйны пэрыод выклікаў неабходныя зьмены структуры савецкага апарату на вёсцы. Перабудова апарату РВК як вузлавога пункту соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы знайшла ў сабе адбітак у пашырэньні функцый, зьмен форм і мэтодаў работы, але гэтая перабудова пайшла галоўным чынам па лініі пашырэньня функцый. Справа забесьпячэньня кадрамі, замацаваньне іх за пэўнай галіной работы стаіць яшчэ і дагэтуль востра, асабліва па галіне забесьпячэньня кваліфікаванымі сіламі (эконэмісты, аграномы, тэхнікі і г. д.), наглядаецца вялікая цякучасьць раённых кіруючых і тэхнічных работнікаў."

Прынятае рашэньне ЦК УсеКП(б) аб рэорганізацыі Комвузаў у вышэйшыя комуністычныя сельска-гаспадарчыя школы павінна адыграць і адыграе вялізарную ролю ў справе падрыхтоўкі для раёнаў работнікаў з неабходнай кваліфікацыяй. Востра яшчэ, надзвычайна востра стаіць пытаньне кадраў для сельскіх саветаў Палесься. Старшыні і сакратары сельсаветаў у масе сваёй яшчэ вельмі слаба падрыхтаваны ў політычных адносінах. Спроба раённых організацый ліквідаваць гэтую непадрыхтаванасьць сельскіх работнікаў, шляхам організацыі кароткатэрміновых курсаў, належнага эфэкту ня дала.

Неабходна разам з сур'ёзнай работай па перападрыхтоўцы і падрыхтоўцы кадраў для раёнаў і сельсаветаў зьвярнуць увагу на структуру саветаў і РВК, маючы на ўвазе яе перабудову ў сувязі з колектывізацыяй. Трэба пакончыць з ураўнілаўкай у аплаце работнікаў у раёнах і сельсаветах, зьмяніць і ўраўнілаўскі падыход у адносінах устанаўленьня штатаў на мясцох. Звычайнае зьявішча, якое назіраецца цяпер, заключаецца ў тым, што штаты паўсюды, незалежна ад тэрыторыі раёнаў і сельсаветаў, ад аб'ёму іх работы— аднолькавы. Гэта пытаньне трэба перагледзець.

Дрэнна стаіць справа з масавай работай сельсаветаў. Сэкцыі работаюць не рэгулярна і зьбіраюцца толькі час ад часу і то пры малой колькасьці ўдзельнікаў. Дэпутацкія групы хаця і організаваны ў Тураўскім і Жыткавіцкім раёнах, але работы іх ня відаць. Раённыя організацыі аказваюць вялізарную дапамогу сельсаветам, дасылаючы туды сваіх работнікаў. Але ёсьць і ў гэтай галіне цэлы рад недарэчнасьцяў. Часта асобныя ўпаўнаважаныя з раёнаў падмяняюць сабой старшынь сельсаветаў, адкідаюць іх на задні плян, падрываюць іх аўторытэт, робяць іх безадказнымі

за работу ў пэрыод прабываньня ўпаўнаважаных. У пэрыод ад'езду ўпаўнаважаных у некаторых работнікаў сельсаветаў часта ажыццяўляецца на практыцы палажэньне: „калі ўпаўнаважанага няма, можна адпачыць“. Гэта ненормальнае зьявішча і з ім трэба пакончыць.

Трэба адзначыць надзвычайна слабую работу ў цэлым радзе пунктаў устаноў сувязі Палесься. Як на прыклад, можна спаслацца на паштовую кантору ў Пятрыкове. Работа яе пастаўлена надзвычайна дрэнна. На пошце поўная расхлябанасьць. Часта прападаюць тэлеграмы, лісты, корэспондэнцыі. Адчуваецца безадказнасьць работнікаў пошты. Унутры памяшканьня беспарадак, гвалт, а часта і моцная лаянка. Пры такой пастаноўцы справы, натуральна, нормальнай сувязі раёну з цэнтрам і сельсаветамі ня можа быць. Яна і ненормальна.

Вывучэньне Палесься лішні раз падцьвердзіла палажэньне абвастрэньня клясавай барацьбы ў пэрыод социялістычнай рэконструкцыі. Клясавая барацьба асабліва востра выяўляецца на ўчастку колектывізацыі вёскі, навакол колгаснага будаўніцтва. У брыгадзе маецца вялікая колькасьць фактаў, якія характарызуюць дзейнічаньне кулацка-варожых нам груп. Гэтыя апошнія скарыстоўваюць усялякія моманты для агітацыі супроць савецкай улады, супроць колектывізацыі, супроць партыі і органаў дыктатуры пролетарыяту. У Палесьсі за апошні год мелі месца выпадкі ўзброеных нападаў і забойстваў з боку кулацтва і яго агентуры актыўных савецкіх і партыйных работнікаў. Былі спробы нават організацыі асобных бандыцкіх шаек. Былі выпадкі, калі кулацкія элемэнты, якія падлягалі высланьню, хаваліся ў лясох і рабілі адтуль варожыя напады на актыўных колгасьнікаў і сельскіх работнікаў. У некаторых мясцох кулацтва і іншыя анты-савецкія элемэнты праводзілі вялікую варожую агітацыю сярод сялян, палохаючы іх вайной і няўнікнёнасьцю падзеньня савецкай улады. Гэтая агітацыя на паасобныя няўстойлівыя серадняцкія элемэнты рабіла свой уплыў. У радзе, напрыклад, месц узмацнілася наведваньне цэркваў, а дзе-колечы, нават былі выпадкі хрэсьбін дзяцей ўзростам ад 3 да 4 год. Дзяцей прымушалі наведваць царкву. У некаторых вёсках пад уплывам агітацыі кулацтва сяляне не наведвалі лікпунтаў (напрыклад, в. Бобрычы, Пятрыкоўскага раёну). Ёсьць выпадкі, калі ў сельсаветах яшчэ знаходзіліся да самага апошняга часу кулацка-настроеныя элемэнты. У Камаравіцкім, напрыклад, сельсавеце, Пятрыкоўскага раёну, дзе клясавая барацьба ў апошні час насіла асабліва абвостраны характар, сакратар сельсавету сам хадзіў у поле і прызываў беднякоў і сераднякоў да паўстаньня супроць колгасаў. Вучні ў гэтым-жа сельсавеце заяўлялі, зноў-такі пад уплывам агітацыі, што кулакоў цяпер у вёсцы няма. У Курыцічах распаўсюджваліся ўпарта чуткі аб прыходзе белапалякаў. Былі падпалы колгасьнікаў і г. д.

## Культурнае будаўніцтва і работа сярод нацыянальных меншасьцяў

Надзвычайна вялікая і вельмі цікавая работа праведзена Палескай экспэдыцыяй у галіне вывучэньня культурнага будаўніцтва

ў Палесьсі. Адпаведная брыгада паставіла перад сабою вельмі вялікія і адказныя задачы. Ёй неабходна было вывучыць стан і работу ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці, работу хат-чытален і клюбаў, пастаноўку работы масавых школ, склад кадраў культурных работнікаў і ў прыватнасьці настаўнікаў, прасоўваньне кніжак, газэт, часопісаў у Палесьсі, матар'яльныя выдаткі на культурнае будаўніцтва, ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, культурную работу на фабрыках, заводах, савгасах і колгасах, кіраўніцтва культурным фронтам у Палесьсі і г. д. У выніках праведзенай работы мы павінны паказаць, якія дасягненьні мае савецкае Палесьсе ў галіне культурнага будаўніцтва з часу Кастрычнікаўскай рэволюцыі, якія недахопы маюцца у гэтым будаўніцтве і як іх перамагчы. Работа ў гэтай галіне некалькі ўскладнялася тым, што ў пэрыод правядзеньня экспэдыцыі ўжо спынілі сваю работу школы, а гэта не давала нам магчымасьці вывучыць пытаньня асьветы ў працэсе правядзеньня самой работы школамі і адпаведнымі органамі асьветы. Адсутнічалі ў большасьці і настаўнікі на мясцох, праз якіх можна было-б атрымаць вельмі каштоўныя матар'ялы. І ўсё-ж, ня гледзячы на гэтыя няспрыяючыя ўмовы, брыгада правяла надзвычайна вялікую работу. Сабраны ёю матар'ял дазваляе разьвязаць тыя задачы, якія былі пастаўлены экспэдыцыяй у галіне культурнага будаўніцтва. Матар'ял гэты вельмі вялікі і рознастайны. Ён характарызуе сабою ня толькі становішча культурнага фронту ў Палесьсі ў сучасны момант, але дае мажлівасьць устанавіць асноўныя этапы культурнай работы і культурнага будаўніцтва ў Палесьсі.

Культурная брыгада ў працэсе правядзеньня сваёй работы скарыстоўвала ня толькі конфэрэнцыі настаўніцтва, якія падагульвалі работу школ за год, ня толькі матар'ялы гэтых конфэрэнцый, але і архіў аддзелаў асьветы, характарызуючы справу народнай асьветы, як у сучасны момант, так і за мінулы дзесяцігадовы пэрыод. Яна праз настаўнікаў, шляхам запаўненьня анкет, праз пэдагогічныя курсы і скліканыя нарады з работнікаў асьветы змагла выкрыць усе дасягненьні і недахопы ў рабоце на культурным фронце, дэталёва азнаёміцца з культурным роўнем шырокіх працоўных мас Палесься. У гэтых адносінах нам асабліва вялікі матар'ял давялося атрымаць на конфэрэнцыі настаўніцтва Пятрыкоўскага раёну, якая адбылася ў 20-х чыслах чэрвеня, і праз настаўнікаў Пятрыкоўскага і часткова Тураўскага раёну. У Тураве на пэдагогічных курсах брыгада атрымала вельмі каштоўныя даныя ад курсантаў аб сучасным культурным стане Палескай вёскі. Інспэктура народнае асьветы ва ўсіх раёнах Палесься ішла нам насустрач і ўсямерна дапамагла брыгадзе ў яе рабоце.

Што кідалася асабліва ў вочы пры вывучэньні культурнага будаўніцтва ў Палесьсі? Перш за ўсё, вялізарныя зрухі ў галіне культурнага стану мас параўнальна з дарэволюцыйным мінулым Палесься. Сучасную савецкую вёску ў многіх адносінах нельга пазнаць, яна зрабілася зусім іншай параўнальна з старой палескай прыгнечанай вёскай. Амаль у кожнай вёсцы мы сустракаем школы і іншыя культурна-асьветныя ўстановы. Дзесяткі

газэт выпісвае кожная з такіх вёсак. Сотні і тысячы сялян ліквідавалі сваю няпісьменнасьць. Надзвычайна пашырыўся кругавід селяніна. Гэта ўжо ня той прыгнечаны мужычок старой палескай вёскі, які глядзеў на вас з-пад ілба, вельмі недаверліва адносячыся да спроб завязаць з ім гутарку. Сучасны колгасьнік і працоўны аднаасобнік з вялікай ахвотай гутарыць з вамі на розныя тэмы, выказвае вельмі разумныя думкі па самым рознастайным пытаньням.

Гэты рост культурнасьці працоўнага насельніцтва Палесься, сказваецца між іншым і ў тым, што сяляне, а тым больш рабочыя з вялікаю ахвотаю, даведаўшыся аб работах экспэдыцыі, давалі ёй усялякія весткі па ўсім пытаньням, якія цікавілі экспэ-



4-хгадовая школа ў в. Хільчыцы Тураўскага раёну

дыцыю. Часамі за дзесятак кілёмэтраў праходзілі сяляне на месца прабываньня экспэдыцыі, каб расказаць аб карысных выкапнях, аб выдатных зьявішчах прыроды, аб партызанскім руху, пагромах, аб бандытызьме, будаўніцтве першай савецкай улады ў Палесьсі. Аб гэтых надзвычай сьвядомых адносінах рабочых і працоўных сялян да работы экспэдыцыі гавораць усе брыгады, якія пабывалі ў розных населеных пунктах Палесься.

Мы, аднак, павінны тут падкрэсьліць адну вельмі характэрную асаблівасьць культурнага росту насельніцтва Палесься. Рэзка кідаецца ў вочы, што рост гэты далёка нераўнамерны. У Палесьсі вы амаль увесь час спатыкаецеся з такога роду зьявішчамі, калі побач з перадавымі высока-культурнымі вёскамі вы знаходзіце

вельмі часта непадалёк адсталыя населеныя пункты, з надзвычайна нізкім культурным роўнем, захаванымі ў вялікай колькасьці старымі традыцыямі, з павер'ямі, цемрай і брудам. Чым растлумачыць такога роду зьявішчы? На наш погляд яны тлумачацца двума наступнымі фактарамі: адсутнасьцю на Палесьсі буйных перадавых прамысловых прадпрыемстваў, за выключэньнем адзінак, а, па-другое—прыроднымі ўмовамі. Буйная машынная індустрыя з шматлікім перадавым пролетарыятам, як вядома, робіць вялікі політычны і культурны ўплыў на навакольныя вёскі на даволі вялікай прасторы. У Палесьсі мы амаль ня маем такіх прадпрыемстваў. У той-жа час, моцная забалочанасьць, лясістасьць мясцовасьці, дрэнныя шляхі зносін, а ў весну і вялізарныя паводкі скрозь і ўсюды адрываюць тую або іншую закінутую палескую вёску ад больш перадавых населеных пунктаў часамі на даволі доўгі тэрмін. У такім выпадку вёска жыве сваім уласным замкнутым жыцьцём. Рэдка калі заглядаюць туды культурныя і політычныя работнікі. Да рэчы трэба адзначыць, што ў такім становішчы бываюць ня толькі асобныя вёскі Палесься, але ў пэўным сэнсе і цэлыя раёны. У Тураўскім, Лельчыцкім, напрыклад, раёнах рэдка сустракаюцца навуковыя і адказныя політычныя работнікі, а гэта бязумоўна адбіваецца на рабоце, на ўздыме культурнага роўню насельніцтва адпаведных раёнаў.

Трэба сур'ёзную ўвагу зьвярнуць цэнтральным савецкім установам і ў прыватнасьці Наркамасьветы на раёны Палесься і асабліва на асобныя вёскі гэтых раёнаў. Трэба знайсьці шляхі і сродкі, каб падцягнуць найбольш адсталыя вёскі Палесься ў культурных адносінах. Мне думаецца, што закінутыя вёскі, адрэзаныя ад культурных цэнтраў вялікімі прасторамі, багатым лясамі, увесну ў часе паводкі абавязкова трэба максымальна радыяфікаваць.

Аб тым, што Палесьсе, ня гледзячы на цэлы рад спэцыфічных асаблівасьцяў яго, вырасла і вельмі моцна вырасла ў культурных адносінах, гавораць вельмі многія факты.

Даволі спаслацца хаця-б на рост культурных кадраў, школ, на ліквідацыю няпісьменнасьці, колькасьць выпісваемых газэт і часопісаў і г. д., каб бачыць гэты культурны рост. У Жыткавіцкім, напрыклад, раёне ў 1925 годзе работала толькі 45 настаўнікаў, у 1928 годзе 65 настаўнікаў, а ў 1932 годзе іх (настаўнікаў) ужо налічваецца 114 чалавек. У гэтым-жа раёне ў 1923 годзе было толькі 15 школ з 33 настаўнікамі, а ў 1932 годзе 42 школы. Рост, як бачым, і пэдагогічных кадраў і школ вялізарны. У гэтым-жа раёне ў 1926 годзе лічылася 3.667 чалавек няпісьменных і з таго часу ліквідавана няпісьменнасьць 3.000 чалавек.

У Пятрыкоўскім раёне толькі ў апошнім годзе лікпунктамі ахоплена 6.500 чал. Рост школьнай сеткі, культурных кадраў надзвычайна вялікі ва ўсіх раёнах Палесься.

І ўсё-ж ня гледзячы на ўсе гэтыя дасягненьні, мы маем вялікія недахопы ў культурным будаўніцтве на Палесьсі. Перш за ўсё самым вялікім і самым сур'ёзным недахопам зьяўляецца нізкая якасьць работы культурных устаноў. Хаты-чытальні знаходзяцца ў вельмі дрэнным становішчы. Яны фактычна не работаюць, зна-

ходзяцца на замку. Школы даюць нізкую продукцыю, ня гледзячы на тое, што за апошні год яны значна падцягнуліся. У раёнах Палесься яшчэ вельмі многа засталося няпісьменных, прычым горш за ўсё гэта тое, што за апошні час моцна паслаблена работа ў гэтым кірунку. Няма сур'ёзнага мэтодычнага кіраўніцтва школамі з боку раённых аддзелаў народнае асьветы. Не вывучаецца практыка работы лепшых школ і не пераносіцца ў іншыя школы. Якасны склад настаўніцтва, асабліва ў сэнсе яго кваліфікацыі, надзвычайна нізкі, а ў той-жа час работа з настаўнікамі пастаўлена вельмі дрэнна. У гэтых адносінах заслугоўваюць асаблівай да сябе ўвагі профэсіянальныя асьветніцкія організацыі. Іх работа нікчэмна і ніжэй усякай крытыкі. Многія з раённых профэсіянальных асьветніцкіх організацый ня ведаюць сваіх настаўнікаў, ня вядуць з імі сыстэматычнай работы, ня ведаюць нават (!), колькі сярод настаўнікаў ударнікаў, колькі ўдзельнічае ў социялістычным спаборніцтве, як організавана работа па соцспаборніцтву і ўдарніцтву. Амаль ва ўсіх раёнах не праводзіцца сур'ёзнай і сыстэматычнай работы сярод нацыянальных меншасьцяў. Работа ў гэтай галіне абмяжоўваецца бадай толькі стварэньнем тых ці іншых школ на нацыянальных мовах. Іншай сур'ёзнай работы ня відаць. Часта раёны ня маюць дакладных статыстычных матар'ялаў аб насельніцтве нацыянальных меншасьцяў. Ёсьць, праўда, яшчэ ў некаторых раённых цэнтрах нацыянальныя (яўрэйскія) клюбы, але работа ў іх пастаўлена дрэнна. А між тым, у Палесьсі ёсьць даволі многа нацыянальных меншасьцяў—яўрэі, палякі, немцы, украінцы, цыганы, расійцы. Некаторыя сельсаветы асабліва заслугоўваюць увагі ў сэнсе неабходнасьці работы сярод нацыянальных меншасьцяў. У Жыткавіцкім, напрыклад, раёне маецца Браніслаўскі с/с, які па складу свайго насельніцтва зьяўляецца вельмі характэрным. У ім многа палякаў, украінцаў, немцаў. І ўсё-ж тут няма работы сярод гэтых нацыянальных меншасьцяў, ня гледзячы на вялікую колькасьць насельніцтва пералічаных вышэй нацыянальнасьцяў.

На ўсе гэтыя недахопы ў рабоце, а мы далёка яшчэ не ўсе іх адзначылі, трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

*(Працяг будзе).*

П. Н. Кузьмянкоў

# Як і над чым працуе краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім дзяржаўным пэдтэхнікуме

Краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме організавана ў верасьні месяцы 1931 г. У склад ячэйкі ўвайшло 60 студэнтаў і 3 выкладчыкі тэхнікуму. Ячэйкай праведзена даволі вялікая дасьледчая работа, вынікі якой мы і падаем у даным артыкуле.

## Дасьледчая работа

Дасьледчая работа ячэйкі выразілася, галоўным чынам, у пастаноўцы досьледаў па вырашчваньню новых с.-г. расьлін і акультываваных дзіка-рослых расьлін нашага раёну. Досьледы былі пастаўлены на вучэбна-паказальным участку пэдтэхнікуму. З прычыны невялікай плошчы ўчастку досьледы вяліся ў малых маштабах, але вынікі іх настолькі цікавы, што нам здаецца, з імі неабходна азнаёміць іншыя краязнаўчыя організацыі і шырокія масы працоўных. Увесь участак быў разьбіты на дзялянкі і заняты рознымі расьлінамі, як гэта відаць з прыкладзенага ў канцы сьпісу культываваных на ім расьлін.

### 1. Досьледы па культуры соі

Найбольш цікавымі досьледамі зьявілася вырашчваньне соі. У гэтым годзе мы вырашчвалі сем розных сартоў яе. Нас цікавіла пытаньне, наколькі кліматычныя ўмовы Рэчыцы адпавядаюць вэгетацыйнаму пэрыоду соі і пашырэньню яе культуры ў раёне. З гэтай мэтаю мы зрабілі тры пасевы з прамежуткам часу паміж імі па 15 дзён—7/V, 22/V і 7/VI. Асобныя сарты далі наступныя вынікі: [1]

#### а) Соя Рэчыцкага пэдтэхнікуму

Гісторыя гэтай соі наступная: у пачатку чэрвеня мінулага году да нас трапіла адно зерне соі, здаецца з Узбэкскай ССР. Пасадзілі яго на градку, але было ўжо позна, і яно ў гародзе ня высьпела. Увосень яго перасадзілі ў скрынку і ўжо ў пакоі сабралі

[1] Сарты: Крушуля 9/3, Чорная Амурская, бурая Амурская, жоўтая Амурская, Харбінская 199 атрыманы ад Біолёгічнага Інстытуту Белар. Акадэміі Навук.

ўраджай у 13 зернят, у гэтым годзе іх высеялі на градку 7/V. З трынаццаці—узышло 10, але дзьве расьліны былі зьнішчаны ў часе росту. Рэшта—восем раслін убралі 17 верасьня, калі верхнія стручкі яшчэ ня высьпелі. Пэрыод вэгетацыі яе аказаўся, такім чынам, вельмі доўгім. Недасьпелыя да ўборкі стручкі дасьпяваюць пры прасушваньні, хоць зерні з іх некалькі драбнейшыя, чым са стручкоў нормальна дасьпелых. Усхожасьць насеньня з недасьпелых стручкоў значна зьніжаецца: каля 75—80%. Стручкі гэтай соі зусім дробныя, але вельмі густа пераплятаюцца пад лісьцямі расьліны. Зерне дробнае, жоўта-бруднае ці жоўта-зеленаватага колеру, акруглае. Сьцябло мяккае, тонкае і высокае, дае многа галінак, якія разьвіваюцца аднолькава з галоўным сьцяблом і ў сваю чаргу галінуюцца. Сьцябло мае схільнасьць завівацца і ў чыстым пасеве кладзецца на зямлю, а сустрэўшы іншыя расьліны—зьвіваецца па іх. Дробныя цёмназялёныя лісьці не асыпаюцца, нават пры дасьпяваньні стручкоў. У пазухах лісьцяў знаходзіцца па 3-4 кветкі, з якіх і разьвіваецца па 3-4 стручкі з мяккай і тонкай шкарлупой. Да сказанага аб соі Рэчыцкага пэдтэхнікуму трэба дадаць яшчэ наступнае:

| | |
|---|---|
| 1. Пэрыод вэгетацыі . . . | 132 дні |
| 2. Высата расьліны . . . | 137,2 см. |
| 3. Высата да галінак . . . | 5 „ |
| 4. „ „ стручкоў. . . | 10 „ |
| 5. Колькасьць галінак на 1 расьл. . | 9,5 штук |
| 6. „ стручкоў на расьліну | 230 „ |
| 7. Ураджай сам . . . | 119 |
| 8. Ураджай з га . . . | 2140 кг. або 133 пуды |

Наколькі гэты сорт прыгодны да культуры на зерне ва ўмовах Рэчыцкага раёну—сказаць цяпер цяжка, але для сілосу ён зьяўляецца вельмі добрым, як маючы вялікую колькасьць зялёнай масы на гектар. Больш стала аб гэтым сорце можна будзе сказаць у будучым годзе, калі зробім з ім паўторны досьлед у больш шырокім маштабе.

### б) Соя Крушуля

Гэты сорт соі аказаўся самым скарасьпелым. Участак, засеяны 7/V, ужо 10 жніўня пажаўцеў, а 15 жніўня з расьлін пачалі асыпацца лісьці. Рост гэтай соі невялікі, але сьцябло яе моцнае, простастойкае, схільнае палягаць і віцца. Велічыня стручкоў сярэдняя паміж сояй Рэчыцкага пэдтэхнікуму і харбінскай. Колькасьць стручкоў на расьліне і гушчыня іх разьмяшчэньня параўнача невялікая. Сьцябло пачынае галінавацца каля 7—10 см пад зямлёй, а стручкі знаходзяцца яшчэ вышэй, што пры простым сьцябле дазваляе ўборку гэтага сорту звычайнымі ўборачнымі машынамі. Пры сушцы скошанай масы, стручкі як і ў соі Рэчыцкага пэдтэхнікуму, не абламваюцца і ня трэскаюцца, дзякуючы чаму страты пры ўборцы вельмі нязначныя.

Адносіны гэтага сорту да кліматычных умоў Рэчыцкага раёну і ўраджайнасьць яго відны з наступнага:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Пэрыод вэгетацыі пры раньнім пасеве | 105 дзён |
| 2. | „ „ „ сяряднім „ | 101 „ |
| 3. | Вышыня расьліны . . . . | 75—90 см. |
| 4. | „ да галінак . . . . | 8-9 „ |
| 5. | Вышыня да стручкоў . . . | 14—18 „ |
| 6. | Колькасьць галінак на 1 расьліну . | 4-5 штук |
| 7. | „ стручкоў на 1 расьліну . | 78—93 „ |
| 8. | Ураджай сам. . . . . . . | 55 |
| 9. | Ураджай з га . . . . . | 2103 кг. 131 п. |

Што датычыцца гэтага сорту соі, то ўжо зараз можна сказаць, што прыродныя ўмовы Рэчыцкага раёну спрыяюць яе культуры. Ня толькі раньнія пасевы, але і сярэднія і нават позьнія дасьпяваюць нормальна і даюць добрае, буйное, жоўтае акруглае зерне.

### в) Соя амурская чорная

Соя амурская чорная мае пэрыод вэгетацыі некалькі даўжэйшы за сою Крушуля. Сьцябло яе высокае, тонкае, схільнае віцца і палягаць. Лісьці пры дасьпяваньні амаль не асыпаюцца. Стручкі па буйнасьці амаль такія-ж як у соі Крушуля, але па колькасьці іх больш і наогул ураджайнасьць яе вышэй. Зерне па велічыні амаль такое як у соі Крушуля, але некалькі больш прадоўжнае, па форме больш набліжаецца да зерня фасолі і мае чорную скручынку.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Пэрыод вэгетацыі (першы пасеў) . | 117 дзён |
| 2. | „ „ (другі „ ). . | 105 „ |
| 3. | Вышыня расьліны . . . . | 136 см. |
| 4. | „ да галінак . . . . | 6 „ |
| 5. | Вышыня да стручкоў . . . | 12—18 см. |
| 6. | Колькасьць галінак на 1 расьліну . | 5-6 шт. |
| 7. | „ стручкоў на 1 расьліну . | 133 „ |
| 8. | Ураджай сам . . . . . | 72—84 шт. |
| 9. | Ураджай з га . . . . . | 3000 к. 186 п. |

Нормальна ў Рэчыцкім раёне дасьпяваюць розныя і сярэднія пасевы, а ў гэтым годзе дасьпеў і позьні (пасеў 7/VI—дасьпеў 27/IX). Як скорасьпелы і ўраджайны сорт ён у будучым павінен будзе заняць сваё месца сярод культурных расьлін нашага раёну.

### г) Соя амурская бурая

Соя амурская бурая зарэкомэндавала сябе ў нас горш, як усе іншыя сарты. Пэрыод яе вэгетацыі аказаўся даўжэйшы, як у большасьці сартоў, а ўраджайнасьць невялікая. Недасьпелыя стручкі пры ўборцы дрэнна дасьпяваюць, а некаторыя нават пакрываюцца плесьняю ў той час, калі іншыя сарты пры гэтых-жа ўмовах дасьпяваюць значна лепш. Сьцябло яе высокае, тонкае, схільнае віцца і палягаць. Велічыня стручкоў амаль такая, як

у соі амурскай чорнай. На зерне высяваць можна толькі, ужываючы раньнія пасевы, аднак, больш яна прыгодна ў нашых кліматычных умовах, як сілосная расьліна, бо зялёнай масы з гектару яна дае вялікую колькасьць. Пры абмалоце амурскай бурай—сярод яе трапляліся чорныя зерняты. Магчыма, што пры пасеве на дзялянку бурай соі трапіла чорнае зерне, а мо' былі якія іншыя прычыны, але аднаразовы досьлед ня даў магчымасьці іх высьветліць. Даныя аб пэрыодзе вэгетацыі соі бурай амурскай і аб яе ўраджайнасьці наступныя:

| | |
|---|---|
| 1. Пэрыод вэгетацыі пасеву 7/V . | 121 дзень |
| 2. " " " 22/V. | 110 " |
| 3. Вышыня расьліны . | 147—155 см. |
| 4. " да галінак | 8-9 " |
| 5. " да стручкоў | 13—15 " |
| 6. Колькасьць галінак на 1 расьліну | 4 шт. |
| 7. " стручкоў " | 78 " |
| 8. Ураджай сам | 33 " |
| 9. " з гектару | 1264 кг. 79 п. |

**г) Соя амурская жоўтая**

Соя амурская жоўтая па працяжнасьці вэгетацыі займае сярэдняе месца паміж амурскай чорнай і амурскай бурай, больш, аднак, набліжаючыся да апошняй. Сьцябло яе, як і ў папярэдніх, высокае, тонкае, галіністае, схільнае віцца і палягаць. Лісьці, таксама як і ў чорнай і бурай, пры дасьпяваньні асыпаюцца мала. Стручкі некалькі буйней як у папярэдніх, найбольш двух-трох-зерныя. Недасьпелыя пры прасушцы дасьпяваюць ня вельмі добра. Зерне жоўтае, акруглае, сярэдняй буйнасьці.

| | |
|---|---|
| 1. Пэрыод вэгетацыі (першы пасеў) | 119 дзён |
| 2. " " (другі пасеў) | 108 " |
| 3. Вышыня расьліны . | 126 см. |
| 4. " да разгалінаваньня | 9 " |
| 5. " " стручкоў | 13 " |
| 6. Колькасьць галінак на 1 расьліну | 5 шт. |
| 7. " стручкоў " " | 106 " |
| 8. Ураджай сам | 63 " |
| 9. Ураджай з гектару | 2382 кг 149 п. |

Адносна прыгоднасьці яе да культуры ў Рэчыцкім раёне можна сказаць наступнае. Культура на зерне магчыма пры ўмове раньніх пасеваў, на сілос магчыма ўжываць сярэднія і нават позьнія пасевы.

**д) Соя харбінская**

Пэрыод вэгетацыі соі харбінскай даўжэйшы як у соі амурскай. У кліматычных умовах Рэчыцкай акругі гэты сорт на корані дасьпявае нормальна толькі пры раньніх пасевах, аднак, ён добра дасьпявае пры сушцы скошанай масы, хаця зерне ў гэтых выпадках бывае некалькі драбнейшае. Ці адбіваецца такая ўборка на ўсхожасьці насеньня—намі яшчэ ня высьветлена.

Сьцябло ў соі харбінскай некалькі вышэй, як у соі Крушуля. Тоўстае, моцнае, простастойкае, вельмі галіністае, маюцца нават галінкі іншага парадку, бяз прыметнай схільнасьці завівацца.

Лісьце буйное, шырокае, перад дасьпяваньнем слаба чырвонае, тоўстае і часткова асыпаецца. Стручкі буйныя, хоць разьмешчаны на расьліне і рэдка. Пры сушцы некаторыя з іх трэскаюцца і высыпаецца насеньне. Зерне жоўтае, буйное, пры нормальным дасьпяваньні, а пры ўборцы недасьпелай расьліны некалькі дробнейшае. Наш досьлед паказаў, што яе:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Пэрыод вэгетацыі пры пасеве 7/V | 125 | дзён |
| 2. | „ „ „ „ 22/V | 115 | „ |
| 3. | Вышыня расьліны | 114 | см. |
| 4. | „ да галінак | 14 | „ |
| 5. | „ „ стручкоў | 20 | „ |
| 6. | Колькасьць галінак на 1 расьліну | 6 | шт. |
| 7. | „ стручкоў „ „ „ | 76 | „ |
| 8. | Ураджай сам | 70 | „ |
| 9. | „ з гектара | 2728 | кг. 170 п. |

Ня гледзячы на доўгі пэрыод вэгетацыі гэты сорт, нам здаецца, з посьпехам можа культывавацца ў Рэчыцкім раёне. Ён мае рад пераваг, перад іншыі сартамі, а іменна тут лягчэй за ўсё можа ўжывацца машынны спосаб уборкі, ён добра дасьпявае і пры сушцы скошанай масы ён дае найлепшай якасьці зерне, апрача ўсяго сказанага ён усё-ж дасьпявае пры раньніх пасевах. Доказ гэтаму—дасьпяваньне ў нашых досьледах ня толькі раньняга, але і сярэдняга пасеву.

#### е) Соя з Рэчыцка а савгасу

Гэта соя прадстаўляе сабою сумесь некалькіх сартоў. Сярод пасеву сустракаюцца расьліны з сьцяблямі простастойкімі і палягаючымі. Некаторыя расьліны 25/IX пажаўцелі і лісьці на іх пачалі асыпацца, а некаторыя і ў пачатку кастрычніка былі яшчэ зусім зялёныя. На адных расьлінах стручкі буйныя, рэдкія, а на другіх дробныя, але густыя. Адбор скорасьпелых экзэмпляраў можна дазволіць, вылучыўшы прыгодны для Рэчыцкіх умоў сорт. Прымаючы, аднак, пад увагу тое, што гэты пасеў адбываецца позна, трэба думаць, што пры раньнім пасеве гэта соя можа нормальна дасьпець. Як і ўсе іншыя сарты клубянькоў на каранях гэтая соя не ўтварыла. Іншыя ўласьцівасьці гэтай соі наступныя:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Пэрыод вэгетацыі | 116 | дзён |
| 2. | Вышыня расьліны | 96—119 | см. |
| 3. | „ да разгалінаваньня | 2,5—16 | „ |
| 4. | „ „ стручкоў | 10—24 | „ |
| 5. | Колькасьць галінак на 1 расьліну | 8 | шт. |
| 6. | Колькасьць стручкоў „ | 175 | „ |
| 7. | Ураджай сам | | |
| 8. | Ураджай з гектара | | |

З пасеву вылучана 3 сарты: раньняя простастойкая, позьняя простастойкая і сярэдне-скорасьпелая з сьцяблом, схільным палягаць і завівацца.

Невялікі па маштабу і, магчыма, ня зусім навукова пастаўлены досьлед з культурай сої ва ўмовах Рэчыцкага раёну дазваляе, аднак, зрабіць некаторыя практычныя вывады. У прыватнасьці ён паказаў, што:

1. Прыродныя ўмовы Рэчыцкага раёну дазваляюць культываваць сою ня толькі як расьліну сілосную, але і як расьліну, якая дае багаты ўраджай насеньня.

2. З дасьледваных расьлін па скорасьпеласьці асабліва падыходзіць соя Крушуля, якая дасьпявае ня толькі пры раньніх пасевах, але пры сярэдніх і нават позьніх і соя чорная амурская, як даволі скорасьпелая, найбольш ураджайная.

3. Сярэдне-ўраджайныя сарты сої даюць ураджай у 2-3 разы больш, як збожжавыя расьліны, ня кажучы ўжо аб тым, што зерне сої больш каштоўны продукт харчаваньня, як зерне збожжавых расьлін.

4. Соя Крушуля і харбінская дазваляюць уборку іх звычайнымі ўборачнымі машынамі. Што датычыцца сої Рэчыцкага пэдтэхнікуму, жоўтай, бурай і чорнай амурскіх, то ўборку можна праводзіць спосабам уборкі яравой вікі.

5. Пэрыод вэгетацыі сої не зьяўляецца сталым пры розных тэрмінах пасеву, а зьмяншаецца пры больш позьніх пасевах.

6. Найбольш буйное і цяжкое зерне даюць найбольш раньнія пасевы.

## 2. Досьледы па культуры сарго

Насеньне сарго сабрана намі з венікаў, купленых для школ ў коопэратыве. Адкуль былі прывезены венікі—невядома. Насеньне высеяна 13/IV на плошчы 1 кв. м. Узышло восем штук. Рунь была слабая, нагадваючы рунь нашых звычайных збожжавых расьлін—аўсу, ячменю. У далейшым расьліны хутка пачалі разьвівацца і пачалі нагадваць сабою кіяхі, дагналі і перагналі апошніх ў росьце.

Ад аднаго насеньня зьявілася па некалькі сьцяблоў, у сярэднім па 6 штук. 4 верасьня ўсе галоўныя сьцяблы дасьпелі, 15-га дасьпелі і дадатковыя, аднак, салома ўвесь час заставалася зялёнай, а з пазух лісьцяў пачалі зьяўляцца новыя парасткі. 15 верасьня маладыя парасткі пачалі зьяўляцца і ад кораня. Дасягнуўшы да мэтра вышыні сьцяблы пачалі даваць дадатковыя паветраныя карані, якія вырасталі з сьцябла сантымэтраў на 2-3 над зямлёй і ўрасталі ў зямлю, зьяўляючыся добрай падпорай для высокай расьліны. Пазьней сантымэтраў на 5-7 над зямлёй зьявіўся другі такі-ж самы паверх карэньняў. Карані гэтыя вельмі моцныя, іх цяжка перарэзаць нажом. Сярэдняя вышыня сьцябла 304,5 см, найменшая 278, а найбольш 325. Ураджай убралі 24 верасьня. Насеньня намалочана 2990 грам. Ураджай, такім чынам, атрымаўся колёсальны—з васьмі высеяных зернят (0,25 гр) сабралі амаль 3 кілёграмы, або сам 11960. У пераводзе на гектар таксама

атрымаем неімаверныя лічбы—29900 кілёграмаў, або 1869 пудоў. Нават калі на полі ўраджай атрымаўся-б разоў у дзесяць і меншы, дык і то трэба дзівіцца, чаму гэта сарго да гэтага часу не культывуецца ў нас у БССР. Вагу сырой масы мы не адзначалі, але яна ня менш як у 3-5 разоў перавышае вагу насеньня. Зжатае 24 верасьня сарго к 5 кастрычніка дала ўжо невялікую атаву, а калі-б яе ўбраць на сілос у часе красаваньня, дык трэба думаць, што атава дала-б яшчэ значны другі ўкос. Афарбоўка плевак на зерні неаднолькавая, адзін куст быў з чырвоным насеньнем, два—з цёмна-чырвоным, амаль чорным, і пяць з чорным. Аднак, ні па пэрыоду вэгетацыі, ні па вышыні расьлін, ні па вазе 1000 зернят гэтыя сарты паміж сабой ня розьняцца. Паміма насеньня квадратовы мэтар пасеву сарго даў матар'ялу на тры венікі, якія, да рэчы, на вольным Рэчыцкім рынку каштуюць у гэтым годзе па 4 руб. штука. Калі сарго ў Рэчыцкім раёне і ня будзе ўведзена як палявая культура, то яе ва ўсякім разе трэба раіць як дэкорацыйную расьліну, якая дае багата прыгожай зелені, а пасьля сканчэньня сэзону—веткі для патрэб гаспадаркі.

Што датычыцца іншых расьлін, якія культывуюцца краязнаўчай ячэйкай, то паколькі досьледы з імі яшчэ не закончаны, сказаць аб іх можна вельмі мала.

### 3. Крапіва

Досьледы з крапівой ячэйка распачала яшчэ ў мінулым годзе, але вяліся яны не па вырашчваньню яе, а па апрацоўцы дзікарослай крапівы. Мы хацелі знайсьці найлепшы спосаб аддзяленьня крапіўнага валакна. Частку крапівы вымачвалі ў вадзе на працягу 1, 2, 3 і 4 тыдняў. Другую частку ў шчолаку, які гатавалі з попелу (два вядры вады працадзілі праз 1 пуд попелу) таксама 1, 2, 3 і 4 тыдні. Трэцюю частку расьцілалі па траве і, нарэшце, чацьвертую частку церлі, бяз усякае папярэдняе вымачкі. Найлепшае валакно атрымалі ад крапівы, якая ляжала на траве на працягу двух тыдняў. Найбольш моцнае валакно атрымалі ад крапівы, якая не падлягала ніякай мочцы, хоць яно і было найбольш грубое.

У гэтым годзе крапіву вырашчваем на дзялянцы, але з прычыны незаконачанасьці досьледу лічбовых даных яшчэ ня маем. Адно можна ўжо напэўна сказаць—што крапіва, якая засьмечвае сады, гароды і знаходзіцца ў вялікай колькасьці ў лясох, зьяўляецца каштоўнай сыравінай для нашай прамысловасьці. У некаторых адносінах валакно яе ня горш за валакно канапель. Мы дэмонстравалі моцнасьць аднолькава прыгатаваных вяровачак з пянькі і валакна крапівы. Вяровачку з крапівы цяжэй было разарваць, як вяровачку з пянькі. На жаль, адсутнасьць сродкаў перашкаджае нам правесьці гэты досьлед у шырокім маштабе—папрабаваць пераапрацоўваць валакно крапівы ў адпаведных прадпрыемствах. Як-бы прымітыўны і абмежаваны ні былі нашы досьледы, але валакністасьць крапівы застаецца фактам. На жаль, тысячы цэнтнераў крапіўнага валакна застаюцца не скарыстанымі.

Краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме ставіць мэтаю ня толькі паказаць, што крапіва зьяўляецца валакністай расьлінай, а і распрацаваць спосабы збору гэтай сыравіны, арганізаваўшы вучнёўскія масы школ I і II ступені. Гэтая, другая частка задачы, асабліва блізка нам, паколькі членамі ячэйкі зяўляюцца будучыя настаўнікі. Збор дзіка-рослай крапівы можа праводзіцца ў верасьні, кастрычніку і нават лістападзе месяцах, толькі ў апошнім выпадку трэба рабіць больш кароткі пэрыодмочкі.

## 4. Лекавыя расьліны

Лекавыя расьліны таксама ўжо другі год вырашчваюцца на дасьледчым участку. Вырашчваюцца, галоўным чынам, тыя расьліны, якія растуць у нас у дзікім відзе. Мэтаю культуры гэтых расьлін зьяўляецца знаёмства з імі членаў ячэйкі і студэнтаў наогул, з тым, каб будучы настаўнікамі вясковай школы яны маглі арганізаваць вучняў на збор гэтай сыравіны для нашай фармацэўтычнай прамысловасьці і экспорту.

### а) Клешчавіна

Сярод лекавых расьлін асабліва цікавіць нас расьліна паўднёвага паходжаньня—клешчавіна, з якой здабываецца рыцынавы алей. Высеяная 4/IV ў скрыню і перасаджаная 6/V на градку, яна дала ўжо к першаму верасьню па аднаму дасьпеламу суквецьцю (ніжнія суквецьці). Апрача таго, на кожнай расьліне дасьпявае ўжо яшчэ па 6-10 суквецьцяў.

У кожным суквецьці ад 30 да 50 пладоў, якія маюць у сабе па 3 і рэдка па 4 зерні-арэшкі. Гэта гаворыць за тое, што, нават, гэта кволая паўднёвая расьліна можа вырастаць і дасьпяваць ва ўмовах Рэчыцкага раёну, калі яе высяваць у парнікі і потым высаджваць расадай. Прымаючы пад увагу значэньне рыцынавага алею для мэдыцыны магчыма, што падобная культура сябе апраўдала-б. Пажадана, каб на гэтую тэму былі пастаўлены досьледы матар'яльна больш моцнай організацыяй чым наша ячэйка. Маючы цяпер уласнае насеньне ў будучым годзе досьледы з клешчавінай мяркуем паставіць значна шырэй.

### б) Чарніца

Гэтая расьліна выклікае да сябе падвойны інтарэс, яна зьяўляецца ня толькі лекавай, але і ягаднай расьлінай. Наколькі нам вядома, яна ў БССР, ва ўсякім разе ў шырокіх маштабах, як культурны ягадны кустарнік, не разводзіцца. Кліматычныя-ж умовы для яе вельмі спрыяльныя, аб чым сьведчыць шырокае яе распаўсюджваньне па лясох у дзікім відзе. Як расьліна, здольная пераносіць зацяненьне, яна магла-б зьявіцца прамежнай культурай у пладовых садох, дзе іншыя ягадныя кустарнікі з-за недахопу сьвятла культываваць немагчыма. Часта можна сустрэць яе ў лесе на адкрытых палянах, што гаворыць за магчымасьць развіцьця чарніцы і без зацяненьня. У выніку разважаньняў мы і рашылі папрабаваць акультываваць гэтую расьліну.

Вясной (18/V) гэтага году намі перанесена з лесу некалькі кустоў чарнікі і высаджана на дзялянку досьледна-паказальнага ўчастку. Перасаджаныя кусьцікі прыжылі, але вынікаў гэтага досьледу можна чакаць не раней як праз год. Цяпер-жа можна толькі канстатаваць, што на глебе дасьледчага ўчастку чарніца адчувае сябе здавальняюча і што перасадку трэба рабіць значна раней, бо пасьля позьняй перасадкі расьліна доўга хварэе і марудна папраўляецца.

### в) Валяр'янка

Валяр'янка культывуецца на дасьледчым участку ўжо два гады. Перасаджана яна сюды вясной 1931 г. Ня гледзячы на рэзкую зьмену ўмоў (узята з вільготнай глебы), прынялася і адчувае сябе настолькі добра, што за 2 гады свайго існаваньня на ўчастку значна адцясьніла суседнія лекавыя расьліны і пакрыху забіраецца на іх дзялянкі. З прычыны гэтага мы лічым, што калі ня ў полі, дык на прысядзібных глебах яна магла-б з посьпехам культывавацца. На жаль, невялікая плошча ўчастку перашкаджае пашырыць культуру гэтай расьліны, а разам з тым зрабіць адпаведны ўчот ураджайнасьці яе і г. д. Аднак, з пашырэньнем у 1933 годзе дасьледчага ўчастку, мяркуем гэтую работу правесьці.

### г) Наперстаўка або дыгіталіс

Гэта расьліна паміма сваіх лекавых уласьцівасьцяў мае значэньне і як дэкарацыйная. На ўчастку яна таксама культывуецца ўжо два гады. Ва ўмовах сярэдне ўгноенай глебы адчувае сябе вельмі добра, і, размнажаючыся самасевам, адцясьняе памалу сваіх суседзяў. Будучы расьлінай двухгадовай, яна ў першы год дае толькі атаву з буйным лапушастым лісьцем, а ўжо на другі год красуе і дае насеньне. Двухгадовая культура гэтай расьліны на дасьледчым участку паказвае, што наперстаўку можна было-б увесьці ў прысядзібны севазварот і культываваць у больш-менш шырокім маштабе.

### д) Мужчынская папараць

Было заўважана намі, што год трыццаць пасьля расьцяробкі ляда што-год на полі зьяўляецца папараць. Гэта навяло нас на думку папрабаваць культываваць мужчынскую папараць на дасьледчым участку. Вясной гэтага году некалькі экзэмпляраў гэтай расьліны было перанесена з лесу на дзялянку ўчастку. Перасадка адбілася на росьце папараці, затрымаўшы яго, аднак, пасьля расьліны аправіліся і маюць цяпер добры выгляд.

### е) Каляндра і чарнушка

Гэтыя расьліны дасьледваліся з мэтай высьвятленьня, наколькі яны падыходзяць да палявых севазваротаў. Высьветлілася толькі тое, што ва ўмовах сярэдне ўгноенай глебы карыандар і чарнушка могуць культывавацца. Пры густых пасевах расьце без праполкі, само змагаючыся з пустазельлем. Ураджай корыандра ў пераводзе на гектар—1270 кілёграм, а чарнушкі 1017 кг. Пры пасеве ў сярэдзіне мая дасьпяваюць у другой палове жніўня.

## 5. Збожжавыя расьліны

Сярод збожжавых расьлін найбольш нас цікавілі пшаніцы. Колекцыю ў шэсьць сартоў прывезьлі студэнты, вярнуўшыся з зімовага адпачынку. Сарты розьніліся па велічыні, форме і афарбоўцы зерня і належалі, згодна прыложаных этыкетак, да яравых форм. Высеялі іх у сярэдніх лічбах мая. Аказалася, што з шасьці сартоў толькі два належалі да яравых, а рэшта—чатыры—зьявіліся азімымі. На працягу лета азімыя сарты сьцяблоў не далі, не пайшлі ў трубку, хоць атаву далі і вельмі багатую. Атава на працягу лета зьмянілася 2 разы, то адрастаючы, то жаўцеючы і адміраючы. К пачатку кастрычніка атава зноў багата адрасла. Такім чынам, досьлед не закончаны і прыняў некалькі іншы кірунак—высьвятляем, колькі можна будзе сабраць зялёнай масы і які атрымаецца ў будучым годзе ўраджай з гектара. Акрамя таго, гэты досьлед пакажа, наколькі магчыма азімыя пшаніцы высяваць вясной.

Акрамя пшаніц, са збожавых расьлін культывавалі авёс, ячмень, жыта.

Аўсу высявалася 3 сарты: мясцовы, „Залаты дождж“ і „Пабеда“. Лепшы ўраджай далі „Залаты дождж“ і мясцовы. „Пабеда“ вырас вялікі, але палёг, не наліўшы зерня. За дакладнасьць назваў ручацца нельга, бо поўны матар'ял узяты з узораў насеньня, сабранага членамі краязнаўчай ячэйкі з колгасаў і аднаасобных гаспадарак Рэчыцкага і іншых раёнаў.

Ячмень быў двух сартоў: залаты і мясцовы, а то толькі 1 сорт—мясцовы.

## 6. Бабовыя расьліны

### а) Фасоля

Досьледы з фасоляю праводзяцца намі ўжо другі год. Пры дапамозе членаў ячэйкі і студэнтаў тэхнікуму была сабрана колекцыя фасолі ў 34 сарты.

У сярэдзіне мая фасоля высеяна на дзялянкі з мэтай высьвятленьня ўраджайнасьці і іншых асаблівасьцяў кожнага сорту. На жаль, даных аб усіх сартох атрымаць не ўдалося. Значная частка сартоў фасолі, як і некаторых іншых расьлін (морквы, клубнікі, гароху, памідораў, гуркоў і інш.) была пакрадзена. Дакладнасьці досьледу быць ужо не магло і мы абмежаваліся зборам колекцыі насеньня для аднаўленьня досьледу ў будучым годзе.

### б) Лубін сіні і белы

Высеяны лубін у другой палове мая. Сіні дасьпеў к сярэдзіне верасьня, вырас да 102—117 см вышыні. Клубянькоў на каранёх не ўтварыў. Зялёную масу даў багатую, але для ўгнаеньня мы яго ня ўжывалі.

Лубін белы нават і к 5/X красуе, хоць ніжнія стручкі ўжо і дасьпелі. Рост ён даў сантымэтраў на 20—30 вышэй за сіні. Сьцябло яго таўсьцей як у сіняга, але галінак на ім менш і разь-

мешчаны яны радзей. Аблісьцьвеласьць меншая, хоць лісьці і буйнейшыя.

#### в) Рутвіца звычайная (Ледвянец рогатый)

Ледвянец рагаты культывуецца ў нас ужо два гады, але як кармовая расьліна сябе не апраўдаў. Расьце ў нас на ўчастку лядвянец рагаты дрэнна і дае малы ўраджай.

#### г) Баркун (донник) жоўты

Баркун жоўты або лекавы культывуецца на ўчастку ўжо 2 гады. Расьліна гэта цікавіла нас ня толькі як бабовая кармовая, але і як лекавая, і як меданосная. Высеяны ў гэтым годзе 5 мая доньнік к верасьню разьвіў вельмі багатую зялёную масу. Красаваньне пачалося з другой паловы жніўня і цягнецца да гэтага часу. Недахопам яго, як кармовай расьліны, зьяўляецца вельмі грубое галоўнае сьцябло і ніжэйшай галіны. Апрача таго, да недахопаў доньніку трэба аднесьці вельмі павольнае прарастаньне насеньня. Аднак, калі яго высяваць з восені, дык ён дае ўсходы ўжо рана вясной, і пачынае красаваць к пачатку жніўня. Колькасьць зялёнай масы ў абодвух выпадках амаль аднолькавая. (Асеньні пасеў быў утвораны ў сярэдзіне кастрычніка 1931 г). Грубасьць сьцяблоў баркуна мабыць не адбілася-б так на яго кармовых якасьцях, калі-б яго ня сушыць на сена, а засілосаваць. Апрача таго, сілосаваньне баркуна зьяўляецца неабходным ужо з той прычыны, што пры вясновых пасевах поўны ўраджай масы ён утварае толькі к канцу верасьня ці пачатку кастрычніка.

#### д) Лясны гарошак

Пад гэтай назвай мы культывуем шматгадовую бабовую расьліну, перасаджаную на ўчастак членам краязнаўчай ячэйкі, выкладчыкам прыродазнаўства Шырынскім. Грубое поўпалягаючае сьцябло яе вельмі разгаліноўваецца і багата пакрыта лісьцямі. Ня гледзячы на багатае красаваньне гэтай расьліны насеньне з яе сабраць не ўдаецца, заместа насеньня ў стручкох знаходзяцца дробныя белыя лічынкі якога-сь шкодніка. Аднак, вэгетацыйным спосабам расьліна гэта хутка размнажаецца і распаўсюджваецца і заняла ўжо сабою суседнюю дзялянку. Наколькі прыгодна яна як кармовая расьліна яшчэ ня высьветлена; козы, аднак, у сьвежым відзе зьядаюць яе добра.

#### е) Сэрадэля

Сэрадэля на нашым участку сябе не апраўдала. Насеньне яе ўсходзіць вельмі павольна. Рунь вельмі доўга мае дрэнны выгляд і толькі з другой паловы жніўня пачынае апраўляцца. Зялёная маса ўтвараецца не вялікая. Пры сярэдніх пасевах красаваньне адбываецца ў верасьні і кастрычніку. Магчыма гэта зьявілася вынікам таго, што сэрадэля сеялася ў нас першы раз.

## 7. Сілосныя расьліны

### а) Кіяхі

У гэтым годзе на ўчастку дасьледвалася восем сартоў кіяхоў. Насеньне было сабрана з розных мясцовасьцяў Рэчыцкага і прылягаючых раёнаў студэнтамі тэхнікуму і членамі краязнаўчай ячэйкі. Назвы сартоў не ўстаноўлены, пагэтаму яны ў нас адзначаюцца №№. Высеяныя адначасна кіяхі паказалі вялікую розьніцу ў пэрыодзе вэгетацыі (у 25—28 дзён). Разьмеры вышыні сьцябла супадаюць з даўжынёю пэрыоду вэгетацыі. Найбольш нізкі сорт аказаўся і найбольш скорасьпелым, а найбольш высокі і найбольш познасьпелым.

Розныя сарты розьняцца паміж сабою ня толькі пэрыодам вэгетацыі, вышынёй сьцябла, але таксама і афарбоўкай і формай зерня. Найбольшую зялёную масу даў найпазьнейшы сорт, які для культуры на сілос і патрэбна лічыць найлепшым.

### Амарантус „Лісі хвост“.

У мінулым годзе гэта расьліна разводзілася ў нас як дэкарацыйная, але была заўважана здольнасьць яе ўтвараць вельмі вялікую зялёную масу. З прычыны гэтага мы і рашылі ў бягучым годзе папрабаваць сеяць яе як сілосную. На жаль, ячэйка ня мае ні дастатковай плошчы для значных пасеваў гэтай расьліны, ні адпаведнай сілоснай установкі, каб давесьці досьлед да канца. У гэтым годзе абмяжуемся толькі зборам насеньня з мэтай перадаць яго для дасьледваньня ў якую-небудзь установу, якая займаецца пытаньнямі кармовых расьлін.

Апрача таго культывуем адзін з відаў дзікага амарантусу, які сустракаецца ў нас ў якасьці пустазельля, але дае таксама вялікую зялёную масу. І ў гэтым выпадку мы абмяжоўваемся такім зборам насеньня.

## 8. Збожжавыя кармовыя травы

Са збожжавых траў узышло толькo насеньне ежы зборнай. Рэшта насеньня аказалася няўсхожым. Адзначыць сваечасова ўсхожасць яго не зьявілася магчымым з прычыны малой колькасьці апошняга. Такім чынам, досьлед застаецца няпоўным і незакончаным.

### Севазвароты

Севазваротаў на ўчастку маецца тры—два палявых, з іх адзін дваннадцаціпалёвы і адзін васьміпалёвы і адзін гародны—чатырохпалёвы. Вынікаў ад гэтых досьледаў яшчэ няма, ды і наогул севазвароты ў нас ўжываюцца хутчэй з мэтай паказальнай, чым дасьледчай.

## 9. Ягадныя кустарнікі

З ягадных кустарнікаў на ўчастку разводзяцца маліны, аграст і парэчкі. Досьледаў з гэтымі расьлінамі мы ня ставілі, але неабходна адзначыць спосаб змаганьня з хваробай аграсту—муч-

ной расой. Гэта хвароба зьнішчыла ня толькі ўраджай аграсту, але амаль што і самыя кусты. Для змаганьня з ёю аграст апырскалі шчолакам прыгатаваным з пячнога попелу. Гэта апырскваньне не засталося бяз вынікаў,—праз некаторы час на аголенных хваробай кустох пачалі зьяўляцца маладыя галінкі з лістамі, не пераженымі мучною расой. Аднак, праз некаторы час гэтая хвароба зьявілася зноў. Паўтарыць апырскваньне не ўдалося.

У будучым годзе на гэтую тэму мяркуем організаваць досьлед больш сталы.

## 10. Кветкавыя расьліны

Прымаючы пад увагу вялікае значэньне азеляненьня гарадоў, колгасаў, савгасаў, рабочых паселішч, пашырэньня ў гарадох садоў і паркаў і карыснасьць знаёмства членаў ячэйкі і студэнтаў тэхнікуму з спосабамі культуры дзікарослых дэкарацыйных расьлін, яшчэ ў мінулым годзе ячэйка распачала вырашчваньне кветкавых расьлін. Насеньне было сабрана членамі ячэйкі, студэнтамі і настаўнікамі тэхнікуму і набыта на сроцкі, адпушчаныя дырэкцыяй тэхнікуму. На працягу двух год культывавалася многа расьлін, але дасьледчая работа концэнтравалася, галоўным чынам, на наступных расьлінах.

### а) Партулака

Партулака займала ў нас цэнтр дасьледчага ўчастку—пяцікандовую зьвязду. Пачалі вырашчваць як ў мінулым годзе. Насеньне атрымалі пад назвай чырвонага. Пры зацьвітаньні выявілася некалькі расьлін з рознымі колерамі кветак. Насеньне з гэтых расьлін было сабрана асобна і ў гэтым годзе высеяна. Жоўтая і ружовая партулака далі такія-ж расьліны ў гэтым годзе, а рэшта зноў дала сумесь з рознымі колерамі кветак. Магчыма, што проста было зьмешана насеньне дзякуючы труднасьці яго збору, а мо' тут маюць места і іншыя прычыны. Досьлед будучага году дапаможа высьветліць гэта.

### б) Лянок

З пасеву лянка адабрана 17 розных сартоў, сярод якіх адзін з трубчатымі пялёсткамі. Высеяныя паасобку сарты зноў далі рознастайную сумесь. Паўторым гэты досьлед яшчэ раз у будучым годзе, каб ужо ня было сумненьня ў магчымасьці зьмешваньня насеньня.

Досьледы з львіным зевам і табакай таксама засталіся бяз вынікаў.

У адносінах да кветак, работа цяпер концэнтруецца, галоўным чынам, на атрыманьні магчыма больш living рознага насеньня з мэтай забесьпячэньня ім школ гораду і членаў ячэек.

## 11. Жывы куток

Жывы куток не зьяўляецца цалкам уласнасьцю ячэйкі, але работа ў ім, забесьпячэньне яго прадстаўнікамі мясцовай флёры

і фаўны ляжыць на краязнаўчай ячэйцы. Для ячэйкі ён аказваецца карысным як з прычыны таго, што ў ім можна весьці некаторыя цікавыя нагляданьні, так і таму, што ён дае магчымасьць прывучацца да дасьледчай работы ўлетку.

З хатніх кветак у жывым кутку разводзяцца, галоўным чынам, тыя, якія маюць тое ці іншае значэньне ў вучэбных мэтах (дасьледваньне хлёрафілу, утварэньне крухмалу і г. д.) і для забесьпячэньня школ вучэбнымі матар'яламі. У жывым кутку разводзяцца наступныя расьліны:

1. Герані
2. Традэскаанцыя
3. Каменяломка
4. Мазольнае дрэва
5. Цыпірус
6. Алеодуш
7. Фікусы
8. Кіпарысы і іншыя расьліны.

Прадстаўнікамі сьвету жывёл у жывым кутку зьяўляюцца:

1. Рыба (тры віды)
2. Чарапаха
3. Зялёная жаба
4. П'яўкі конскія
5. Жук плавунец
6. Балацянікі скруткі і іншыя

жывёлы нашых вадазбораў. Некаторыя жывёлы ў умовах жывога кутку ня толькі жывуць, але і размнажаюцца, напрыклад, балацянікі скруткі. Чарапаха ў маі адлажыла 12 яец, і г. д.

Карыснасьць жывога кутку пры краязнаўчай ячэйцы павялічваецца яшчэ тым, што ён зьяўляецца часткай жывога аддзелу краязнаўчага музэю.

## 12. Арганізацыя краязнаўчага музэю

Арганізацыя краязнаўчага музэю нашай ячэйкай распачалася яшчэ ў мінулым годзе, але адсутнасьць сродкаў і памяшканьня перашкаджае разгарнуць гэту работу ў больш шырокім маштабе. К гэтаму часу музэй мае наступныя экспонаты:

1. Колекцыю насеньня ў 317 відаў і сартоў, галоўным чынам, мясцовай флёры.
2. Гербары дзікарослых расьлін у 220 відаў.
3. Колекцыю шасьціножак наогул і шкоднікаў саду і гароду асобна 6 скрынак.
4. Колекцыю глеб—8 монолітаў.
5. Матар'ялы па нагляданьню за тэмпэратурай, ціскам паветра і вільготнасьцю яго, хмарнасьцю, ападкамі, ветрам і інш. за 17 месяцаў.
6. Матар'ялы па санітарным абсьледваньні гораду і некаторыя іншыя матар'ялы з правадзімых ячэйкай работ.

Многа чаго можна было-б набыць для музэю ад паасобных Рэчыцкіх краязнаўцаў, школ і іншых устаноў, але адсутнасьць памяшканьня перашкаджае гэтай рабоце.

Пры музэі ёсьць і невялічкая бібліотэка ў 47 назваў розных кніг і брошур і комплект мясцовай газэты.

## 13. Грамадзка-карысная работа ячэйкі

Работа краязнаўчай ячэйкі, паколькі яна накіравана на службу социялістычнага будаўніцтва раёну, наогул ужо зьяўляецца грамадзка-карыснай. Пад назвай грамадзка-карыснай работы мы памянем тут толькі аб тэй рабоце, якую выконвала ячэйка, удзельнічаючы ў тых ці іншых грамадзка-політычных кампаніях, якія праводзіліся партыяй і савецкай уладай. Такімі работамі мы лічым наступныя:

1. Апісаньне колгасу і гісторыя фабрыкі.
2. Вывучэньне санітарнага становішча гораду.
3. Пасылка брыгады ў складзе шасьці чалавек па праверцы падрыхтаванасьці да прызыву ў Чырвоную армію.
4. Аналіз сяўбовага матар'ялу 3-х колгасаў у колькасьці 19 узораў і прынятыя ў выніку аналізу меры.
5. Популярызацыя вынікаў краязнаўчай работы і організацыя краязнаўчых ячэек пры школах.

## Ударнікі нашай ячэйкі

Асноўную работу краязнаўчая ячэйка магла разгарнуць дзякуючы зацікаўленасьці ў ёй ня толькі членаў ячэйкі, але дырэкцыі, партыйных і грамадзкіх організацый тэхнікуму. З боку дырэкцыі і профкому аказвалася ня толькі моральная, але і матар'яльная дапамога ячэйцы. Трэба адзначыць і лепшых працаўнікоў-ударнікаў ячэйкі, якімі зьяўляюцца наступныя таварышы:

1. Сакалова Н. і Паўлянок А. Былыя студэнткі III курсу, комсамолкі, добра выконвалі розныя даручэньні ячэйкі, асабліва выявілі сябе па зборы насеньня для колекцыі краязнаўчага музэю, досьледах з кветкамі і гароднымі расьлінамі, рабоце ў жывым кутку і інш.
2. Афанасьева В. Студэнтка III курсу—досьледы з кветкамі, гароднымі расьлінамі, збор і колекцыянаваньне насеньня, работа ў жывым кутку і інш.
3. Шырынскі І. П. Настаўнік прыродазнаўства—лекавыя расьліны, сухалюбы, колекцыі шасьціножак, аналіз піцьцёвай вады г. Рэчыцы.
4. Рубцоў Е. І. Настаўнік прыродазнаўства рабфаку—фэнолёгічныя назіраньні, організацыя краязнаўчай ячэйкі пры ФЗС і рабфаку.
5. Каратай. Курсант гадавых курсаў—мэтэоролёгічныя нагляданьні.
6. Янковіч. Курсант шасьцімесячных пэдкурсаў—догляд за дасьледчым участкам, жывы куток, мэтэоролёгічныя нагляданьні.

І цэлы рад іншых членаў ячэйкі, работа якіх, ня будучы вялікай, узмацняла ячэйку.

## Перашкода ў рабоце ячэйкі

Побач з дасягненьнямі ячэйкі ў рабоце яе меўся і цэлы рад перашкод. Да іх мы павінны аднесьці:

1. Цякучасьць складу ячэйкі (выпуск III курсу, гадавых і шасьцімесячных курсаў, пераводы настаўнікаў і г. д.).

2. Адсутнасьць спэцыяльнага памяшканьня для краязнаўчага музэю, бібліотэкі і правядзеньня заняткаў.

3. Адсутнасьць матар'яльнай базы.

4. Адсутнасьць інструктажу ячэйкі з боку Райбюро краязнаўства, паколькі яно ня існуе і сувязі з мясцовымі савецкімі грамадзкімі і інш. організацыямі.

5. Недаацэнка краязнаўчай работы з боку некаторых раённых організацый і паасобных таварышоў.

Аднак, некаторыя з гэтых перашкод не зьяўляюцца непераможнымі і ячэйка спадзяецца ліквідаваць іх. Прыклады гэтаму ўжо маюцца. У пачатку організацыі перашкод было яшчэ больш, але значная частка іх ужо ліквідавана. Пачатак ужо зроблены, аснова заложана і працаваць цяпер будзе лягчэй. Чым наша работа будзе карысьней для социялістычнай перабудовы раёну, тым лягчэй будуць пераможаны ўсе перашкоды. Мэтай-жа ячэйкі якраз і зьяўляецца дапамога пабудове социялізму.

---

## Сьпіс расьлін дасьледчага ўчастку

I. Збожжавыя палявыя расьліны.

1. Пшаніца яравая (два сарты)
2. „ азімая (4)
3. Проса (3)
4. Авёс (3)
5. Ячмень (2)
6. Жыта (1)
7. Грэчка (1)

II. Кармовыя і сілосныя:

1. Кіяхі (8)
2. Сіланечнік (1)
3. Бручка (1)
4. Буракі кар. (1)
5. Морква кар. (1)
6. Турнэпс (1)
7. Бульба (2)
8. Канюшына (3)
9. Віка (1)
10. Сэрадэля (1)
11. Сарго (3)
11. Лясны гарошак (1)
13. Рутвіца звычайная (1)
14. Ежа зборная (1)
15. Мятлік лугавы (1)
16. Райграс францускі (1)
17. Лісахвост (1)
18. Цімафейка (1)
19. Мятліца белая (1)
20. Мурожніца лугавая (1)
21. Каласоўнік бязвосьцевы (1)
22. „ палявы (1)
23. Амарантус (2)

III. Тэхнічныя расьліны.

1. Цукровыя буракі (1)
2. Бавоўнік (?) (1)
3. Гарчыца белая (1)
4. Мак (3)
5. Лён (2)
6. Каноплі (1)
7. Цыкорыя (1)
8. Соя (7)
9. Махорка (2)
10. Крапіва (1)
11. Тыквенная для мачалак (назву ня ведаем) (1)

IV. Лекавыя расьліны

1. Дурнап'ян (1)
2. Блёкат (1)
3. Мацярдушка (1)
4. Мальва (1)
5. Вадзяны перац (1)
6. Падтыньнік (1)
7. Дзьмухавец (1)
8. Сьвятаяньнік (1)
9. Мыльнік (1)
10. Сертадэзьнік (1)
11. Папараць (1)
12. Валяр'янка (1)
13. Мята (1)
14. Наперстаўка (1)
15. Рамонак (1)
16. Піжма (1)
17. Палын (1)
18. Баркун лекавы (1)
19. Чабор (1)
20. Ландыш (2)
21. Клешчавіна (1)
22. Каляндра (1)
23. Чарнушка (1)
24. Чарніца (1)

V. Гародныя расьліны.

1. Гуркі (4)
2. Гарбузы (4)

3. Кавуны (1)
4. Капуста (4)
5. Кольрабі (1)
6. Бручка (1)
7. Рэдзька (2)
8. Радыска (2)
9. Буракі стал. (1)
10. Морква карац. (1)
11. Р э п а (1)
12. Памідоры (4)
13. Цыбуля (2)
14. Часнок (1)
15. Пятрушка (1)
16. Шчаўе (1)
17. Кроп (1)
18. Перац (2)
19. Пастарнак (1)

VI. Зярновыя бабы.

1. Фасоля (34)
2. Гарох (8)
3. Боб (7)

VII. Ягадныя расьліны

1. Маліна (1)
2. Парэчкі (1)
3. Аграст (1)
4. Клубніка (1)
5. Лясная суніца (1)

VIII. Кветкавыя расьліны

1. Астры (3)
2. Табака (3)
3. Лянок (17)
4. Партулака (16)
5. Бальзаміны (4)
6. Іскаркі (4)
7. Петунія (3)
8. Касач (2)
9. Ворлікі (1)
10. М а к
11. Кручаныя панічы
12. Павоі (1) і (2)
13. Фасоля (2)
14. Красавіца ў зелені (1)
15. Мірабей (1)
16. Рамонак (1)
17. Леўкой (1)
18. Меціон (1)
19. Пятушыныя грабяшкі (2)
20. З невядомай назвай (4)
21. Шалфей (1)
22. Расьліны сухалюбы (5)

## ТАБЛІЦА-ЗВОДКА ДОСЬЛЕДАЎ З СОЯЙ

| №№ п/ч. | Назва сорту | Час пасеву | Плошча ў мт² | Колькасьць высеву ў гр | Час дасьпяваньня | Час уборкі | Пэрыод вэгетацыі ў днёх | Ураджай сырой масы ў гр | Ураджай насеньня ў гр | Вышыня сьцябла ў см | Вышыня да разгалінаваньня ў см | Вышыня да ніш. стручкоў ў см | Кольк. гал. на 1 расьл. | Колькі стручкоў на 1 расьліну | | | | | Вага 1000 зерняў | Ураджай сам | Ураджай з га ў кг | Урадж. з га пудоў | Ураджай сырой масы з гектара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | 1-зёрн. | 2-х зёрн. | 3-х зёрн. | 4-х зёрн. | Усяго | | | | | |
| 1 | Соя Рэчыцкага пэдтэхн. . . . . | 7/V | 0,5 | 0,9 | 17/IX | 17/IX | 132 | 555 | 107 | 137,2 | 5 | 10 | 9,5 | 72 | 109 | 49 | — | 230 | 94,2 | 119 | 2140 | 133 | 111 г. |
| 2 | Соя Крушуля . . | 7/V | 2,5 | 9 | 20/VIII | 6/IX | 105 | 1376 | 493 | 75,5 | 8 | 14 | 4,5 | 16 | 23 | 27 | 12 | 78 | 168 г. | 54 | 1966 | 122 | 55 |
| 3 | „ амурск. чорная | 7/V | 2,5 | 9 | 2/IX | 6/IX | 107 | 1808 | 649 | 142,1 | 6 | 18 | 6,2 | 17 | 49 | 59 | 2 | 127 | 127 | 72 | 2596 | 162 | 112,3 |
| 4 | „ „ бурая . | 7/V | 2,5 | 9 | 6/IX | 6/IX | 121 | 2105 | 300 | 147,6 | 6,5 | 13,5 | 4,3 | 10 | 36 | 22 | 1 | 69 | 107,6 | 33 | 1200 | 75 | 84,2 |
| 5 | „ „ жоўтая | 7/V | 2,5 | 9 | 4/IX | 6/IX | 119 | 3118 | 651 | 136,4 | 10 | 14,5 | 5,5 | 17 | 52 | 39 | — | 108 | 126,4 | 72 | 2604 | 163 | 124,7 |
| 6 | „ харбінская . . | 7/V | 2,5 | 9 | 10/IX | 17/IX | 125 | 3083 | 682 | 127,6 | 14 | 22,5 | 6,6 | 8 | 31 | 26 | — | 65 | 159 | 75 | 2728 | 170 | 123,3 |
| 7 | „ Крушуля . . | 22/V | 2,5 | 10 | 31/VIII | 6/IX | 101 | 1978 | 560 | 90,9 | 8,5 | 18,5 | 5 | 28 | 23 | 28 | 14 | 93 | 168 | 156 | 2240 | 140 | 79,1 |
| 8 | „ амурск. чорная | 22/V | 2,5 | 10 | 5/IX | 6/IX | 105 | 2206 | 844 | 131,7 | 5,5 | 12 | 4,8 | 42 | 57 | 38 | 3 | 140 | 123,8 | 84 | 3376 | 211 | 88,2 |
| 9 | „ „ бурая . | 22/V | 2,5 | 10 | 9/IX | 9/IX | 110 | 1985 | 332 | 155,7 | 10,5 | 15 | 4,2 | 17 | 52 | 19 | — | 88 | 109,2 | 33 | 1328 | 83 | 79,4 |
| 10 | „ „ жоўтая | 22/V | 2,5 | 10 | 8/IX | 9/IX | 108 | 2518 | 540 | 116,5 | 7 | 11,5 | 4,5 | 23 | 51 | 30 | — | 104 | 115 | 54 | 2160 | 135 | 100,7 |
| 11 | „ харбінская. . | 22/V | 2,5 | 10 | 15/XI | 15/IX | 115 | 2148 | 460 | 100 | 13 | 18 | 5,4 | 14 | 40 | 22 | — | 76 | 143 | 46 | 1840 | 115 | 85,9 |
| 12 | „ з савгасу . . | 7/VI | 7 | 25 | 2/X | 2/X | 116 | — | — | 96—119 | 2,5—16 | 10—24 | 8 | 44 | 97 | 33 | 1 | 175 | — | ? | ? | — | — |

Г. Кернажыцкі

# Культура цукровых буракоў на Тураўшчыне

Шпаркі рост соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны ў першай 5-годцы і пастаўленыя партыяй і ўрадам перад рабочай клясай і ўсімі працоўнымі масамі грандыёзныя задачы па пабудове бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ў 2-й пяцігодцы патрабуюць ад навукова-дасьледчых устаноў, краязнаўчых організацый, культурных сіл і ўсіх працоўных найбольш хуткага і дэталёвага вывучэньня ўсіх тых прыродных багацьцяў, якія маюцца ў нашай краіне і якія могуць быць сыравіннай базай для варштатаў 2-й пяцігодкі, а таксама вывучэньня прадпрыемстваў, колгасаў, савгасаў і асобных расьлін, якія найбольш рэнтабельны і магчымы к разьвядзеньню ў тым ці іншым раёне, рэспубліцы і якія дадуць найбольшы прыбытак пры разьвіцьці соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Забесьпячэньне працоўнага насельніцтва нашай краіны прадметамі харчаваньня больш чым у 2-3 разы супроць канца першай пяцігодкі—адна з асноўных задач другой пяцігодкі. Пагэтаму вывучэньне расьлін і культур, якія могуць быць скарыстаны на палепшаньне харчаваньня, мае асабліва важнае значэньне.

Тураўскі раён па сваім прыродным і глебавым умовам, па спэцыялізацыі зьяўляецца жывёлагадоўчым раёнам і рэконструкцыя сельскае гаспадаркі ідзе па лініі разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, але-ж глеба паўночнай часткі раёну (цяжкі суглінак са значным процантам мулаватых частак), а таксама наяўнасьць пакладаў торфу, гліны і вялікая плошча лясоў раёну—даюць магчымасьць пасьпяхова разьвіць і дапаможныя віды сельскай гаспадаркі. Адным з такіх відаў зьяўляецца разьвіцьцё *цукровых буракоў*.

Гэтая культура ў умовах БССР зьяўляецца надта каштоўнай, бо да гэтага часу на тэрыторыі БССР няма ніводнага цукровага заводу і дакладных дасьледаў і вывучэньня магчымасьці і ўмоў разьвядзеньня гэтай культуры і на колькі яна будзе рэнтабельна—не праводзілася, між тым па кліматычным умовам культура цукровых буракоў можа разьвівацца ў некаторых паўднёвых раёнах БССР (Хойнікі, Брагін і інш.) у тым ліку і на Тураўшчыне.

Праведзеныя ў Тураўскім раёне дасьледы разьвядзеньня цукровых буракоў на працягу з 1925 г. па 1932 год даводзяць, што гэтая культура надта прыбытковая і ў поўнай меры можа

разьводзіцца ў нашым раёне ў шырокім маштабе як па кліматычным, так і па глебавым умовам.

Гісторыя разьвіцьця цукровых буракоў на Тураўшчыне такая:

Да 1925 г. ніхто ў раёне ня меў паняцьця аб цукровых бураках. У 1925 г. грамадзянін вёскі Старажоўцы Леўкавец Сямён засеяў на гародзе некалькі градак цукровымі буракамі, здабыўшы насеньне на Украіне. Ураджай быў сярэдні, але на іх ніхто не зьвярнуў увагі і грамадзянін скарыстаў буракі на свае ўласныя патрэбы. Закладзеныя доследы па разьвядзеньню гэтых буракоў у 1926 і 27 годзе не далі рэальных вынікаў, бо яны не дасьпелі, а былі страўлены з прычыны безгаспадарчага догляду. У 1928 г. буракі ня былі засеяны.

У 1928 г. у самым мястэчку Тураве аграномам Загорным быў закладзены досьледны ўчастак цукровых буракоў плошчаю ў 0,1 га на цяжка-глiністай глебе. Агуловы ўраджай даў 3,2 цэнтнэра буракоў (ураджай лічыўся сярэднім), што дасьць з аднаго га 32 тоны, або 1920 пудоў.

У 1930 г. тым-жа аграномам былі закладзены ўжо 2 досьледных участкі і на 2-х відах глеб: на суглінку 0,1 га, і на супеску 0,1 га. Пасеў зроблены 29 мая не ў гародзе, а проста на полі на пшанічышчы і льнішчы. Пры належным доглядзе агуловы збор ураджаю цукровых буракоў даў такія вынікі: з участку на суглінку 4,8 цэнтнэраў (высокі ўраджай), што з 1-го га дае 48 тон, а з другога ўчастку 2,1 цэнтн. (супесак), альбо з 1-го га 21 тону (ураджай звычайны).

У 1931 г. гэтае пытаньне было завострана ва ўвесь рост і па пляну было вызначана засеяць у колгасах 20 га цукровых буракоў. У пачатку году Райкоопсаюзам праз Белсадгародніну з Украіны была завезена патрэбная колькасьць насеньня. Аднак, дзякуючы недастатковай увазе, адданай гэтаму пытаньню з боку некаторых колгасаў, плян поўнасьцью ня быў выкананы і заместа 20 га засеяна толькі 12 га. Ураджай у сярэднім атрымаўся ад 20 да 30-ці тон з га і выразіўся орыентыровачна ў 300 тонах. Гэтыя буракі пайшлі часткова на харчаваньне жывёлы, а часткова на патрэбы саміх колгасьнікаў, прычым у некаторых колгасах і вёсках (Любавічы) гэтыя буракі церлі і выціскалі з іх сок, з якога атрымліваўся мэляс, які замяняў цукар.

Досьледы паказалі, што найлепш растуць цукровыя буракі пасьля азімай пшаніцы і льну. У паўночнай частцы раёну па 6-ці с/саветам налічваецца ў гэтым годзе пад азімай пшаніцай 1234 га, пад лёнам 461,5 га і пад караньплодамі 106,5 га, а разам 1802 га. Такім чынам цукровыя буракі можна засяваць на плошчы да 2000 га, але ў даным выпадку былі-б выцесьнены іншыя культуры, што адбілася-б на забесьпячэньні раёну, як жывёлагадоўчага кармовай базай.

Побач з даволі высокім выхадам агуловага ўраджаю цукровых буракоў—вялікае значэньне і цікавасьць прадстаўляе цукровасьць буракоў.

Па зробленым досьледам і аналізе процант цукрарозы ў бураках надта высокі, перавышае нават украінскія буракі і раў-

няецца цукровасьці дацкіх буракоў, напрыклад: у 1929 г. па аналізу, зробленаму ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску, процант цукровасьці быў 16,5. Па аналізу, зробленаму ў 1930 г. на Кіеўскім Цукрова-рафінадным заводзе, аказалася, што з 100 кг буракоў вышла 16 кг цукру, што складае 16% цукровасьці.

У 1931 г. 2 скрыні цукровых буракоў былі накіраваны для досьледаў на Дасьледчую станцыю зярновых культур каля Менску, але вынікаў не атрымана і да гэтага часу. Такім чынам, калі прыняць пад увагу вялікі процант цукровасьці, высокую якасьць цукровых буракоў, то Тураўскі раён мае шырокія пэрспэктывы для разьвіцьця гэтае культуры, паколькі гэтая культура зьяўляецца найбольш даходнай.

Далейшае разьвіцьцё цукровых буракоў будзе залежаць ад спэцыялізацыі раёну і ў даным выпадку магчыма ўжыць два варыянты. 1-шы варыянт: пры наяўнасьці спэцыялізацыі разьвіцьця жывёлагадоўлі можна бяз страт для гэтай асноўнай галіны сельскай гаспадаркі штогодна засяваць 100 га цукровых буракоў. Пры сярэднім ураджаі ў 25 тон з гектара, пры цукровасьці ў 16,5% і пры апрацоўцы буракоў на цукровым заводзе атрымаецца выхад цукру: 25 тон, 100 га—2.500 тон. З агульнага проценту цукровасьці 16,5% выходзіць 13,5% белага цукру, 1% жоўтага цукру і 2% патакі. Такім чынам ,агуловы выхад цукру выразіцца: белага цукру 240,5 тоны, жоўтага цукру 25 тон і патакі 50 тон.

Па другому-ж варыянту пры ўмове зьмены спэцыялізацыі раёну і наданьня прамысловага ўхілу з засевам большай плошчы цукровых буракоў ёсьць поўная магчымасьць пашырыць плошчу пад цукровымі буракамі да 2.000 га.

Пры сярэднім ураджаі ў 25 тон з гектара і цукровасьці ў 16,5% агуловы выхад цукру, пры пераапрацоўцы буракоў на цукровым заводзе выразіцца: белага цукру 6.750 тон, жоўтага цукру 500 тон і патакі 1.000 тон.

Гэтыя лічбы яскрава сьведчаць, якую карысьць дало-б дзяржаве разьвядзеньне цукровых буракоў на Тураўшчыне. Найбольш спрыяючыя ўмовы разьвіцьця цукровых буракоў маюцца ў наступных колгасах і вёсках: Любавічах, Рычове, Рыдчэ, Хачэні, Верасьніцы, Буразі, Тураве, Старажоўцах і інш.

Ня гледзячы на такія шырокія пэрспэктывы разьвіцьця цукровых буракоў у раёне—мы сустракаемся з некаторымі цяжкасьцямі па рэалізацыі гэтай продукцыі, бо цукровыя заводы ад раёнаў знаходзяцца надта далёка (на Украіне і ў іншых абласьцёх), шляхі зносін ня зусім спрыяючыя (раён знаходзіцца ад ст. чыгункі на адлегласьці 28 клм), хаця па рацэ Прыпяці восеньню і выгодна было-б сплавам даставіць гэтыя буракі на Кіеўскі цукрова-рафінадны завод. Па-другое, попыт на гэтыя буракі ў раёне невялікі. Хаця-ж гэтыя буракі надта пажыўныя, але-ж і скарыстоўваць іх на корм жывёлы ня зусім мэтазгодна. Выходзячы з такога становішча ў гэтым 1932 г. проблема разьвіцьця

цукровых буракоў у раёне знаходзіцца ў поўным заняпадзе, бо з боку гаспадарчых і колгасна-коопэрацыйных організацый ня зьвернута належная ўвага і цукровыя буракі засеяны толькі ў 2-3 колгасах і то не для прамысловых мэт, а для сваёй патрэбы.

Разьвіцьцё гэтай даволі каштоўнай культуры ў далейшым патрабуе дадатковага вывучэньня і досьледаў і будзе залежыць ад таго, які будзе захаваны ўхіл раёну ў другой пяцігодцы і якія будуць наконт гэтага даны дырэктывы цэнтру.

---

# Перадавікі на краязнаўчым фронце

Пастановай СНК БССР ад 1/VI-32 г. „пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху“ адзначана вялізарнейшае значэньне краязнаўчай работы ў вырашэньні задач 2-й пяцігодкі і паскарэньні тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Некаторыя краязнаўчыя ячэйкі і паасобныя краяведы, выконваючы дырэктывы партыі і пастановы ўрадавых органаў, перабудавалі сваю работу і дабіліся значных посьпехаў па разгортваньню дасьледчай работы, маючай практычнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦБК к XV гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі пастанавіла адзначыць і прэм'яваць наступныя краязнаўчыя ячэйкі і асобных краяведаў, якія найбольш праявілі сябе ў краязнаўчай рабоце:

Краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме. Ячэйка пад кіраўніцтвам тав. Кузьмянкова П. Н. праводзіла сыстэматычна досьледы над культурай розных гатункаў соі, клешчавіны, сарго, вывучала дзікарослыя, лекавыя, сілосныя расьліны і дабілася пэўных вынікаў. Ячэйка прымала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні вясновай сяўбы і іншых гаспадарча-палітычных кампаніях. На раённай выстаўцы ячэйка атрымала ганаровы дыплём. Сваім удзелам на раённай выстаўцы б/г, праз мясцовы друк і інш. ячэйка папулярызавала сваю работу сярод шырокіх працоўных мас[1]. Ячэйка трымае цесную сувязь з мясцовымі ўстановамі і організацыямі.

П. Н. Кузьмянкоў—кіраўнік краязнаўчай ячэйкі пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме, выкладчык пэдтэхнікуму, актыўны краявед; ён організаваў і кіруе дасьледчай работай ячэйкі, прымаючы актыўнейшы ўдзел у гэтай рабоце; папулярызуе савецкае краязнаўства ў раёне; правёў вывучэньне колгасу імя Сталіна і даў яго апісаньне; ударнік-краявед.

Сярод членаў краязнаўчай ячэйкі выявілі сябе як лепшыя краяведы-ўдарнікі: настаўнік Рубцоў і студэнты—Сакалова Н., Паўлянок А., Афанасьева В., Каратай і Янковіч.

Б. Ю. Руткоўскі—краявед, выкладчык Рагачэўскага пэдтэхнікуму, кіраўнік краязнаўчай ячэйкі пры Рагачэўскім пэдтэхнікуме. На працягу 10 год праводзіць сыстэматычную дасьледчую работу па вырашчваньню вінаграду ў г. Рагачэве і дабіўся сталых вынікаў, вырасьціўшы 6 гатункаў вінаграду: шасьля белы, шасьля ружовы, дыямэнт, траўбэ, лідзія, мускат жоўты і мадэлен-

[1] Больш падрабязныя весткі аб рабоце ячэйкі падаюцца ў артыкуле т. Кузьмянкова ў гэтым нумары.

анжэвін (гл. артыкулы ў газэце „Савецкая Беларусь“ № 209, 1932 г. „Чырвоная Зьмена“ № 200, 1932 г.), у дасьледчую работу ўцягнуў студэнтаў—членаў краязнаўчай ячэйкі.

Ц. Славін — загадчык Бабруйскага краязнаўчага музэю. Пад кіраўніцтвам і пры актыўнай дапамозе раённых устаноў і арганізацый наладзіў шырокую работу раённага краязнаўчага музэю. Бабруйскі музэй зьяўляецца лепшым краязнаўчым музэем у БССР. Наладжана цесная сувязь з фабрыкамі і заводамі. Музэй прымае актыўны ўдзел у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній і зьяўляецца магутным сродкам політэхнізацыі школы.

П. Ф. Салаўёў, проф.; актыўны краявед; праводзіць стала сыстэматычныя фэнолёгічныя нагляданьні, якія акуратна дасылае ЦБК, папулярызуе савецкае краязнаўства сярод студэнтаў і навуковых работнікаў Горацкага сельска-гаспадарчага інстытуту; актыўны корэспондэнт часопісу „Савецкая Краіна“.

М. Е. Бруй, актыўны краявед, настаўнік Тураўскай ШКМ; старшыня Тураўскага раённага бюро краязнаўства—даў апісаньне Тураўскага раёну (зьмешчана ў № 1 часопісу „Савецкая Краіна“ і выдана асобнай брошурай); актыўны арганізатар краязнаўчага музэю ў Тураве; сабраў падпіску на 35 экз. часопісу „Савецкая Краіна“; напісаў рад артыкулаў у раённую газэту „Чырвоная Тураўшына“ па пытаньням краязнаўчага руху і прыводзіць папулярызацыю савецкага краязнаўства.

А. Г. Немцаў—актыўны краявед, настаўнік Асіпавіцкай ШКМ, кіраўнік школьнай краязнаўчай ячэйкі. Краязнаўчая ячэйка пад яго кіраўніцтвам вывучае прыроду свайго раёну. У 1932 годзе тав. Немцавым пры ўдзеле ячэйкі праведзена значная работа па вывучэньню мінэральных фарб, глін і некаторых будаўнічых матар'ялаў у раёне. Як настаўнік краявед, тав. Немцаў выкарыстоўвае краязнаўчы матар'ял у мэтах політэхнічнай адукацыі вучняў.

Гэтых перадавікоў у краязнаўчай рабоце ЦБК пастанавіла прэм'яваць краязнаўчымі бібліотэчкамі і асобнымі выданьнямі Акадэміі Навук БССР і ЦБК.

Краязнаўчая работа з кожным днём набывае ўсё большае і большае значэньне, але яна далёка яшчэ не на вышыні тых задач, якія стаяць перад краязнаўчымі організацыямі БССР. Трэба, каб у бліжэйшым часе ўсе краязнаўчыя організацыі па-ўдарнаму разгарнулі дасьледчую работу, якая так патрэбна для соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦБК

# Краязнаўчая бібліографія

(працяг) *)

### 6. Савецкі гандаль. Нарыхтоўкі. Контрактацыі.

300. Бэнэк К. Нарыхтоўкі 1931-1932 г. г. — *Бальш. Бел.* 932, № 6, с. 12-23.

301. Бэнэк К. Загатоўкі 1931—1932 г. г. і далейшыя мерапрыемствы — *Соц. Будаўніцтва,* 932, № 1-2, ст. 56-66.

302. Бабчонак П. За нарыхтоўку другарадных відаў сыравіны — *Паляўн. Бел.* 932, № 3, с. 7.

303. Багун М. Заваёваны рынак (нарыс) [рынак у Менску] — *Чырв. Бел.* 932, № 13, с. 10-12.

304. Верба І. і Адлярштэйн В. Аб разгортваньні савецкага гандлю ў БССР — *Соц. Будаўніцтва,* 932, № 1-2, с. 79-89.

305. Ляўша Т. Інструкцыя па контрактацыі ільну і канапель ураджаю 1932 г. М-к, 932, ДВБ, 28 ст.

306. Мікалаеў. Узьняць тэмпы загатоўкі крата і грызуноў — *Паляўн. Бел.* 932, № 2, с. 17-18.

307. Пастанова ўпаўнаважнага Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю СССР пры СНК БССР ад 4/IV-32 г. пра організацыю загатовак веснавых відаў пушмехсыравіны—*Паляўн. Бел.* 932, № 4, ст. 1 і 25.

308. Постановление НКснаба СССР от 27 декабря 1931 г. об основных заготовителях утильсырья во всех Союзных Республиках: Белутиль в БССР. — *Утильное дело,* 932, № 1, с 22-23.

309. Разгарнуць савецкі гандаль— неадкладна палепшыць рабочае забясьпечаньне. — *Бальш. Бел.,* 932, № 7-8, с. 3-16.

310. Рэзалюцыя VII-га Ўсебеларускага зьезду профсаюзаў аб разгортваньні савецкага гандлю і аб палепшаньні рабочага снабжэньня (*Проект*) [М-к], 932, 7 ст.

### 7. Фінансы.

311. Брандабоўскі С. І Ўсебеларускі зьлёт ударнікаў фінансавага фронту (5-7 сьнежаня 1931 г.) —Злажыў С. Брандабоўскі.—М-к, ДВБ. 932, 107 с.—40 кап. (НКФ БССР. Сэктар масавай работы і мобілізацыі сродкаў).

312. Інструкцыя пра парадак правядзеньня абавязковага акладнога страхаваньня ў сельскіх мясцовасьцях і гарадок БССР на 1933 г. М-к, 932, Выд. НКФ БССР, 32 ст. (Народны Кам. Фін. БССР.).

313. Кудзінаў С. Новы закон аб с/г. падатку на 1933 год. Організацыйнагаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і разгортаваньне колгаснага гандлю. — М-к, ДВБ, 932, 46 ст. — 20 кап.

314. Либман С. Сельский бюджет в БССР.—*Власть Советов*—932 с. 16-17.

315. Ляхаў В. А. Сельгаспадатак — магутная зброя рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і разгортваньне савецкага гандлю. — *Бальш. Бел.* 932. № 7-8, ст. 57-63.

316. На аванпостах финансового фронта. — *Индустриальный Швейник* — 932, № 5, ст. 17. Аб выкананьні пляну па ўкладах у ашчадкасу і інш. перамогах на фінансавым фронце на швэйнай фабрыцы „Прафінтэрн", Віцебск.

317. Сельска-гаспадарчы падатак на 1932 г. 1. Інструкцыя НКФ БССР за 16 мая 1932 г. па ажыцьцяўленьню палажэньня пра сельгаспадатак за 4 мая 1932 г. і пастановы ЦВК і СНК БССР за 14 мая 1932 г. 2. Правілы і парадак правядзеньня вучоту об'ектаў абкладаньня сельгаспадаткам і страхаваньня і налічэньня падатку. — М-к, НКФ БССР. 932, 89 стар.

318. Хацкевіч А. І. За бальшавіцкае выкананьне і перавыкананьне фінпляну чацьвертага, заключнага. (Апрацаваная стэнограма ўступнай прамовы тав. Хацкевіча на ўсебеларускім зьлёце ўдарніц фінансавага фронту — 1 красавіка 1932 г.) — *Соц. Буд.,* 932, № 3-4, стар. 73-80.

319. Хацкевіч А. Выполнить финплан 1932 г. Белоруссии. — *Власть Советов,* 932, № 13, ст. 17-19.

320. Хацкевіч А. Фінансавы плян і бюджэт БССР на 1932 г. (Задачы мобілізацыі сродкаў насельніцтва), М-к., 932, ДВБ., 67 ст. — 35 кап.

---

*) Гл. Савецкая Краіна №№ 7, 8 і 9.

### 8. Транспорт. Сувязь.

321. Рогатинский Г. На холостом ходу. О Белорусском телеграфном агентстве (Белта). — *За темпы, качество в информации.* 932, № 1, ст. 14.

322. Чарнушэвіч А. Аб рэканструкцыі транспорту і задачах культпрапработы. — М-к.,ДВБ., 932, 45 ст. —10 кап.

### 9. Вынаходніцтва. Рацыяналізацыя. Тэхнічная пропаганда.

323. Асятроў Ю. Віцебскія прадпрыемствы аўладаюць тэхвучобай. — *Тэхн. ў масы*, 932, № 2, ст. 39.

324. Гольман Б. Рацыяналізатар (завод „Комунар") [нарыс]—*Чырв. Бел.* 932, № 9, ст. 13-14.

325. Да ўсіх рабочых вынаходцаў і рацыяналізатараў. (Аб сумеснай працы з ЦБК). — *Сав. Краіна*—932 г., № 1, ст. 97. Хроніка.

326. Мінковіч. Рацыяналізатарскія прапановы аб скарыстаньні лясных адкідаў. — *Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 60-64.

327. Палажэньне аб органах вынаходніцтва і рацыяналізацыі ў колгаснай сыстэме. (М-к, 932), ст. 12.

328. Плоткин Г. Ошибка исправлена. Гомельский „Пролетарий" по боевому взялся за выполнение указания т. Сталина об овладении техникой.—*За советскую машину* — 932, № 7, ст. 17-18.

329. Саградиан И. Стандартизация в БССР. — *Вестник Стандартизации* — № 1, 1932 г., ст. 47-48.

330. Самцэвіч В. Задачы краязнаўчых організацый ў барацьбе за аўладаньне тэхнікай.—*Сав. Краіна*—932, № 3, ст. 7-11.

331. Узьдзін і Курноў. Дубінін—герой рацыяналізацыі (Швэйнае фаб-ка „Профінтэрн"). — *Тэхн. ў масы* — 932, № 2, ст. 38.

332. Чигринов. Наши вклады.—*Коммунальный работник* — 932, № 7, ст. 9. Нататка аб выніках рацыяналізатарскай працы Менскага Трампарку.

333. Шапіра Л. Вынаходцы бальшавіцкіх тэмпаў [нарыс] (2-гі гарнізонны зьлёт вынаходцаў чырв. арміі ў Менску) — *Чырв. Бел.* — 932 , № 4, ст. 6-7.

334. Шохор М. Техпропаганда на ряде предприятий Западной области и Белоруссии. — *Коммунистическая революция* — 932, № 11-12, ст. 63-68.

335. Эрэнка Р. Дзесяць каштоўных прапаноў-удасканаленьняў цэм-керамікаў БССР. — *Тэхн. ў масы* — 932, № 2, ст. 28-29.

### 10. Праца. Профсаюзы. Соц. мэтоды працы. Кадры.

336. Бараноўская. Дабіцца пералому ў масавай працы сярод жанчын Асьвейшчыны. — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 5, ст. 10.

337. Встретим во всеоружии строительство последнего завершающего года пятилетки. — *Искусственное волокно* — 932, № 1, ст. 38. Рэзалюцыя сходу І.Т.Р. і служачых Магілеўскага Валакнабуду.

338. Галаўнёў І. А. і Нікано-раў Ф. У. Выгадны гаспадарчы разьлік у прамысловасьці БССР. — М-к., ДВБ. 932, ст. 90 — 75 кап.

339. Гарадзкому камітэту партыі і праўленьню Гаржылсаюзу [Рапарты работніц і хатніх гаспадынь г. Магілева].—*Раб. і калг. Бел.* — 932, № 9, ст. 14.

340. Дзейнасьць Народнага Камісарыяту Працы БССР (Матар'ялы да справаздачы на VII зьезьдзе профсаюзаў БССР). М-к., 932, ст. 86 (Народны Камісарыят Працы БССР).

341. И—В. Ошибки 1931 г. исправим в 1932 г. (Швейная ф-ка „Пролетарий", Витебск). — *Индустриальный Швейник* — 932, № 2, ст. 16. Аб выніках праверкі выкананьня колумовы.

342. Іванова. Больш увагі кваліфікацыі работніц (Гомель) („Палесдрук") — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 4, ст. 14.

343. Каждан. Работніцы — актыўныя барацьбіты за выкананьне пяцігодкі ў 4 гады. — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 7, ст. 4.

344. Капырын А. Узрасла актыўнасьць дэлегатак і калгасьніц Лёзьняшчыны. — *Раб і калг. Бел* —932, № 8, с. 17.

345. Кацнэльсон Р. Ствараем кадры (тэхнічныя). — *Тэхн. ў масы* — 932, № 1, ст. 40-42.

346. Крэйдзіч В. Як праводзіцца завочная падрыхтоўка сельскагаспадарчых кадраў. — *Шляхі калект.* 932, № 3, ст. 12-14.

347. Крэйдзіч В. За падрыхтоўку кадраў праз завочнае навучаньне.— *Шляхі калект.* — 932, № 2, ст. 10.

348. Кулькин Д. ИТР БССР реализует указания тов. Сталина — *Инженерный труд* — 932, № 16, ст. 403.

349. Лубан Л. На высоте задач. Станция Жлобин [Зап. ж. д. Итоги ударничества] М.—Л. 932, ст. 46.

350. Лявонны Юр. Ударніцы Камінтэрнаўскай С. Т. Ф. (нарыс).—*Раб. і калг. Бел.* — 932, № 14, ст. 14-15.

351. Малинин С. и Шмидт А. Соцсоревнование и ударничество в ценовой промышленности БССР по статистическим материалам Госплана. — *Вопросы Труда* — 932, № 2, ст. 89-98.

352. Мирский С. Постоянные кадры создаются лишь постоянной заботой о них. — *На трудовом фронте* —932, № 4, ст. 15. Нататка аб падрыхтоўцы кадраў на фабрыцы штучнага шоўку ў Магілеве.

353. Матэрыялы да справаздачы Цэнтральнага Савету Профсаюзаў БССР 7-му Ўсебеларускаму зьезду профсаюзаў. — М-к, 932, Выд. ЦСПСБ, ст. 182.

354. Нікanoраў і Біргер. Вышэйшая арганізацыя працы — цэнтральны рэзэрв падвышэньня вытворчасьці працы і выкананьня прамфінпляну. (Па матэрыялах ЦКК РСІ і ВСНГБ). — *Тэхн. ў масы* — 932, № 2, ст. 36-38.

355. Палажэньне аб арганізацыі працы ў колгасных і птушкаводных таварных фэрмах (М-к, 932), ст. 6.

356. Пастановы і рэзолюцыі ІІ Гомельскай гарадзкой конфэрэнцыі профсаюзаў. — Гомель, 932, ст. 28.

357. Постановление президиума ЦК Союза Швейников по докладу Белшвейоб'еденения об итогах работы за 1931 г. и мероприятиях на 1932 г. — *Индустриальный Швейник* — 932, № 11, ст. 16.

358. Праграма па вывучэньню работы і быту рабочых на лесаплаве. — *Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 71-73.

Работу профсаюзаў на ўзровень задач апошняга году пяцігодкі. — *Бальш. Бел.* — 932, № 3-4, ст. 7-19.

359. Работніцы Менску рапартуюць пленуму гаркому, прысьвечанаму міжнароднаму жаночаму комуністычнаму дню 8-га сакавіка. [Рапарты: ф-кі „Кастрычнік", ф-кі „8-га сакавіка", заводу „Комунар"]. *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 8, ст. 14-15.

360. Рапарт работніц заводу „Полымя Рэвалюцыі" пленуму Менскага Гаркому КП(б)Б, прысьвечанаму „8-га сакавіка" — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 9, ст. 15.

361. Расьце актыўнасьць работніц (Дэлегаткі VII зьезду профсаюзаў Беларусі расказваюць)... — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 10, ст. 3-4.

362. Рохлін З. І. Правы работнікаў асьветы. Зборнік дырэктыўных і ведамственных матэрыялаў, выданых да 1 сакавіка 1932 г. — М-к, 932, ДВБ, ст. 76 — 50 кап.

363. Рубинштейн М. Больше внимания кадрам и организации работы. — *За темпы, качество, проверку* — 932, № 2, ст. 32-5. Аб працы раённых КК-РСІ. Зьвесткі па БССР, Заходняй вобл. і ЗСФСР.

364. Рэзолюцыі VII Усебеларускага зьезду профсаюзаў. — М-к, 932, Выд. ЦСПСБ, ст. 31.

365. Рэзолюцыя Ўсебеларускага зьезду профсаюзаў па дакладу Нар. Кам. Працы БССР і Галоўнага Кіраўніцтва соц. страхаваньня БССР (праект). — М-к (932), ст. 9.

366. Рэзолюцыя IX зьезду працаўнікоў асьветы: 1) па справаздачнаму дакладу т. Эстрына і аб працы ЦК Саюзу працасьветы, 2) ЦП Саюзу працасьветы БССР. в) Наркамасьветы БССР. — *Кам. выхав.* — 932, № 1-2, ст. 87-100.

367. Территориальная разбивка СССР по группам для исчисления размеров и заработной платы медицинских работников. — *Медицинский работник* — 932, № 4, ст. 16-7. Весткі і па БССР.

368. Тэзісы аб рабоце Гомельскага Гарпрафсавету. (Гомель, 932), ст. 35.

369. Тэрман Ф. На канфэрэнцыі мэталістых Гомелю. — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 4. ст. 13.

370. Фішар Н. Аб становішчы арганізацыі працы ў колгасах БСРР (паводле матар'ялаў абсьледваньня 40 колгасаў БССР у 1931 г.). — М-к, 932, ст. 38. (Беларуская Акадэмія Навук. — Масавы сэктар і ЦБК) і ў час. — *Соц. Буд.* — 932, № 1-2, ст. 122-142.

371. Фрайман. Практыка жаночых вытворчых нарад у колгасах Чырвонай Слабады. — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 5, ст. 6.

372. Филимонов П. Усилить подготовку кадров в БССР. — *Власть Советов* — 932, № 2-3, ст. 44-5.

373. Чацьверты завяршаючы і Т.Р. цэм-керамікі. — *Керамік Бел.* — 932, № 1, ст. 8-9.

374. Штейман К. Л. Кожевники Белоруссии от VIII до IX с'езда. — *Голос Кожевника*, № 19, 932 г., ст. 4.

375. Шчуцкі С. Р. Праграма вывучэньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасах. — *Сав. Краіна* — 932, № 1, ст. 92-95.

## 11. Грамадзкія організацыі.

376. В—в. Выезд особоуполномоченных ЦК Мопр СССР в БССР. — *Спутник Мопровца* — 932, № 2, ст. 10.

377. Зарубежный. Леккертовцы работают по новому. — *Спутник Мопровца* — 932, № 1, ст. 25. Аб працы організацый Мопр у Віцебску і аб ячэйцы Мопр на Абутковай фабрыцы.

378. Уздин М. Избрать работоспособное Бюро. — *Спутник Мопровца* — 932, № 1, ст. 24. Нататка аб працы Мопраўскай організацыі на Віцебскай швэйнай фабрыцы „Профінтэрн".

379. Левин. Помогла Р.К.И. — *Спутник Мопровца* — 932, № 2, ст. 26-27. Аб праведзеным ЦК Мопр БССР дэкадніку праверкі інкасацыі і палепшаньні справы інкасацыі мопраўскіх сродкаў праз пошту.

380. Плоткин Г. Имя Ланцуцкого обязывает. — *Спутник Мопровца* — 932, № 1, ст. 29. Аб ліквідацыі прарыву па інтэрнацыянальнай працы на вагона-будаўнічым заводзе ў г. Гомелі.

381. Плоткин Г. За организационное укрепление колхозов. — *Спутник Мопровца* — 932. № 3, ст. 13. Аб мопраўскіх брыгадах заводу „Пролетары" (Гомель), арганізаваўшых лыжную вылазку ў падшэфныя сельсаветы.

382. Плоткин Г. Ослабление интернациональной работы развязывает руки классовому врагу. — *Международное рабочее движение* — 932, № 4, ст. 24. Нататка аб бязьдзейнічаньні Жлобінскай арганізацыі Мопр.

383. Плоткин Г. Финансовый прорыв должен быть ликвидирован.— *Спутник Мопровца* — 932, № 1, ст. 12. Нататка аб працы Гомельскай організацыі Мопр.

384. Рыженков и Сафронов. Включаемся в интерэстафету.— *Спутник Мопровца* — 932, № 2, ст. 21. 2 нататкі аб працы ячэек Мопру ў Бежыцы і Мазыры.

385. Шефство БССР над Биро-Биджаном. — *Совет. Строительство* — 932, № 6, ст. 148-149.

### 12. Комунальная гаспадарка. Быт.

386. А. К. Почему не проводится в жизнь? — *Коммунальный работник* — 932. № 11-12, ст. 8. Нататка аб няўважлівых адносінах адміністрацыі Белгалоўтранса да вынаходкі рабочага, які перабудаваў дыфэрэнцыял да машыны „Штэер".

387. Бездеятельность, безхозяйственность, головотяпство.—*Коммунальный Работник*—932, № 11-12, с. 17. Корэспондэнцыя аб становішчы ў Менскім Трампарку.

388. В боях за механизацию и моторизацию пожарной охраны. Автодоровец. Празднование трехлетия пожарного Бюро Ц.С. Автодора. — *Рабочий городского хозяйства* — 932, № 4, ст. 16-17. Ёсьць і аб БССР.

389. Гендлин Л. Я. Овладей пожарной техникой. — *Рабочий городского хозяйства* — 932, № 4, ст. 13. Нататка аб 3-рохмесячных пажарных тэхнічных курсах ў г. Віцебску.

390. Лежнев А. З. Деревянный ключ. [Очерки быта по Белоруссии]. М., „*Федерация*" — 932, 227 стр.

391. Моргунов. Казенное благополучие. — *Коммунальный работник*—932, № 4, ст. 5. Нататка аб недастатковых тэмпах гаспадарча - разьліковых брыгад Трампарку ў Менску.

392. Рабочий. Покончить с преступной расточительностью.—*Коммунальный работник* — 932, № 1, ст. 13. Нататка аб эканоміі апалу ў Менскім Трамвайным і Автобусным парках.

393. Руднев. Трамвайная сеть растет. [Минск]. — *Коммунальный работник* — 932, № 26-27, ст. 5.

### 13. Мэдыцына. Ахова здароўя.

394. Ахова здароўя тварам да вытворчасьці і ў барацьбе за правядзеньне санітарна-аздараўляючых мерапрыемстваў. М-к. Выд. НКАЗ БССР, 932, ст. 48.

395. Писемский П. Желудочно-кишечные инфекции в войсках Западного Фронта в период гражданской войны. (Опыт разработки архивных материалов ВСУ РККА). — *Военно-санитарное дело* — 932, № 1, ст. 38-46.

396. Санаторы Сасноўка. — *Чырв. Бел.* — 932, № 1, ст. 11.

397. Ярославский И. Е. Клинический обзор ото-ларингологических статей расписания болезней по приему на военную службу. (Из ушного от-ния Минского военного госпиталя и клиники болезней уха, горла и носа Белмед. ин-та). —*Журнал ушных, носовых и горловых болезней* — 931, № 11-12, ст. 762-5.

### 14. Культурнае будаўніцтва. (Навуковыя і навучальныя ўстановы, асьвета).

398. Аб культурным будаўніцтве БССР. Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б 26-28 сакавіка 1932 г. — М-к, 932, ДВБ., ст. 16, 10 кап. і ў час. *Ком. Вых.*, 932, № 3, ст. 12-22; *Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 1-16.

399. Асаўлян Н. Итоги развертывания сети партпросвещения в животноводческих р-нах БССР. — *Деревенский пропогандист* — 932, № 3, ст. 21-24.

400. Асноўныя прынцыпы пабудовы праграм для пачатковай і сярэдняй школы, паводле пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КПБ. — М-к, 932, ст. 8, 5 кап.

401. Белько С. А. Працоўныя жанчыны Менску ў барацьбе за суцэльную пісьменнасьць. — *Раб. і калг. Бел.*—932, № 13, ст. 10.

402. Брыгневіч. Вучоба працоўных жанчын. — *Раб. і калг. Бел.* — 932, № 7, ст. 14-15.

403. Вахаев М. Короткий підсумок діяльности Гомельского відділу центрального архівного управління БССР за 1931 рік. — *Архів радянскої України* — 932. № 3, ст. 89-91.

404. Горин. О декаде Комакадемии в Белоруссии. — *Вестник Коммун. Академии* — 932, № 1-2, ст. 106-110.

405. Дзяржаўная Бібліатэка Беларусі. — *Чырв. Бел.* — 932, № 2, ст. 12.

406. Декадник Комакадемии в Белоруссии (реферированная и сокращенная стенограмма). *Вестник Коммун. Академии* — 932, № 1-2, ст. 110-127.

407. Жаброўскі В. За бальшавіцкае ажыцьцяўленьне задач культурнай рэвалюцыі. (З стэнограмы-прамовы сакратара ЦК КП(б)Б тав. Жаброўскага на сакавіцкім пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б.—*Бальш. Бел.* — 932, № 7-8, ст. 17-28.

408. Зборнік дырэктыў па рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.—М-к, 932, ДВБ., ст. 50. 20 кап. (Народны Камісарыят Асьветы БССР, Дзяржаўны вучоны савет).

409. К—кі Р. БССР на парозе суцэльнай пісьменнасьці. — *Шляхі колект.* — 932, № 9, ст. 10-11.

410. Конференция в Минске.—Заочные курсы марксизма-ленинизма. М., 932, № 2 (22), ст. 51-55.

411. Кузьняцоў М. Аб становішчы і якасьці выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах. — *Ком. Вых.* — 932, № 3, ст. 40-50.

412. Ленц А. К. проф. Соцыялістычнае будаўніцтва і вывучэньне псыхікі. — *Сав. Краіна* — 932, № 3, ст. 39-41.

413. Морозов С. Где-же образцы работы. (Лепельская ШКМ БССР) — *За политехн. школу* — 932, № 6, ст. 45.

414. 1) Палажэньні аб узорнай Ф З. С.; 2) палажэньні аб узорнай Ш.К.М.; 3) палажэньні аб раённных школьных інструктарох-мэтадыстых; 4) Аб грамадзкіх інструктарох пры гарадзкіх і раённых аддзелах народнае асьветы. (Зацьверджана Калегіяй НКА БССР ад 10/I 1932 г.) — *Ком. Вых.* — 932, № 1-2, ст. 103-110.

415. Пастанова № 58 Колегіі Народнага Камісарыяту Асьветы БССР ад 11/IV-32 г. (Аб выніках Усебеларускай нарады музэйных работнікаў). — *Сав. Краіна* — 932. № 4, ст. 84-85.

416. Плян працы НДІ Комвыхаваньня на 1932 г. — М-к, 932, ст. 16.

417. Разгортваецца генэральная праверка работы па ліквідацыі няпісьменнасьці — *Маладняк*—932, № 4, ст. 121. Хроніка.

418. Ривлин. Всеобщее обязательное обучение в Белоруссии. (Из доклада т. Ривлина на IV пленуме Цекпроса). — *Работник Просвещения* — 932, № 17-18, ст. 33-46.

419. С.—К. На основе указаний т. Сталина Витебское ФЗУ дерется за первое место. (Конкурс ФЗУ.) — *Голос Кожевника* — 932, № 11, ст. 6.

420. Скачков И. Белоруссия — аванпотс культурной революции. — *Просвещение национальностей* — 932, № 5-6, ст. 38-39.

421. Скачков И. О культурном строительстве БССР. (Постановление об'единенного пленума ЦК и ЦКК КП(б)Б.) — *Просвещение национальностей* — 932, № 5-6, ст. 39-46.

422. Чарнушэвіч А. Культурную рэвалюцыю на службу разгорнутаму сацыялістычнаму наступу. (Апрацаваная стэнаграма дакладу на 2-м аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б). *Бальшавік Беларусі* — 932, № 6, ст. 24-37.

423. Шчуцкі. Аб перабудове работы Віцебскага музэю. — *Сав. Краіна* — 932, № 2, ст. 18-21.

424. Юркевіч Л. Глуханямыя загаварылі... (нарыс Бел. Ін-ту глуханямых у Мсьціслаўі). — *Чырв. Бел.* — 932, № 10, ст. 7 і 10.

**а) Беларуская Акадэмія Навук.**

425. Аб навуковых экспэдыцыях БАН. — *Сав. Краіна* — 932, № 3, ст. 74. Хроніка.

426. Аб працы Беларускай Акадэміі Навук. Пастанова ЦК КП(б) Б — *Сав. Краіна* — 932, № 1, ст. 3-6.

427. Вытворчы плян Беларускай Акадэміі Навук на 1932 г. М-к, 932. Выд. БАН, ст. 104. 1 руб.

428. Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва паміж масавым сэктарам БАН і колектывам комсамольскай організацыі заводу „Комунар“ — *Сав. Краіна* — 932, № 1, ст. 101-102. Хроніка.

429. Дэкаднік БАН [у Віцебску, Гомелі і Койданаўскім раёне].—*Сав. Краіна* — 932, № 3, ст. 73. Хроніка.

430. Зубрыцкі П. Кароткі агляд працы геолёгічнага Істытуту БАН за 1930 г. —Мат. па вывуч. геолёгіі і карысн. выкап. Беларусі —931, т. V, ст. 100-102.

431. Каталёг выданьняў Беларускай Акадэміі Навук за 1931 г.—М-к, 932, ст. 17. (Бел. Акад. Навук).

432. Мацюкевіч Я з. Справаздача па правядзеньню дэкадніку Беларускай Акадэміі Навук у г. Гомелі з 20 красавіка па 30 красавіка 1932 г. — *Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 89-90. Хроніка.

433. Плян работ інстытутаў БАН на 1932 г. *(Проект)* — М-к, 932, ст. 136.

434. Производственный план Белорусской Академии Наук на 1932 г. Перевод с белорусского. — М-к, 932, ст. 105. 1 руб. (БАН).

435. С—ч. У экспэдыцыі Беларускае Акадэміі Навук уцягнуць шырокія працоўныя масы БССР. — *Сав. Краіна*—932, № 5, ст. 133-134, Хроніка.

436. Серафімаў. Аб дэкадніку Беларускай Акадэміі Навук у Віцебску. —

*Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 88-89. Хроніка.

437. Соловьев М. М. Экспедиции Академии Наук. Белорусская сапропелевая экспедиция. — *Вестник Академии Наук СССР* — 932, № 2, ст. 43-44.

438. Ствараем Усебеларускі цэнтр сацыялістычнай навукі [БАН]. — *Маладняк* — 932, № 1, ст. 158. Хроніка.

439. У Біолёгічным інстытуце БАН. — *Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 98. Хроніка.

440. У Масавым сэктары БАН. — *Сав. Краіна* — 932, № 4, ст. 97-98.

441. Умова на соціялістичне змагання поміж Всесоюзною, Всеукраінскою, Білоруською академіямі наук. — Киев, ВУАН — 932, ст. 12.

442. Щербаков В. Акад. Белорусская Академия Наук. К итогам работы за 1931 г. — *Вестник Академии Наук СССР* — 932, № 5, ст. 23-29.

## 15. Друк. Выдавецкая справа.

443. Будзінскі С. і Курцік А. „Друк — самая вострая, самая моцная зброя партыі". (Даклады, зробленыя 10-11 ліпня 1931 г. на II Усебеларускім зьезьдзе рабсельвайскораў) — М-к. ДВБ, 932, ст. 183, 95 кап.

444. Вісбар. Літаратура да трэцяй вясновай бальшавіцкай сяўбы. [Агляд літаратуры]. — *Сав. Краіна* — 932, № 3, ст. 64-68.

445. Горбунов Т. С. Обмениваемся опытом борьбы за агротехнику [Газ. „Бальшавік Барысаўшчыны"]. — *Районная печать* — 932, № 4, ст. 9-10. Аб укараненьні агротэхнікі ў калгасы і саўгасы Барысаўскага раёну і аб раённых газэтах г.г. Барысава і Воршы.

446. Да агляду часопісі „Іскры Ільліча", — *Ком. Вых.* — 932, № 1-2, ст. 73-76. (Подпіс: брыгада настаўнікаў).

447. За сьцяг „Праўды"! (З вопыту Гомельшчыны ў правядзеньні конкурсу нізавога калгасна-саўгаснага друку на лепшую работу па арганізацыйна-гаспадарчым умацьваньні калгасаў). Гомель, выд. „*Палеская Праўда*" — 932, ст. 14.

448. Крымский Я. Забытые кадры. — *Журналист* — 932, № 2, ст. 15. Нататка аб газэтным сэктары палітыка-асьветнага тэхнікуму ў г. Магілеве.

449. Кузьмянскі, Зайцаў, Юдзенкоў. Палявыя брыгадныя газэты — змагары за бальшавіцкую сяўбу — *Шляхі Колект.* — 932, № 9, ст. 6.

450. М. Э. Самообязательство рабкоров Белоруссии. — *Рабоче-крестьянский корреспондент* — 932, № 2-3, ст. 10-11.

451. Нашы задачы [Часопісу „Тэхніка ў масы"]. — *Тэхн. ў масы* — 932, № 1, ст. 5.

452. Некрашэвіч Ал. З трэцяга рашаючага ў чацьверты завяршальны [Праца Бел. Дз. Выдавецтва за 1931 г.]. — *Кніга — масам* — 932, № 1, ст. 5-15.

453. Пачала выходзіць беларуская літаратурная газэта. — *Маладняк* — 932, № 4, ст. 121. Хроніка.

454. Пискунов. М. Требуем суровой кары над убийцами селькора. — *Селькор* — 932, № 1, ст. 25. Нататка аб забойстве Тарахневіча Сяргея ў вёсцы Варатынь, Бабруйскага р-ну.

455. Рашаючыя зьвеньні. Пастановы 2-га Ўсебеларускага зьезду рабсельваенкораў аб задачах рабселькораў і нізавога друку ў барацьбе за соцыялістычную жывёлагадоўлю і за тэхнічныя культуры (лён, каноплі). — М-к. газ. „*Калгасьнік Беларусі*" — 1931, ст. 14.

456. С—К. А. Пра насьценгазэты ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі. — *Паляўн. Бел.* — 932, № 4, ст. 6-7.

457. С—К А. А. „Рабселькоры — камандзіры грамадзкай думкі" [Паляўн. Каапэрацыя]. — *Паляўн. Бел.* — 932, № 1, ст. 9-10 і 13.

458. Т. К. Да папярэдніх вынікаў падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна" — *Сав. Краіна* 932, № 2, ст. 76-77. Хроніка.

459. Ударнікам бальшавіцкага друку. Важнейшыя пастановы па пытаньнях рабселькораўскага руху і ўдарніцтва ў друку. — М-к. ДВБ., 932, ст. 205. 80 кап.

460. Хавкин Л. Члены партии отвечают за стенные газеты. — *Селькор* — 932, № 2, ст. 12. Нататка аб кіраваньні партячэйкі працай нізавога друку (Слуцкі р-н).

461. Черняков. Конкурс — дело всех парторганизаций, всей пролетарской общественности БССР. — *Рабоче-крестьянский коррэспондент* — 932, № 2-3, ст. 28-31. Аб абвешчаным „Праўдой" конкурсе нізавога колгасна-саўгаснага друку. З прамовы прадстаўніка Беларускай конкурснай камісіі.

462. Шапіро І. Да пытаньня далейшых задач работы часопісі „Іскры Ільліча" — *Ком. Выхав.* — 932, № 1-2, ст. 68-73.

463. Шульман О. Обмен опытом. Шесть дней в городе Витебске. — *Журналист* — 932, № 7. ст. 12-13.

## 16. Літаратура.

464. Ад Беларускага аб'яднаньня пралетарска-калгасных пісьменьнікаў. — *Бел. Калгасная* — 932. № 1, ст. 3-5.

465. **Брыгада БелАПП на пэрыфэрыі. — Маладняк 932 № 4, ст. 122—123. Хроніка.**

466. Бэндэ Л. Янка Купала. Крытычны нарыс.—М-к. ДВБ. 932, ст. 93.
467. Дакутовіч Т. За дыялектычна-матэрыялістычны нарыс.—Маладняк 932, № 2-3, ст. 123—137.
468. Інтэрнацыянальная брыгада пісьменьнікаў ў БССР. — Чырв. Бел. 932 № 1, ст. 14; Маладняк 932, № 1, ст. 157-158.
469. Коваленко Б. Платон Галавач.—На литературном посту. 932, № 8, ст. 16—19.
470. Каваленка Б. Платон Галавач (Агляд творчасьці).—Маладняк. 932, № 2-3, ст. 103—108.
471. Сенкевич А., Конокотин О., Галавач П., Салагуб А. Классовая борьба в белорусской литературе. [Сборник]. М.—Л. Гос. изд. худ. лит-ры 932, ст. 100 (Ком. акад. Секция лит-ры народов СССР. Ин-т ЛИЯ) Содерж.: А. Сенкевич: Классовая борьба в белорусской литературе.—О. Конокотин: Обострение классовой борьбы в белорусской литературе в период социалистической реконструкции.—П. Галавач: Пролетарская литература Белоруссии.—А. Салагуб: Классовая борьба в литературе Западной Белоруссии.
472. Куніцкі С. Дзесяцігадовы творчы шлях паэты. (Нататкі пра вытворчасьць А. Александровіча).—Бел. калгасная 932, № 2, ст. 32—41.
473. Куніцкі С. Пра творчасьць Крапівы (Агульная характарыстыка). — Бел. калгасная 932, № 1, ст. 47—50.
474. Кучар Ал. Пра п'есу Андрэя Александровіча „*Напор*".—Маладняк 932, № 2-3, ст. 109—122.
475. Літоўская сэкцыя БелАПП.— Бел. Калгасная 932, № 5, ст. 84. Хроніка.
476. Пабудова Дому Пісьменьніка.—Бел. Калгасная: 932, № 4, ст. 84. Хроніка
477. Партийное совещание по вопросам искусства БССР.—Марксистско-Ленинское искусствознание 932, № 2, ст. 123—131.
478. Первая конференция Минской ассоциации пролетарских писателей.— Марксистско-Ленинское искусствознание. 932, № 1, ст. 127—133.
479. Першая канфэрэнцыя Віцебскай АПП.—Маладняк 932. № 4, ст. 123.
480. Першая літаратурная канфэрэнцыя пагранахраны і войск АДПУ БССР. [15—17. IV. 1932 у Менску].—Бел. Калгасная 932, № 4, ст. 83. Хроніка.
481. Пісьменьнікі да XV гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі [што пішуць].—Бел. Калгасная 932, № 4, ст. 83-84. Хроніка.
482. Плашчынскі І. Больш увагі творчай перабудове. [Пра творчасьць Глебкі].—Бел. Калгасная 932, № 3, ст. 92—97.
483. С. К. Пра канфэрэнцыю Мен. АПП [1. XII. 1931 г.].—Бел. Калгасная 932, № 2, ст. 43-44. Хроніка.
484. Салагуб Ал. Клясавая барацьба ў літаратуры Заходняй Беларусі. (Даклад, прачытаны 26/XI-31 г. у Інстытуце ЛІМ Комакадэміі).—Маладняк 932, № 1, ст. 119—141.
485. Самаліквідацыя літаратурна-мастацкага згуртаваньня „*Узвышша*"— Маладняк. 932, № 4, ст. 123-124. Хроніка. Перадрук з № 3 г. „Літарат. і Мастацтва. Пастановы аб ліквідацыі згуртаваньня.
486. Сологуб О. Клясова боротьба в поезії Західньої Білорусі.—Критика 932, № 1-2, ст. 49—72.
487. Сологуб Ал. Литература революционного подполья Западной Белоруссии. — Марксистско-Ленинское искусствознание 932. № 5-6, ст. 146—51.
488. Сядура Ул. Комсамол у беларускай поэзіі.—Маладняк 932. № 1, ст. 142—156.
489. Сядура Ул. Ня „стратай", а росквітам (Адкрыты крытычны ліст паэту Юлію Таўбіну).—Маладняк 932, № 4, ст. 90—101.
490. Творчыя групоўкі ўнутры БелАПП.—Бел. Калгасная, 932 № 4, ст. 84-85. Хроніка.
491. Шарахоўскі Я. Гімн жыцьцю і сонцу (Творчасьць В. Каваля).—Маладняк 932, № 4, ст. 67—89.

### 17. Мастацтва. Тэатр. Кіно.

492. Вольскі В., Модэль М. „*Штурм*" (Беларускі Дзяржаўны Яўрэйскі тэатр).—Маладняк 932, № 4, ст. 113—116.
493. Вольскі В. Асноўныя этапы разьвіцьця дзяржаўных тэатраў БССР, Маладняк 932, № 2-3, ст. 138—154. (Выпраўленая для друку станаграма дакладу на 1-ай Усебеларускай нарадзе па мастацтву пры ЦК КП(б)Б, 9 сьнежня 1931 г.).
494. Логинов П. Борьба с белопольской интервенцией в 1920 г. (Пояснительный текс к серии диапозитивов)—М. 932, ст. 20.
495. Любан. Напярэдадні арганізацыі беларускай опэры (Нарыс).—Чырв. Бел. 932, № 14, ст. 11-12.
496. Моін М. Пяць год працы Б.Д.Я.Т. [Бел. Дзярж. Яўр. Тэатру.— Чырв. Бел. 932, № 10, ст. 11—13.
497. Организация труда в колхозе.—Кино-репертуар 932, № 2, ст. 5-6. Кіно-фільм Белдзяржкіно.
498. Поэма имени освобождения.— Кино-репертуар 932, № 2, ст. 21. Гукавая кіно-фільма вытворчасьці Белдзяржкіно.




499. Ремонт сельско-хозяйственных машин.—Кино-репертуар 932. № 2, ст. 23. Кіно-фільма вытворчасьці Белдзяржкіно.

500. Речь т. Голодеда.—Кино-репертуар 932, № 2, ст. 21. Гукавая хроніка вытворчасьці Белдзяржкіно. Тэма—прамова старшыні СНК Галадзеда аб соцыялістычным будаўніцтве БССР.

501. Соцыялістычнае спаборніцтва паміж БДТ-І і Украінскім Чырвоназаводзкім тэатрам, *Маладняк.*—932, № 1, ст. 157. Хроніка.

502. Соцспаборніцтва БДТ-І УЧ-ЗТ [Бел. Дзярж. Театр 1 і Украінскі Чырвоназаводзкі тэатр].—Чырв. Бел. 932, № 1, ст. 14.

503. Стварэньне 3-га Беларускага Дзяржаўнага тэатру.—Маладняк, 932 № 4, ст. 123.

504. Южин Л. Кинотеатры шефствуют над заводами.—Рабис. 932, № 1, ст. 15. Нататка аб Віцебскім філіяле Белгоскіно, організаваўшым шэфства над фабрыкамі і заводамі.

505. Яўрэйскі Дзяржаўны Тэатр БССР.—Чырв. Бел. 932, № 1, ст. 12-13.

### III. Гісторыя.

506. Баркоўскі С. Першае мая на Беларусі. (Гістарычны нарыс). 3-е выд. дапоўн. і перапробленае.—М-к. 932, ст. 44, ц. 60 к. (Бел. Акад. Навук. Масавы сэктар і Ін-тут гісторыі).

507. Данільчык. Як вывучаць гісторыю фабрык і заводаў.—Сав. Краіна 932, № 1, ст. 86—91.

508. 12 год без паноў і капіталістаў. М-к. ДВБ. 932, ст. 60, 25 к. (Ін-т гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Масавы сэктар).

509. Дыскусія аб „*Нашай Ніве*".—М-к. 932. ст. 104, 2 руб. (Т-ва гісторыкаў-марсыстаў Беларусі. Вып. II). Уступнае слова Сэрбэнты, даклад Дудкова, выступленьні Югава, Поташа, Кернажыцкага.

520. Кернажыцкі К. І. Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імпэрыялістычнай вайной.—М-к 932, 102 ст. 1 р. 10 к. (Бел. Акад. Навук. Інстытут Гісторыі).

511. Кернажыцкі К. Старонка з гісторыі рабочага руху часоў імпэрыялістычнай вайны. (Забастоўка кітайцаў у 1916 г. у Віцебск. губ.)—Сав. Краіна 932, № 4, ст. 65—70.

512. Ляўданскі А. Н. і Палікарповіч К. М. Да гісторыі жалезнай прамысловасьці па Беларусі па даных археолёгіі (папярэднія даньня).—Сав. Краіна. 932, № 5, ст. 55—84. (Дадатак: літаратура і заўвагі, 1 схэматычная мапа БССР з адзнакай месц, дзе ў старажытныя часы выплаўлялася жалеза).

513. Міхневі... віч. (Нэкролёг).— ... ст. 127—129 (Сьпі... ваў).

514. Пушкаревич К. А. Преобразование духа народности (эпизод из истории руссификации Белоруссии). Представлено академиком Н. С. Державиным.—Известия Академии Наук СССР 932, № 1, ст. 15—33. Доложено в пленарном заседании ин-та славяноведения АН СССР 8/I-32.

515. Самцэвіч В. Турысты—за вывучэньне гісторыі грамадзянскай вайны. Склаў В. Самцэвіч.—М-к. 932, 16 ст., 10 кап. (Бел. Рэсп. савет. т-ва прол. турызму і экскурсій. Навукова-мэтодычны сэктар). *Зьмест.* 1. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб выданьні „Гісторыі грамадзянскай вайны" 2. Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб выданьні „Гісторыі грамадзянскай вайны ў Беларусі". 3. Усім барацьбітом за Кастрычнік. (Адозва рэдакцыі „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі"). 4. Інструкцыя па зьбіраньні матар'ялаў па гісторыі грамадзянскай вайны. 5. Усім раённым саветам і ячэйкам т-ва пролетарскага турызму і экскурсій (Ад навукова-мэтодычнага сэктару Бел. савету т-ва пролет. турызму і экскурсій).

516. Черенович С. Тактические уроки отхода 3-ей польской армии в июне 1920 г.—Война и революция, 932, № 1, ст. 48—60.

517. Шчарбакоў В. Партызанскія атрады ў барацьбе супроць польскіх легіонэраў корпусу Доўбар-Мусьніцкага. Сав. Краіна 932, № 1, ст. 20—28.

518. Witkowski J. Powstanie 1863 r. i rosyjski ruch rewolucyjny początku 1860-ch lat (Próba porównania programów i działalności na podstawie ówczesnych wydawnictw nielegalnych). Książka 3.—Mińsk. 931 [932]. 166 str. 3 rub. (Biał. Akad. Nauk. Sektor polski).

### IV. Заходняя Беларусь.

519. Браткоўскі. Змаганьне супроць нацыянальнага прыгнёту. [Зах. Бел. і Украіна].—Бальш. Бел. 932, № 1-2, ст. 20—33.

520. Ліст да работніц-тэкстыльшчыц Заходняй Беларусі.—Раб. і калгас. Бел. 932, № 8, ст. 8-9. (Подпіс: „ад імя р-ц ф-кі „Дзьвіна"—Трыкутнік ф-кі").

521 Ліст да сялянак Польшчы і Зах. Бел. ад калгасьніц колгасу „Камінтэрн", Рубілкоўскі с/савет, Койданаўскі раён.—Раб. і калг. Бел. 932, № 8, ст. 9. (Пад арт. подпісы брыгады калгасьніц-ударніц калг. „Камінтэрн").

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук

# ВЫДАНЬНІ
## Масавага сэктару Беларускай Акадэміі Навук і Ц. Б. Краязнаўства,
### якія вышлі ў сьвет у 1931 і 1932 гг.

**НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ**

1. **Баркоўскі С.**—Першае мая на Беларусі. (Гістарычны нарыс).—Масавы сэктар і Ін-т гісторыі, 3-е выд. дапоўнен. і перапрацаванае. М. 1932. Стар. 44. 1.000 экз. Ц. 60 к.
2. **Булыга С. М.** — Вапняковыя пароды БССР. (Да 3-яй бальшавіцкай вясны),—Масавы сэктар. М. 1932. Стар. 18. Карта 1. 1.000 экз. Ц. 20 к.
3. **Вывучай гісторыю грамадзянскай вайны.** Пастановы ЦК УсеКП(б) ЦК КП(б)Б, адозва М. Горкага і інструкцыі.—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 20. 3.000 экз. Ц. 7 к.
4. **Вывучай гісторыю заводаў.** Пастанова ЦК УсеКП(б). Артыкул М. Горкага.—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 11. 3.000 экз. Ц. 5 к.
5. **Ганчарык М.**—Аб культуры соі ў БССР.—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства М. 1932. Стар. 15. 1.000 экз. Ц. 15 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна" № 3 (17) 1932 г.).
6. **Грынблят М. і Ляўданскі А.**—Краязнаўчыя музэі і веснавая пасяўная кампанія.—Масавы сэктар і Ін-т гісторыі. М. 1932. Стар. 59. 1.000 экз. Ц. 45 к.
7. **За савецкае краязнаўства.** (Матар'ялы да краязнаўчай пяцідзенкі). — ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 28. 2.000 экз. Ц. 25 к. (Асобны адбітак з часопісу „Савецкая Краіна" № 1-2 за 1930 г.).
8. **Магілеўчык З. К. д-р.**—Зрухі і задачы санітарнага аздараўленьня вёскі ў сувязі з соцыялістычнай яе рэканструкцыяй.—М. 1931. Стар. 15. 500 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая краіна" № 7 (9) за 1931 г.).
9. **Маргелаў і Лойка.**—Праграма экономіка-географічнага апісаньня раёнаў БССР.—Масавы сэктар і Ін-т экономікі. М. 1932. Стар. 16. 300 экз, Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна" № 3 (17) 1932 г.).
10. **Монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў.**—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 34. 2.000 экз. Ц. 30 к.
11. **Мяжэвіч Ул.**—Людзі зямлі. М. 1931. Стар. 20. 1.000 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна" № 7 (9) за 1931 г.).
12. **Палажэньне аб раённым бюро краязнаўства.**—ЦБ Краязнаўства. М. 1932. Стар. 11. 3.000 экз. Ц. 10 к.
13. **Поляк А. П.**—Організацыя дашкольных дзіцячых установ. (Да 3-й бальшавіцкай вясны).—Ін-т біолёгічных навук і Масавы сэктар. М. 1932. Стар. 54, 1.000 экз. Ц. 40 к.
14. **Рагавы П.**—Кароткая інструкцыя да вывучэньня глеб БССР краязнаўчымі організацыямі.—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 16. 300 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна" № 8 (10) 1931 г.).
15. **Рудзіцкі Л.**—Фашызацыя буржуазнай дзяржавы і соцыял-фашызм.—Масавы сэктар. М. 1932. Стар. 20. 1.000 экз. Ц. 25 к.
16. **Самцэвіч В.**—Як організаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе.—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 20. 1.000 экз. 10 к.
17. **Самцэвіч В.**—Як організаваць монографічнае вывучэньне раёну.—М. 1931. Стар. 15. 500 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна" № 7 (9) за 1931 г.).

(гл. на адвароце)

18. **Самцэвіч В.**—У масавы дасьледчы паход за сыравінай для прамысловасьці другой пяцігодкі.—Масавы сэктар і ЦБК. М. 1932. Стар. 29. 1.000 экз. Ц. 25 к.

19. **Серафімаў Б.**—Вывучай колгас. Програма монографічнага вывучэньня колгасу.—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 15. 3.000 экз. Ц. 15 к.

20. **Фішар Н.**—Аб станозішчы організацыі працы ў колгасах БССР. (Паводле матар'ялаў абсьледваньня 40 колгасаў БССР у 1931 г.).—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства. М. 1932. Стар. 39. 2.000 экз. Ц. 20 к.

21. **Экскурсія на завод.** [Мэтодычная схема пабудовы і правядзеньня экскурсій на завод].—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 8. 3.000 экз. Ц. 5. к.

22. **Зборнік програм і інструкцый па краязнаўству.** Вып. 1-ы—Ц. Б. Краязнаўства. М. 1932. Стар. 143. 1.000 экз. Ц. 75 к. (Зьмест: Ад ЦБК. Палажэньне аб раённым бюро краязнаўства. Тыповы статут краязнаўчай ячэйкі. **В. Самцэвіч**—Вывучай завод. **А. Ляўданскі**—Організацыя музэяў на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах. **І. Мацьвяёнак**—Програма краязнаўчае працы па гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі. **С. Р. Шчуцкі**—Програма вывучэньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасах. Кароткая програма па вывучэньні працы і быту рабочых на лесараспрацоўках. **Доцэнт З. К. Магілеўчык**—Програма санітарнага вывучэньня колгасаў. **М. Грынблят**—Аб вывучэньні фольклёру рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва. **В. Міхайлоўская**.—Програма да вывучэньня дзікарастучых расьлін па БССР і спосабы іх гэрбарызацыі. **В. Міхайлоўская**—Кароткая інструкцыя да зьбіраньня лекавых расьлін. **В. Купрэвіч**—Інструкцыя па вывучэньні і выкарыстаньні страўных грыбоў і грыбных угодзьдзяў. **Фэнолёгічныя нагляданьні ў краязнаўчай працы**).

## НА ЯЎРЭЙСКАЙ МОВЕ:

23. דערקלערן די געשיכטע פון בירגער־קריג.—Масавы сэктар і ЦБК. М. 1931. Стар 20. 1.000 экз. Ц. 15 к.

24. דערקלערן די געשיכטע פון די זאוואָדן.—Масавы сэктар і ЦБК. М. 1931. Стар. 11. 1.000. ц. 5 к.